

Мінскі аўтазавод. Шліфоўшчыца Майя Казлова, спаборнічаючы ў чэсць XX з'езда КПСС, перавыконвае нормы ў два разы.

Фото М. Мінковіча.



## ДНЁМ І НОЧЧУ

Па вялікіх і малых дарогах ідуць зараз аўтамашыны, нагружаныя зернем. Часам на іх развяваюцца чырвоныя сцягі. Часам з іх чуюцца гукі баяна, песні. Днём і ноччу ідуць яны, перасякаючы калгасныя і соўгасныя палі, трымаючы курс да гарадоў, да раённых цэнтраў, да чыгуначных станцый. Хлеб ідзе!

Акт перадачы каштоўнейшага груза дзяржаве праводзіцца з належнай урачыстасцю. Пункты «Заготзбожжа» прыбраліся. Жывыя кветкі і яркія прамавугольнікі плакатаў, віншавальныя транспаранты, музыка. Днём і ноччу з пачуццём гонару працаўнікі калгаснай вёскі абмалочваюць ураджай, здаюць хлеб дзяржаве. Больш хлеба — ярчэй народнае шчасце!

Паспяховы ход збожжанарыхтовак у многім залежыць ад арганізацыі справы на прыёмачных пунктах «Заготзбожжа». Добрую ініцыятыву праявіла адміністрацыя прыёмачнага пункта ў пасёлку Гарадзея Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. Тут да работ была прыцягнена вялікая група моладзі—вучняў старэйшых класаў, школы. Разам з калектывам прыёмачнага пункта вучні актыўна ўзяліся за справу і шмат дапамаглі калектыву пункта.

Гарадзейскі прыёмачны пункт адзначаецца добраўпарадкаванасцю: ён мае ўтульны чырвоны куток, упрыгожаны плакатамі. На тэрыторыі пункта па ініцыятыве лабаранткі комсамолкі Марыі Шандар быў выдзелены ўчастак у 0,15 га, на якім вырошчваецца кукуруза. Двухметровыя зараслі наглядна паказваюць наколькі паспяхова можа расці ў нас гэтая выдатная культура.

Свае непасрэдныя абавязкі — лабарантаў, таксіроўшчыкаў і г. д. — моладзь выконвае выдатна.

На здымках: здача хлеба дзяржаве на Гарадзейскім пункце «Заготзбожжа» Мінскай вобласці. Уверсе — экспедытар соўгаса «Горны Сноў» Ф. С. Ермакоў перадае таксіроўшчыцы комсамолцы Соні Хмяльніцкай дакументы на дастаўлены хлеб. Унізе — начны рэйс машын калгаса «Новае жыццё» Нясвіжскага раёна.

Фото А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання III.

№ 10(31).

Кастрычнік.

1955.

## ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА!

Як толькі восень пазалоціць на дрэвах лісце, зноў абуджаюцца маладымі галасамі сцены навучальных устаноў. Садзяцца за парты вучні, уважліва слухаюць лекцыі прафесараў студэнты, закончыўшы работу, бяруцца за кнігі завочнікі і тыя, хто без адрыву ад вытворчасці штурмуе вяршыні навук. Краіна наша, нібы вялізны універсітэт, дзе кожны павышае і паглыбляе свае веды. Ды і ці можа быць інакш? Савецкія людзі — разведчыкі камунізма, а разведчыкам патрэбна не толькі смеласць, — ім патрэбны багатыя веды. Блуканне ў поцемках, хада вобмацкам — вось што такое адсутнасць ведаў для нас. І не дзіўна, што кожны савецкі чалавек, які ўсведамляе сваю гістарычную місію творцы новага жыцця, — будзь ён прафесар ці токар, артыст ці камбайнер, — настойліва авалодвае ведамі.

Яснасць мэты, настойлівае імкненне да яе, свядомае выкананне сваіх пачэсных абавязкаў—характэрныя рысы савецкага чалавека. Усё гэта не прыйшло само. Яно з'явілася вынікам глыбокага авалодання марксісцка-ленінскай тэорыяй. Вялікія ідэі Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна авалодалі масамі настолькі, што сталі непераможнай зброяй у барацьбе за камунізм. Уявіце сабе рабочых, якія хочуць пабудаваць дом, не маючы ніякіх ведаў па будаўніцтву. Справа—цяжкая і немагчымая! Затое, як спорыцца праца ў тых рабочых, якія добра авалодалі кладкай сцен і тынкоўкай. Нешта падобнае можна прыгадаць, уявіўшы нашу краіну вялізнай пляцоўкай будаўніцтва камунізма. Там, на тых участках, будзе паспяхова ісці барацьба за камунізм, дзе будаўнікі яго глыбока авалодалі вучэннем аб камуністычным грамадстве — марксісцка-ленінскай тэорыяй.

Мы, камсамольцы, — людзі нязгаснай энергіі, нястрымнай волі. І наша надзённая камсамольская справа — не толькі самім глыбока вывучаць марксізм-ленінізм, але прыцягваць да марксісцка-ленінскай вучобы ўсю моладзь. Гэта пачэсны абавязак кожнай пярвічнай камсамольскай арганізацыі.

Сёлета ў сетцы камсамольскай палітасветы адбыліся значныя змены. Рэарганізаваны палітшколы, рэкамендавана ствараць гурткі бягучай палітыкі, гурткі па вывучэнню біяграфіі В. І. Леніна. Сістэма палітычнай асветы стала больш строгай і адпавядаючай інтарэсам моладзі.

Добрыя намеры—яшчэ поўсправы. Каб намеры ўвасобіліся ў канкрэтныя справы, трэба шмат папрацаваць камітэтам камсамола.

Вось ужо два тыдні, як пачаліся заняткі ў гуртках і палітшколах. У большасці пярвічных арганізацый яны пачаліся арганізавана, прайшлі цікава і змястоўна. Добры пачатак — прыемная з'ява. Але-ж нельга дапускаць мінулагодніх памылак, калі пасля першых заняткаў гурткі распадаліся, палітшколы спынялі сваю работу. Увесь навучальны год правесці арганізавана — вось наша пачэсная задача.

Многія камсамольцы сёлета сталі прапагандыстамі. Што можа быць больш пачэсным, чым гэтае даручэнне! Вялікія Ленін і Сталін з гордасцю насілі гэтае званне. Быць прапагандыстам марксісцка-ленінскага вучэння — такога гонару ўдастойваецца не кожны. І калі табе, дарагі таварыш, выпала такая чэсць, беражы яе. Будзь дастойны вялікіх кіраўнікоў рабочых гурткоў В. І. Леніна, І. В. Сталіна, М. І. Калініна. Вучыся настойліва сам, даходліва і зразумела растлумачвай марксізм-ленінізм моладзі.

У камсамола многа неадкладных спраў. Але наўрад ці ёсць больш пачэсная, чым справа выхавання моладзі ў духу камунізма. За вучобу-ж, сябры! Будзем вучыцца, вучыцца і вучыцца, як завяшчаў нам Уладзімір Ільіч Ленін.

## БРАТЭРСТВА

Вось ужо амаль поўгода, як у жыхароў адной з кватэр дома № 5 па Казарменнаму завулку ў Мінску жыццё ідзе ў строгім, вельмі напружаным рытме. Тут жывуць шасцёра маладых людзей. Яны ўстаюць у палове сёмай і хутка ідуць па пустым двары.

Маладыя людзі нясуць у руках кнігі і сшыткі. Можна падумаць, што яны студэнты. Але на іх — сіняя заводская спецвопратка. Яны праходзяць мост праз Свіслач і ідуць далей да варот станкабудаўнічага завода імя Варашылава. На хаду яны абменьваюцца жартамі і кароткімі фразамі, старанна, але не заўсёды правільна вымаўляючы рускія словы. Ім яшчэ цяжка гаварыць па-руску: яны вывучаюць гэтую мову толькі каля года.

Шасцёра маладых людзей — грамадзяне Кітайскай Народнай Рэспублікі. Да прыезду ў Мінск яны жылі ў розных раёнах Кітая, працавалі на заводах. Старэйшы з гэтай групы — таварыш Лю Чуаньлу быў начальнікам ліцейнага цэха. Таварыш Цянь Мо-хоа — інжынер-металург з шасцігадовым стажам. Яго больш маладыя таварышы — Чжан Юн-сян і Лу Дзін-І — тэхнікі-металургі. У Хун працаваў на сваім заводзе начальнікам аддзела тэхнічнага кантролю і, нарэшце, Ван Чжан мае спецыяльнасць электрыка.

Усе яны не расстаюцца са слоўнікамі, у іх сшытках многа запісаў на рускай мове, але не трэба думаць, што яны прыехалі ў Мінск, каб у дадатак да сваіх тэхнічных спецыяльнасцей стаць яшчэ і лінгвістамі.

Павольна падбіраючы словы, гледзячы проста ў вочы субяседніку і быццам увесь час сумняваючыся ў правільнасці вымаўлення, таварыш Лю так тлумачыць мэту іх прыезду да нас:

— У Кітаі раней была дрэнна развіта прамысловасць. Буйнага станкабудавання не было зусім. Цяпер Кітай вучыцца ў Савецкага Саюза і развівае сваю цяжкую прамысловасць. І мы, шэсць чалавек, вучымся на савецкім заводзе майстэрству станкабудавання. На заводзе імя Варашылава мы праходзім вялікую практыку.

— І тэорыю! — дадае У Хун і ўсміхаецца.

На заводзе кітайскія таварышы нібы дублююць работу нашых спецыялістаў. Так, напрыклад,



У Хун, які выконвае абавязкі майстра АТК, разам з майстрам зборкі камсамольцам Ф. Куліноўскім наглядаюць за работай новага станка.



Заняткі праводзіць галоўны металург завода І. В. Міцячоў. Распрацаваны ім спосаб адліўкі цяжкіх дэталей з паскораным ахаладжэннем у пяць разоў паскарае тэмп работы і паляпшае якасць металу. Запісы гэтых заняткаў абведзены ў сшытках слухачоў хвалістымі лініямі — знак асаблівай увагі.

Урок рускай мовы. Вядзе заняткі М. А. Сямёнава.



У Хун выконвае і ў Мінску свае абавязкі тэхнічнага кантралёра. Ён працуе ў зборачным цэху. Пасля яго за тую-ж работу бярэцца штатны кантрольны майстар, і У Хун мае магчымасць наглядна пераканацца ў правільнасці або памылковасці свайго меркавання.

— Я яшчэ не зусім магу кантраляваць так, як совецкі майстар. Я яшчэ з'яўляюся вучнем!

Ён гаворыць гэта зусім шчыра, без напускной сціпласці, з усведамленнем чалавека, які можа дасягнуць жаданай мэты.

Частку дня кітайскія таварышы сядзяць за партамі. Яны вывучаюць рускую мову, металургію, чарчэнне і іншыя спецыяльныя прадметы. Потым яны абедаюць у заводскай сталовай і разыходзяцца па цэхах. У цэхах у іх столькі-ж сяброў, колькі працуе там людзей. Іх выдатныя асабістыя якасці хутка пераўтвараюць знаёмства ў сапраўдныя таварыскія, братэрскія адносіны. Іх прамага больш клопатаў аб сваіх кітайскіх сябрах. Іх запрашаюць да сябе ў госці, на спортпляцоўку, прагуляцца за горад, наведаць кіно, тэатр. Але нават самыя настойлівыя запрашэнні часта не дасягаюць мэты: кітайскія таварышы шануюць час. Яны праседжваюць усе вечары за кнігамі.



У выхадны дзень за ігрой у кітайскія шахматы.



Лю Чуань-лу з адной з сваіх маленькіх сябровак.

цалюбства і дысцыпліна ўвайшлі на заводзе ў пагаворку.

У сваю кватэру гэтыя шасцёра таварышаў вяртаюцца пасля васьмі гадзін вечара. Летам, калі ў гэты час было яшчэ светла, на двары іх сустракалі ўзбуджаныя воклічы дзяцей:

— Добры дзень дзядзька У! (Гэтае нескладанае прозвішча было вывучана ўсім дваром адразу-ж пасля першага знаёмства.) Добры дзень, дзядзька Іван! (Так быў раз і назаўжды названы Ван Чжан.) Добры дзень, добры дзень!

І якая-б не была стомленасць, шасцёра любімых усім дваром маладых людзей бяруць рабят на рукі, гаворыць ім пяшчотныя словы, асцярожна падкідваюць іх угару. І пасля яны прызнаюцца адзін другому ў тым, што не знаходзяць ніякай розніцы паміж кітайскімі і совецкімі дзецьмі. І тыя, і другія аднолькава любыя іх сэрцу.

Заводская моладзь і пажылыя рабочыя імкнуцца праявіць як

І ўсё-ж ужо двойчы яны глядзелі наш балет. Былі на спектаклях Шаосіньскай оперы, якая прыязджала ў Мінск. Зрэдку ходзяць у кіно. Выязджалі ў прыгарады Мінска. Адну з такіх загарадных прагулак яны правялі на аўтамашынах, якія належаць рабочым завода. Арганізатарам паездкі быў слесар-інструментальшчык Аляксандр Бароўскі.

— Вельмі хутка праходзіць час! Праз год наша практыка на заводзе закончыцца. Але мы назаўсёды будзем разам. Наша дружба, якая ўзнікла тут, у Совецкім Саюзе, будзе працягвацца ў Кітаі. Мы ўсе шасцёра будзем працаваць на адным з новых заводаў Народнага Кітая і заўсёды будзем успамінаць сваіх сяброў з Беларусі. І будзем звяртацца да іх за дапамогай, як да родных братоў!

Гэтыя заключныя словы гутаркі таварыш Лю Чуань-лу вымаўляе асабліва цёпла. Прамяністыя, цёмныя вочы яго прыжмурваюцца, а губы складаюцца ў добрую ўсмешку.

Тэкст і фота А. Дзітлава.

Кітайскія таварышы на прагулцы па Мінску. Аб родным горадзе сваім новым сябрам расказвае інструментальшчык Аляксандр Бароўскі. Злева направа: Лу Дзін-і, У Хун, Чжан Юн-сян, А. Бароўскі, Лю Чуань-лу, Цянь Мо-хоа і Ван Чжан.



Аляксей КУЛАКОЎСКІ

# Майскія ПРЫСАДЫ

Прыемна спытаць у дарозе: «Ці далёка Майскае?» Гэтая назва вёскі лёгка запамінаецца, лёгка вымаўляецца. І кожны пакажа табе, дзе гэтая вёска.

А калі пераедзеш Дняпро каля Жлобіна ці каля Рагачова і выедзеш з лесу, то хутка і сам убачыш Майскае. Заўважыш спачатку яго высокія раскошныя прысады, а потым і будынкі замігцяць у зеляніне: некаторыя чырванню цэглы, а некаторыя шклом шырокіх вокан.

Сады і прысады — вялікі гонар майскіх калгаснікаў. Некалі, у дваццатым годзе, тутэйшыя беднякі і батракі арганізавалі таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі. Дык яшчэ тады яны пасадзілі многа таполяў і пладовых дрэў. Зберaглі тое, што было, і пасадзілі многа новага. За дзесяткі мінулых год Майскім садам і прысадам, як і тутэйшым людзям, давялося перанесці нямала пакут і выпрабаванняў. Быў такі час у Айчынную вайну, што пасярэдзіне Майскага, якраз па гэтых прысадах, праходзіла варожая абарона. Фашысты трымаліся тут некалькі месяцаў, дык не цяжка уявіць, што засталося ад гэтых прысад. Аднак пад руплівым доглядам майскіх калгаснікаў, і асабліва моладзі, прысады зноў выраслі за пасляваенныя гады. Іх узнаўленне нібы сімвалізуе ўзнаўленне самога калгаса, нагадвае кожнаму пра слаўную гісторыю Майскага і яго людзей.

Скажам два словы пра гэтую гісторыю, бо нам здаецца, што яна можа зацікавіць нашу моладзь. У тысяча дзевяцьсот дваццаць чацвёртым годзе ў цяперашнім Майскім, а тады — у Шапілаве, была арганізавана сельскагаспадарчая арцель пад назвай «Рассвет». У гэтым-жа годзе тут была створана комсамольская арганізацыя. Летась было трыццаць год гэтай арганізацыі, аб чым, к слову сказаць, не ўспомнілі ні ў Жлобінскім райкоме, ні ў Гомельскім абкоме комсамола.

А заўважыць трэба было. У дваццатых гадах комсамольцы Майскага бралі на сябе самы большы цяжар па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгаса. Партыйнай арганізацыі ў вёсцы тады яшчэ не было. Па ініцыятыве комсамольцаў быў распрацаваны статут арцелі. Гэта быў адзін з першых калгасных статутаў не толькі ў Беларусі, а і ва ўсім Савецкім Саюзе. Многа спецыялістаў сельскай гаспадаркі прыязджала потым у «Рассвет», каб вывучыць вопыт кіравання калектыўнай гаспадаркай і форму аплаты за працу.

У гады масавай калектывізацыі комсамольцы Майскага (дарэчы, і назву вёскі яны прапанавалі самі, па свайму густу, па свайму настрою) увесь час былі самымі актыўнымі прапагандыстамі калгаснага ладу. У гэты час у вёсцы ўжо была створана партыйная арганізацыя. Разам з комуністамі вясковыя комсамольцы на лепшых прыкладах уласнага жыцця і працы пераконвалі сялян-беднякоў і серадНЯКОЎ у вялікай перавазе калгаснага ладу. Калі раней у калгасе «Рассвет» было ўсяго толькі дваццаць сем гаспадарак, то ў дваццаць восьмым годзе стала ўжо сто восем. З'явіліся калгасы таксама ў суседніх вёсках.

Ішло потым сцяганне хутароў. Нялёгкай была гэтая справа. Тут патрабавалася не толькі разумная агітацыя, а і канкрэтная дапамога тым, хто павінен быў перасяляцца. Калгасныя комсамольцы арганізоўвалі спецыяльныя будаўнічыя брыгады, дапамагалі хутаранам індывідуальна. Гэта спрыяла ўмацаванню калгаса. «Рассвет» пачаў хутка набіраць сілу і служыць добрым прыкладам не толькі на Жлобіншчыне, а і далёка за межамі раёна. А якія выпрабаванні даводзілася пераадольваць комсамольцам у барацьбе з кулацтвам і іншымі варожымі элементамі! Аб гэтым можна было-б напісаць цэлую кнігу.

Хто-ж гэтыя першыя комсамольцы калгаса «Рассвет»? Хто першыя комуністы? Гэта, вядома, мясцовыя людзі з бядняцка-батрацкага асяроддзя, людзі актыўныя, сумленныя, бязмежна адданыя сваёй Радзіме, Комуністычнай партыі. Мы не здолеем тут усіх іх назваць, таму што для гэтага спатрэбілася-б спецыяльнае даследаванне. Назавем толькі некаторых, якіх усе ў Майскім добра ведаюць і памятаюць. Гэта Серадоў Фёдар Іванавіч, Пугачоў Рыгор Якаўлевіч, Чэшанкоў Іван Мітрафанавіч, Машніцкі Уладзімір Аксенцьевіч, Драчоў Нікіфар Андрэевіч, Чаускі Міхаіл Маркавіч, Пугачоў Марк Якаўлевіч, Серадоў Ціхон Аляксандравіч, Пугачоў Піліп Якаўлевіч, Станіслаў Лаўрэн Андрэевіч, Кавалёў Яўціхей Цітавіч.

Многіх з гэтых таварышаў цяпер ужо няма ў жывых. Загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны Пугачоў Рыгор Якаўлевіч, Машніцкі Уладзімір Аксенцьевіч, Кавалёў Яўціхей Цітавіч. Адзін з першых комуністаў Майскага Станіслаў Лаўрэн Андрэевіч пайшоў на фронт разам са сваім сынам комсамольцам Аляксандрам. І абодва яны па-геройску загінулі ў суровай бітве з лютым ворагам.

У калгасным парку сярод акацый і цудоўных кустоў бэзу ёсць некалькі брацкіх магіл тых байцоў нашай арміі, якія загінулі ў часе вызвалення Майскага. Калгаснікі рупліва даглядаюць і шануюць гэтыя магілы ў памяць незнаёмых байцоў і ў памяць сваіх аднавяскоўцаў.

З радасцю трэба сказаць, што некаторыя з тутэйшых комсамольцаў і комуністаў дваццатых гадоў жывуць і працуюць цяпер. Нам давялося сустрэцца з Маркам Якаўлевічам Пугачовым. Ён працуе намеснікам старшыні майскага калгаса, які цяпер названы імем Вячэслава Міхайлавіча Молатава. Адначасова Марк Якаўлевіч з'яўляецца сакратаром калгаснай партыйнай арганізацыі. Гэта вельмі паважаны і аўтарытэтны ў вёсцы чалавек. Як і некалі ў маладосці, ён нястомны, як у працы, так і ў розных грамадскіх мерапрыемствах. З цямна да цямна ён на полі, на сенажаці, у брыгадах, на фермах. А ўвечары зноў у Марка Якаўлевіча не мала работы: то сход, то пасяджэнне бюро, то лекцыя ў клубе. Да яго ідуць за парадамі комуністы, комсамольцы, проста калгаснікі. І мы поўнасцю верым майскім комсамольцам, калі яны заяўляюць, што ў калгасе яшчэ не было ніводнага комсамольскага сходу, на якім-бы не прысутнічаў Марк Якаўлевіч.

Фёдар Іванавіч Серадоў працуе старшынёй суседняга калгаса «Ленінец», але жыве, як і раней, дома, у Майскім. Тут-жа ўсе гады жыве і працуе яшчэ адзін актывіст першых дзён арганізацыі калгаса Іван Цітавіч Кавалёў. Часта гэтыя старажылы збіраюцца разам, і тады гаворка заходзіць аб мінулых справах. Успамінаюцца ўсё новыя і новыя дэталі барацьбы за шчаслівае жыццё, успамінаюцца людзі, што некалі працавалі тут, былі членамі мясцовай комсамольскай арганізацыі. Гутараць аб тым, хто дзе працуе цяпер, як жыве, колькі дзяцей мае, што робяць дзеці, калі яны ўжо дарослыя. Успамінаюць у такіх выпадках і пра Міхаіла Маркавіча Чаускага. Некалі у дваццаць чац-



Віктар Камароўскі (крайні справа), які за паспяховую дзейнасць па распаўсюджванню кніг узнагароджаны ганаровай граматай ЦК ЛКСМБ, знаёміць сваіх таварышаў з новай кнігай.

## ГАНАРОВАЯ

У Дзержынску кнігі прадаюцца не толькі ў магазінах і кіёсках. Да жыхароў гэтага маленькага, утульнага гарадка кнігі паступаюць проста дамоў, і купіць іх можна каля расчыненага акна, на ганку, каля стала, накрытага расшытым кветкамі абрусам.

Калі вы днём працуеце, а потым ідзеце на заняткі ў вячэрнюю школу, дык для наведвання магазінаў у пошуках патрэбнай кнігі вам застаюцца лічаныя мінуты.

Дамашняя гаспадыня, пад наглядам якой знаходзіцца не толькі кватэра, але і маленькія дзеці, таксама добра ведае цану часу. І калі яна жадае набыць для дзяцей новую казку ці альбом для размалёўвання, ёй часта даводзіцца звяртацца за дапамогай да суседзяў. Жыхары Дзержынска гэтых нязручнасцей не адчуваюць. Іх дамы рэгулярна наведваюць кніганошы. У іх не толькі ёсць пэўны выбар кніг, але яны таксама прымаюць заказы на патрэбную літаратуру.

Дзержынскія кніганошы — комсамольцы. Па ініцыятыве райкома комсамола вялікая група вучняў старэйшых класаў, якія добра спраўляюцца са сваімі школьнымі



Кніганошы атрымліваюць у магазіне Аблкнігагандлю літаратуру, заказаную пакупнікамі.



Калгасныя электрыкі — манцёр Аляксандр Каштанаў (злева) і механік Міхаіл Панькін кантралююць якасць работы сіласарэзкі з электрычным прывадам.

вёртым годзе, ён быў сакратаром тутэйшай комсамольскай арганізацыі, а цяпер працуе рэдактарам часопіса «Вожык».

Бывае, што пры такіх сустрэчах прысутнічаюць цяперашні старшыня калгаса Анатолі Лукіч Ланчакоў, сакратар комсамольскага камітэта Міхаіл Панькін ды яшчэ хто-небудзь з комсамольцаў. Тады старажылам даводзіцца адказваць на шматлікія пытанні. Маладзейшых работнікаў і асабліва цяперашніх комсамольцаў вельмі цікавіць, як вялася работа на вёсцы раней, як некалі працавалі іхнія бацькі, дзядзькі, як змагаліся з вялікімі цяжкасцямі. Бывала некалькі разоў і так, што Марк Якаўлевіч Пугачоў і Фёдар Іванавіч Серадоў афіцыйна выступалі перад моладдзю ў калгасным клубе. Так было, напрыклад, у мінулым годзе, калі адзначалася тут, на месцы, трыццацігоддзе комсамольскай арганізацыі. На сходзе была моладзь нават і з суседніх вёсак.

Слаўныя традыцыі майскіх комсамольцаў цікавяць усіх, і трэба сказаць, што гэтыя традыцыі тут па-сапраўднаму захоўваюцца і шануюцца. Комсамольская арганізацыя калгаса мае цяпер пяцьдзесят сем чалавек. Калі не лічыць адной піонерважатай, дык усе яны працуюць на вытворчасці: у брыгадах, звеннях, на фермах, на электрастанцыі. Тут сапраўды многае зроблена і робіцца комсамольцамі. Анатолі Лукіч, старшыня калгаса, паказваў нам арцельныя палеткі, фермы, будынкі. І вельмі часта яму даводзілася зазначаць: «Вось гэта нашымі комсамольцамі зроблена». Мы любуемся ільном комсамольска-маладзёжнага звяна Ліілі Кавалёвай. Выдатны гэта лён, проста радасна глядзець на яго. І ў мінулым годзе быў надзвычай добры лён у гэтым звяне. Звенняввая была вылучана на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку. Едзем далей — зноў бачым лён ледзь не ў рост чалавека, залаціста-жоўты, рупліва павязаны ў роўныя снапкі.

— Чый гэта лён?

— А гэта таксама комсамольскі, — адказвае Анатолі Лукіч, — звеннявой Ніны Бобрыкавай.

Будуюцца новыя кароўнікі, свінарнікі ў некаторых брыгадах. І тут сярод будаўнікоў бачым комсамольцаў. На электрастанцыі амаль усе комсамольцы. Тут працуе электрамеханікам і сакратар камітэта комсамола Міхаіл Панькін.

Клуб у калгасе, дык не ва ўсякім раённым цэнтры сустрэнеш такі. І гэты клуб пабудаваны калгаснай моладдзю, комсамольцамі. Ля клуба — вялікі стадыён. Праўда, цяпер ён запушчаны, таму што Анатолі Лукіч у апошні час не надта спрыяе комсамольскай арганізацыі ў разгортванні фізкультурных спраў. Збярэцца моладзь на суботнік, каб папрацаваць на ўладкаванні стадыёна, а старшыня прыходзіць і пераключае іх на іншую работу. І ўсё-ж у калгасе ёсць свая валейбольная каманда, ёсць аматары і іншых відаў спорту. А шафёра Рыгора Пугачова, сына Марка Якаўлевіча Пугачова, можна лічыць нават прафесіянальным спартсменам. Ён — штангіст і не адзін раз займаў першае месца на раённых спаборніцтвах.

У калгаснай бібліятэцы каля трох тысяч тамоў. Галоўнае-ж, што кнігі тут не ляжаць на паліцах някранутымі. Тут іх бяруць па абанементу і чытаюць. Мы чулі, як дзве дзяўчыны спрачаліся ў клубе наконт вобразаў адной прачытанай кнігі. Спрэчкі гэтыя былі досыць кваліфікаванымі. Яны, праўда, выяўлялі розны густ чытачак, але густ добры, правільна выхаваны. Мы чулі, як два электрыкі і загадчык клуба Ганна Андрыянава абмяркоўвалі чэхаўскага «Мядзведзя», які рыхтуецца тут да пастаноўкі. У гутарцы гэтай адчувалася пэўнае веданне тэатральнай справы.

Калі потым мы даведаліся, што са сцэны гэтага клуба калгаснікі глядзелі ў свой час «Пробу агнём» і «Партызанаў» К. Крапівы ў пастаноўцы мясцовага драмгуртка, то нікольні не здзівіліся гэтаму. Ды яно і натуральна. Многа маладых калгаснікаў маюць сямігадовую адукацыю, а некаторыя і сярэднюю. Акрамя таго, рэдка хто з комсамольцаў не вучыцца на якіх-небудзь курсах: то на шафёрскіх, то на камбайнерскіх, то на бухгалтарскіх. Таму скрозь і ўсюды тут пачуеш сярод моладзі культурную, пісьменную гаворку, убачыш, асабліва пасля работы, прыгожа і з густам апранутых хлопцаў і дзяўчат.

У той вечар, калі мы засталіся ў калгасе нанач, у клубе была лекцыя аб супроцьпажарных мерапрыемствах, а потым — кіно. Мы былі ўражаны выглядам клубнай залы. Яна амаль нічым не адрознівалася ад гарадской як па знешняму выгляду, так і па складу гледачоў.

І яшчэ асаблівасць: у цёмным куце клуба стаяла адзін пры адным не менш трох дзесяткаў веласіпедаў, а на двары ля сцен клуба — каля дзесятка матацыклаў. Калі скончылася кіно, амаль уся вёска асвяцілася фарамі, электрычнымі ліхтарамі. Акацыі ў парку і прысады ўздоўж вуліцы і пабапал дарогі ў суседнюю вёску нібы заварушыліся пад святлом фар і здаліся яшчэ больш высокімі, яшчэ больш прыгожымі.

Мы з захапленнем праводзілі вачыма цэлыя калоны веласіпедыстаў і матацыклістаў, вясёлыя групы вясковай моладзі і радаваліся, думаючы аб тым, што не прайшлі дарам тыя векапомныя часы, калі бацькі вось гэтых хлапцоў і дзяўчат, першыя комсамольцы і камуністы Майскага, не шкадуючы сваіх сіл, энергіі, не ведаючы стомленасці, змагаліся за светлае, радаснае жыццё. Вырасла дастойная змена гэтым змагарам, актыўная, працалюбівая, стойкая і непахісная ў выкананні пастаўленых партыяй задач.

... Далёка відны цудоўныя майскія прысады і яшчэ далей чутна слава пра добрыя справы комсамольцаў Майскага.

**Калгас імя Молатава Жлобінскага раёна.**

# СПРАВА

справамі, узялася за прапаганду кніг. Веды, атрыманыя на ўроках літаратуры, сталі нібы ключом да сэрцаў пакупнікоў. З другога боку, мноства кніг, што праходзяць праз іх рукі, выклікала небывалы прыліў пытанняў да сваіх настаўнікаў. Так справа, якая спачатку здалася толькі комсамольскім даручэннем, абавязкам, хутка стала разумецца, як неабходнасць.

Актыўнасць юных дзяржынцаў знайшла дастойную ацэнку грамадскасці. На імя кнігановш паступае нямала падзяк. Па прадстаўленню райкома кнігановшам, якія найбольш вызначыліся, уручаны ганаровыя граматы ЦК ЛКСМБ.

Тамара Пачкоўская, якая таксама ўзнагароджана ганаровай граматай ЦК ЛКСМБ, выконваючы заказ маленькіх аматараў кніг, прынесла ім новыя казкі.



Рахунковы работнік Дзяржынскага райспажыўсаюза Валя Ярмак (крайняя злева) вечарамі вучыцца ў школе рабочай моладзі. Для праходжання курса рускай літаратуры ёй спатрэбілася кніга «Творчасць Горкага». Яе сястра — аматар рукадзелля; яна пажадала набыць кнігу «Кройка і шыццё». Кнігановша Іра Бучкіна (крайняя справа) з ахвотай выканала іх даручэнні.

Фото А. Дзітлава.

Максім ЛУЖАНІН

# Новыя вершы

Мал. А. Матузка.

## У ГАСЦІНІЦЫ



Пярэсты ўзор, як крылле сойкі,
Нясе пад лямпачку сцяна.
Пакойчык на чатыры койкі,
І з іх належыць мне адна.

Яшчэ ў гасцініцы не паляць, —
Ці мала рук, ці мала дроў, —
Але прытулак свой пахваліць
Хто-б з панадворку не прышоў.

Тут нарыхтоўшчык быў учора,
Ахвотнік разважаць пра лён,
А сёння лёс прывёў маёра,
Ён дзесьці прыме батальён.

Хто прыдзе новы? Невядома,
Каго дзяжурная пашле,
Каму там не сядзіцца дома,
Калі віхура б'е па шкле?

Каб не цягнуцца ў дождж да чайнай,
Сухі выкладваем прыпас.
За словам слова, як звычайна,
І пакрысе цяплее ў нас.

Так міла ўсё і ўсё дарэчы,
Тым больш, калі ты змёрз і змок,
Пакуль датросся на агеньчык
На самазвале ў гарадок.

Успамінаем пра турботы,
Што ўсіх паклікалі сюды, —
Свае пачатыя работы —
Каналы, кнігі, гарады.

І аж да раніцы ў бяседзе
Мацней за родную сям'я,
А нацямку адсюль паедзем
Мае таварышы і я.

Цяпер крыху спачынку трэба,
Каб зноўку шлях працягваць свой
Пад самым чыстым сінім небам,
Што толькі ў нас над галавой.

І, можа быць, ужо ніколі
Нас не прытуліць дах такі,
І не сустрэнуцца мне болей
Мае — з выпадку — дружбакі.

Яны, зрадніўшыся душою,
Хоць мала разам пабылі,
Сябе пакінулі са мною,
Мяне з сабою павялі.

А сэрца помніць вельмі строга
Доўг, што з юнацтва прыняло:
Сагрэць сяброў на ўсіх дарогах,
Дзе ім спатрэбіцца святло.

## Я ВЫБРАЎСЯ

Я выбраўся следам за жнівеньскім ветрам,
Прасторамі восені, плоднай і шчодрай,
Прайшоў па краіне, азёрнай і светлай,
Усюды наведаў знаёмых і родных.

Мы з імі не скручвалі дудан з вярбіны,
Пры вогнішчы казак не слібізавалі,
Сталелі здалёк, на ўсю сілу рабілі
І зараз ідзем па адной магістралі.

Адсюль і знаёмства, адсюль і сваяцтва.
Мне ўцешна было, дзе-б ні стаў на парозе —
Не госця стрэчалі, а сябра па працы,
Свайго, што забавіўся трохі ў дарозе.

Забавіўся, праўда. Задоўга збіраўся.
Пасе ужо восень дажджы на барознах.
І раптам пачуў у палескім калгасе:
Да песні — поўкроку! Дык, значыць, не позна.

Калісь, на завалах, на моцных завесах
Трымаліся дзверы да гэтых прастораў,
Дзе зараз каноплі вышэй за падлесак,
А бульба глядзіць гарбузамі з разораў.

Не проста зямля, што з акна самалёта
Узрадуе вока — і ўжо за табою, —
А тут-жа спрадвечнае глухла балота
З плакучай бярозкай, з іржавай вадою.



І дзеду, і прадзеду ўелася ў косці,
Растрэсала трасцай, дрыгвою дрыжала,
Бацькам усушыла гады маладосці,
На нас замахнулася, ды не дастала!

Прышлі грабары, ды не гнуліся крукам,
Каб дзерці канаўкі, прывязваць фашыны.
І племя не тое, і ўпраўныя рукі
Надзейна ляжаць на штурвале машыны.

Ужо экскаватары, стаўшы плячамі
Адзін да другога, адходзяць памалу,
І, роўна напяўшыся між чарпакамі,
Ліецца люстраная нітка канала.

Тужэе зямля паабапал разрэзу,
Спакойна балота на працу пусціла
Мяне і хлапца, што сышоў з кустарэза
З уткнутай пад шапку кляновай лісцінай.

Я з ім падружыў на вячэрніх прывалах,
Калі пры агні, у лясочку барвістым,
Мне лыжку давалі, і хлеба кавалак
Не меншы адкройвалі, чым трактарыстам.

Ён смачна засне, ледзь прышоўшы ў сялібу,
А я заступаю і, начною гадзінай,
Пачну падымаць ужо іншую скібу,
Каб добрае слова буйней зарадзіла.

## ВЕДРЫЦА

Мне сустрэлася рэчка. Малая, а шчодрая!
Называецца Ведрыч.
Не мералі вёдрамі,
Колькі ў суткі вады праганяе па рэчышчы
Аж пакуль не зліецца з Дняпром каля Рэчыцы.

Але справа на гэтым, аднак, не канчаецца:
Як ні дзіўна, і з іншай ракою злучаецца
Гэта прагная рэчка.
Хай скажуць вучоныя,
Чым тлумачыцца з'явішча супрацьзаконнае.

На асушцы балота, парою пагоднаю,
Мне аб гэтым казала паданне народнае
І тлумачылі з'яву такою прычынаю,
Што калісьці была тая рэчка дзяўчынаю.

Сіраціна, яе гадавалі ўсёй вёскаю,
У багатых служыла яна ваданоскаю,
Ды затое ўрадзіла краса незвычайная:
Вочы ясныя, косы даўгімі ручайкамі.

Ледзь вады прынясе, неўзаметку павернецца —
Вёдры поўныя зноў!
— Ох, і спрытная Ведрыца! —
Гаварылі усе так, дабра ёй жадаючы,
І пра ўласнае імя яе забываючы.

Стрэў дзяўчыну паніч. Абяцаў ажаніцца ёй.
Ашукаў.
Села Ведрыца па-над крыніцаю,
Скуль насіла ваду. Слёзы горкія падаюць,
І ніхто не суцешыць, ніхто не парадуе.

А крынічка паволі з гары выбіваецца,
У крынічкі ад слёз вады прыбаўляецца,
У вялікія рэкі струмені кіруюцца,
Дзе ідуць караблі, быццам людзі па вуліцы.

І надумала Ведрыца:
— Жыць занядбанаю?
Лепей быстраю рэчкаю зараз-жа стану я,
Пабягу я за хваляй, за гэтай крыніцаю,
Можа ў свет мне са скаргай удасца прабіцца як.

Пала ніцма на зямлю, пад злымі нябёсамі,
Пала ў белай кашулі, з развітымі косамі,
І між кветак і траў лугавою далінаю
Паплыла не дзяўчынаю, а ручаінаю.

Дабягае да блізкай да рэчкі-сястрыцы:
— Ці не ўдасца, сястра, тут у свет мне прабіцца?



— Так далёка, — адказвае, — не падручаюся,
Я сама у дрыгве каля бору губляюся.
А на што твая скарга, з якою ты ранаю,
Можа ты, як і я, панічом ашуканая?

— Так, сястрыца!
Давай пабяжым супраць хвалі мы:
Недзе бацька Дняпро мые горам падваліны,
Там, напяўна, заззяюць нябёсы сінейшыя,
Там для скаргі дзявочай прасторы шырэйшыя.

І ў другі бок пабеглі, сабраўшыся з сілаю,
Да крыніцы, што стала дзяўчыны магілаю.
І прабілі ўдваіх пескаватае рэчышча,
І дагналі Дняпро каля самае Рэчыцы.

— Ой, наш бацька-Дняпро, памажы майму гору ты, —
Кажа Ведрыца, смуткам і болем агорнута.
— Не пакінь без патолі дзяўчыны пакінутай,
Забяры нас хутчэй у сваю пуцявіну ты.

Гаварылі, стаіць над вадой тваёй чорнаю
Дом паненкі, што ён назаве нарачонаю.

— Добра, — кажа Дняпро. —
Хвалі разам самкнуліся
І ўтраіх яны шпарка наперад памкнуліся.

А палац у агнях, служба ўся ў кунтушах,
Семярык каля ганку, стаеннікі белыя
Рыюць дол капытамі.
Ад бляску ў вачах
Засланілася вёска далонню замлелаю.

Вырушае працэсія стройна ў касцёл,
Верхам едзе паніч, перад любай красуецца.
Шэпчуць пані старыя: «Прыгож, як сакол!
І да пары-ж саколцы, паненцы-красунечцы».

Тут Дняпро як загуў, як узняўся да стром,
Хмары клікнуў на помач з-за мора з-за Чорнага
Сам б'е ў бераг спадніэу, а зверху б'е гром...
Весяліся, вяселейка ты панічовае!

Затраслася зямля, на узгорку асеў,
Разваліўся палац, у глыбіні спаўзаючы.
На ратунак ніхто падысці не хацеў,
Толькі крыкі луналі па ўзбуджанай далечы.

Захлынуліся: хто як сядзеў на кані,
Хто ішоў, хто стаяў пад сцяной мураванаю...
А паніч не тане, выплывае паніч,
Ажно нехта — за шыю рукою лядзянаю.

Ён глытае ваду: «Адкасніся, пусці!»
А ў вушах яго хваля гаворкаю плешчацца:
«Гэта я, мой каханы! Кахала ў жыцці —
Перад сконам уцешу халоднымі пешчамі.

Ты пакінуў мяне, за табой наўздагон
Я ракою пабегла, я сілы пазычыла
У крыніц, у азёр, у балотных акон,
Каб уведаў ты слодыч кахання мужычага».

Абняла, прыгарнула, здушыла мацней,
Закруціла, аднесла яго на глыбокае —
Толькі вір закруціўся...
А хваля — далей,
Слёзнай скаргаю жаліцца свету шырокаму.




**Р. СЯЛЕЦ**

ДАЎНО я не быў у гэтых мясцінах. І вось цяпер іду і не пазнаю шмат чаго. Толькі стары сад, абнесены замшэлым густым частаколам, за якім віднеюцца крыху пажоўклыя ўжо купы паркавых ясакораў ды ліп, жыва нагадвае мне ўсё даўно знаёмае. Па шырокім уезджаным гасцінцы сюдытуды бегаюць машыны, пакідаючы за сабой шэрыя хвасты густога пылу. Шырокая вуліца вёскі Гарадзішча, зацягненая асенняй смугой, здаецца, задрамала ў сваёй цішыні і адзіноце. Толькі зрэдку дзе выбегуць з двара дзеці ды які стары ці старая выгляне на вуліцу праз брамку. Жыцця як-бы і няма. Але яно ёсць, яно там — на палях, у гумнах, у садах. Там збіраюць, упарадкоўваюць плён сваёй працы. Неўзабаве-ж глыбокая восень, і ўсё тое, што сеялася вясною, расцілася летам, павінна быць даведзена да ладу. Вунь праз прагаліну двара мне відзён зеленаваты дыван лугу, на якім паміж вылінялых ад дажджоў і ад сонечнай спёкі стагоў завіхаюцца ў белых хусцінах жанчыны: яны збіраюць са сцеліста вылежаны лён. А вунь і два рукавы рэчкі Брагінкі. Ля самых мастоў праз тыя рукавы на беразе таксама людзі. Прыглядаюся і бачу—жанчыны дастаюць з вады і рассцілаюць на ўзбярэжжы замочаны лён. Яны ведаюць: лён — гэта багацце калгаса, і на тое, каб яно не змарнавалася, не шкада працы.

Усюды жыццё кіпіць, віруе.

Іду ў самы канец Гарадзішча. Гэта-ж вось тут была канцавая хата, а там далей прагала і праз якіх поўкілометра—вялікая вёска Сялец. Але дзе яна, тая прагала? Па левую руку — новыя хаты, па правую — прысады маладых акацый. Я чамусьці пашкадаваў, што гэта не чэрвень: тады гэтыя прысады былі-б абсыпаны белымі кветкамі. Праз густую загарадзь акацый, як толькі акінуць вокам, стаяць стараватыя разгалістыя ўжо і маладыя яшчэ яблынькі. Гэта, відаць, і ёсць той малады сад, у якім гаспадарыць Сямён Новік.

Праз веснічкі з надпісам: «Пабочным асобам уваход забараняецца» я выйшаў на шырокую дарогу, якая перасякае ўпоперак сад. Паабапал стаяць задуменныя ў асенняй цішы журбе дрэвы. На каторых з іх яшчэ залоцяцца яблыкі, а на іншых засталося ўжо толькі пажоўклае лісце, якое час-ад-часу, адрываючыся ад галінак, павольна, як-бы нехаця, падае на зямлю. Ціха ў садзе. Толькі недзе там, на тым краі, якім ён падступае да лугавіны, чутна песня. Вылучаюцца дзявочыя галасы. Мяне, відаць, заўважылі, бо ад будана насустрач ідзе чалавек. Углядаюся ў стройную постаць. Чалавек яшчэ малады, на пінжачку чырванее праменьчыкам комсамольскі значок. Твар у хлопца загарэлы, бровы на сонцы вылінялі, зрабіліся белымі, і з-пад іх блішчаць цёмныя вочы. Рухі ў хлопца рашучыя, як-бы размічаныя. Падыйшоўшы амаль усутыч са мною, ён спытаў:

— Вам куды, таварыш?

У голасе яго быў дакор, нібы ён хацеў сказаць: «Хіба вы не чыталі, што пабочным асобам уваход у сад забаронены?» Мне падумалася, што гэта і ёсць Сямён Новік — гаспадар гэтага саду, сакратар комсамольскай арганізацыі калгаса імя Тэльмана. І я не памыліўся — гэта быў ён, той самы Сямён Новік, пра якога мне многа чаго добрага расказалі ў райкоме комсамола, у праўленні калгаса, пра якога стары садоўнік з таго саду, што на цэнтральнай сядзібе калгаса, Андрэй Радчанка сказаў:

— Добры хлопец, нічога не скажаш.

А адзін з таварышаў у райкоме комсамола, калі зайшла гутарка пра Сямёна Новіка, сказаў:

— Гэта наш лепшы сакратар комсамольскай арганізацыі. А вы ведаеце, што яго гады праз два-тры, калі ён добра ўсталее, можна будзе ставіць на любы, нават самы цяжкі калгас за старшыню?.. Ён пацягне і не ўвагнецца. Хлопец кемлівы.

Перада мной стаяў рослы малады чалавек гэтак гадоў дваццаці з лішкам. Твар яго прыгожы ад сонечнага загару, цемнаватыя вочы як-бы падкрэсліваюць смуглявасць.

— Скажыце, калі ласка, дзе мне пабачыць Сямёна Новіка? — спытаў я.

— Гэта я сам і ёсць, — адказаў хлопец і крыху пачырванеў.

— Дык гэта, значыцца, вы гаспадар гэтага саду?

— Ды ўжо-ж!

Мы падыйшлі да гурту дзяўчат і хлопцаў, якія пакавалі ў скрынкі пепінкі, пуціўкі, антонаўкі. Над буданам, над усім садам стаяў гэтакі пах, што яго хацелася ўдыхаць і ўдыхаць на ўсе лёгкія.

— Гэта вось і ёсць мая брыгада, — пазнаёміў мяне Сямён.

— Комсамольская, — удакладніў Аляксей Жураў. Крыху накульгваючы, ён падыйшоў да мяне, бо Сямёна нешта тэрмінова выклікалі ў праўленне. Аляксей, відаць, ва ўсім быў у Сямёна за намесніка.

— Дык вы пісаць будзеце пра нас? — спытаў ён.

— Думаю.

— Вы абавязкова пра Сямёна напішыце. Такога брыгадзіра і сакратара комсамольскай арганізацыі трэба пашукаць!.. — сказаў мне Алёша і зірнуў на мяне, нібы хочучы праверыць, якое ўражанне зрабілі ягоныя словы.

І Аляксей мне расказаў пра тое, як Сямён, скончыўшы Малейкаўскую сямігадовую школу, прышоў у праўленне і папрасіў старшыню калгаса Васіля Казачэнку паслаць яго крыху падвучыцца на садавода.

Праз колькі часу Сямён вучыўся ўжо ў Аршанскай школе садаводаў. Днямі і начамі ён сядзеў над кнігамі Мічурына. Ён чытаў яго кнігі, як песні, бо ў садзе бачыў жывое неўміручае хараство прыроды.

Тым часам прышоў Сямён.

— Ну, што там у праўленні? — спытаў Алёша, калі Сямён падышоў зусім блізка.

— От, трэба хутчэй пакаваць яблыкі. Заўтра машыны пойдуць у Хойнікі. А нашы яблыкі павязуць аж за палярны круг.

— А можа яшчэ на дрэйфуючыя станцыі? — спытала Ніна Коцур.

— Можа і туды трапяць, хто яго ведае, — адказаў няўпэўнена Сямён. — Усё можа быць, — і кінуў патрабавальны позірк на Тамару Гаўрыленка, якая клала ў скрынку яблыкі не аднолькавай велічыні.

— Што ты гэта робіш, Тамара? — строга спытаў Сямён. — Хіба ты не ведаеш, што яблыкі павінны быць адно ў адно. Там-жа будуць ведаць, што ў гэтых скрынках упакаваны яблыкі, вырашчаныя комсамольскай брыгадай калгаса імя Тэльмана. Дык што яны могуць падумаць пра нас, калі мы ў скрынкі драбязы якой напакуем, — дакараў ён дзяўчыну.

— А куды-ж гэтыя малыя? — спытала яна для апраўдання.

— Гэтыя асобна трэба. Яны тут дзе бліжэй разыйдуцца. Трэба-ж адчуваць адказнасць сваю — ты-ж комсамолка.

Сямён гэтак заўсёды дамагаецца таго, каб члены яго садова-гародняй комсамольскай брыгады ніколі і нідзе не забывалі, што яны перш за ўсё комсамольцы і з іх удвая патрабуецца. Гэтак-жа было вясной, калі на сад накінулася вусень. Ліха ведае, адкуль яе набралася столькі! Хлопцы і дзяўчаты дык аж рукі паапускалі. Адно Сямён Новік, хоць яму і цяжэй было за ўсіх, не страціў веры ў сілы комсамольцаў. Ён адразу-ж сабраў іх і сказаў:

— Цяпер нельга нам у шапку спаць. Цяпер трэба, каб кожная хвіліна была намі скарыстана. Інакш усё тое, што мы рабілі дагэтуль, уся наша праца пойдзе марна.

Сямён размеркаваў, каму працаваць на конным апырсквацелі, каму з ручнымі, і ўсе кінуліся ў наступ на шкоднікаў. Дзень—два працавалі комсамольцы, не прысядаючы, забыўшы пра адпачынак, і сад быў выратаваны ад ненажэрнай пошасці.

Цяпер радасна глядзець, як з дрэў здымаюць ды пакуюць у скрынкі залацістыя, налітыя сонечным сокам лета антонаўкі, пачырванелыя, нібы загарэлыя ад летняй спёкі, пепінкі, ружовашчокія цыганкі...

Сямён, ідучы з праўлення паўз прысады акацый, глядзеў на свой сад. Ля самай агарожы ён быў радкаваты. Гэта яшчэ відны на садзе раны вайны. Калісьці фашысцкія акупанты лагерам размясціліся ў садзе. Яны, як тыя варвары, высякалі дрэвы, абломвалі голле і раскладалі вогнішчы. Тады Сямён быў яшчэ хлапчуком, але калі ён глядзеў на тое, як фашысты знішчалі багацце калгаса, у яго ад болю сціскалася маленькае сэрца. Яшчэ і цяпер, калі Сямён глядзіць на тыя маленькія яблынькі, што пасаджаны замест высечаных фашыстамі, яму робіцца ніякавата. І мо' таму ён амаль кожны дзень ходзіць да тых маленькіх яблынь, абразае на іх сухое вецце, падкармлівае іх, палівае ў засуху. Яны-ж якбы яго равеснікі. Ім цяпер расці і расці на выгодзе.

— Але сад — гэта не толькі яблыні ды грушы. У садзе паміж радамі дрэў брыгада Сямёна Новіка вырасціла вельмі добры тытунь, буракі, гуркі. Ужо вунь колькі машын гароднiны адпраўлена на Хойніцкі кансервавы завод, у Гомель, у Мінск! Кожны гектар

# ВЯЛІКІ ПЕРАЎТВАРАЛЬНІК

**У адным з маляўнічых куткоў Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ўзвышаецца помнік вялікаму вучонаму Івану Уладзіміравічу Мічурыну. Знаёмая постаць вядомага чалавека, разумны, дапытлівы позірк, задуменны, але радасны выраз твару. Помнік тоне ў зеляніне саду. Але гэта не звычайны сад. Заходзіш у яго — і, здаецца, трапляеш у казачны свет. Вось маленькая вішня. Яна не дасягае і метра, а вішань на ёй не менш, чым на вялізным дрэве. А вось яблыня, а на ёй дзесяткі самых разнастайных гатункаў пладоў. Такіх цудаў тут многа. І ўсе яны — вынік шматгадовых наватарскіх пошукаў вялікага садавода І. В. Мічурына.**

**І. В. Мічурын нарадзіўся 27 кастрычніка 1855 года, роўна сто год назад, у вёсцы Доўгае Разанскай губерні. Яшчэ юнаком ён вырашыў прысвяціць сябе любімай справе — садоўніцтву. Ужо ў тыя гады рускія садаводы дабіліся значных поспехаў у вывядзенні новых гатункаў фруктаў. Але сартымент пладовых і ягадных раслін быў усё яшчэ невялікі, а рад выдатных раслін з-за кліматычных умоў не маглі вырошчвацца нават у сярэдняй паласе Расіі. Іван Уладзіміравіч паставіў перад сабой задачу папоўніць сартымент пладовых дрэў і акліматызаваць поўднёвыя расліны. Перамагаючы цяжкасці, пераносячы нястачы, малады вучоны заняўся карпатлівай работай па адбору і развядзенню пладовых дрэў. Дваццацігадовым юнаком І. В. Мічурын арэндуе пустэчу і прыступае да вопытаў. Хутка на яго ўчастку была сабрана калекцыя больш чым у 600 відаў пладова-ягадных дрэў і кустоў. Крок за крокам вядзе І. В. Мічурын наступленне на прыроду, з боем вырываючы ў яе кожнае новае адкрыццё. Па некалькі разоў перасаджвае ён свой сад, робіць тысячы тысяч прышчэпак, скрыжоўвае самыя разнастайныя расліны і на аснове наглядання робіць рад каштоўных вывадаў аб спадчыннасці, аб развядзенні новых гатункаў пладовых дрэў і ягадных раслін.**

**Заслуга І. В. Мічурына заключаецца ў тым, што ён упершыню ў біялогіі заклаў навуковыя асновы вывучэння прычын змянення раслінных арганізмаў. Ён заклаў аснову навуцы аб кіраванні развіццём раслін і жывёл. Пры гэтым ён зыходзіў з таго, што спадчыннасць раслін і жывёл можна змяняць шляхам уздзеяння на іх умовамі жыцця, што ўласцівасці, якія яны набываюць у працэсе змянення, перадаюцца ў спадчыну, накапляюцца ў радзе пакаленняў.**

**Вопыты Мічурына не знайшлі падтрымкі з боку царскіх улад. Цемрашальства і абыякавасць царскіх чыноўнікаў былі той каменнаю сцяной, аб якую разбіваліся спробы перадавых людзей Расіі ўнесці сваё, новае ў скарбніцу сусветнай навукі. Толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі І. В. Мічурын атрымаў магчымасць весці свае вопыты ў шырокіх маштабах. Яшчэ ішла грамадзянская вайна, а Савецкі ўрад прыняў усе меры, каб забяспечыць Мічурыну неабходныя ўмовы для даследчай работы.**



**І. В. Мічурын сярод моладзі.**

**За сваё вялікае жыццё Мічурын стварыў больш 300 гатункаў розных культурных раслін. Але заслуга І. В. Мічурына не толькі ў гэтым. Сваім жыццём, сваімі настойлівымі пошукамі ў садаводстве Іван Уладзіміравіч натхніў тысячы садаводаў прадаўжаць яго справу. Калі ў першыя гады савецкай улады за Мічурыным ішло некалькі дзесяткаў паслядоўнікаў-энтузіястаў, дык цяпер армія мічурынцаў налічвае ў сваіх радах тысячы даследчыкаў.**

**Не адзін раз І. В. Мічурын звяртаўся да моладзі, заклікаючы яе разводзіць сады, вырошчваць новыя гатункі дрэў, і моладзь ідзе ў навуку. Пры кожнай школе ёсць свой сад, у якім рабяты вучацца майстэрству садаразвядзення. Але гэтага цяпер мала. Тысячы юнакоў і дзяўчат, якія скончылі сярэднюю школу і знаёмы з дарвінізмам, застаўшыся ў калгасах і саўгасах, могуць сур'ёзна рушыць наперад справу садаводства. Для гэтага ў іх ёсць веды, малады запал.**

**А. А.**

# ЗАХАПЛЯЮЧАЯ ЭКСКУРСІЯ

Радаснай і цікавай была паездка юннатаў Беларускай цэнтральнай станцыі ў сталіцу нашай Радзімы — Маскву. Цёпла сустрэлі беларускіх рабят піянеры сталіцы. І вось цудоўныя палацы Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Павільён за павільёнам аглядаюць юныя натуралісты. Чаго тут толькі няма! І ўсё гэта вырашчана звычайнымі чалавечымі рукамі, на звычайнай айчыннай зямлі. Якія цудоўныя сады! Доўга любаваліся рабяты сакавітымі пладамі яблынь, груш, срабрыстымі гронкамі вінаграду. Асабліва зацікавіў рабят сад, які сцелецца па зямлі і прыносіць плады ва ўмовах халоднай Сібіры.

Гаспадарамі ўваходзілі беларускія юннаты ў павільён «Юныя натуралісты». Гэты павільён нікольki не горшы за ўсе астатнія: вялікі прыгожы будынак з высокім шкляным купалам і стройнай каланадай. А самае галоўнае тое, што ў гэтым павільёне прадстаўлены і вынікі працы натуралістаў Беларускай цэнтральнай станцыі.

Пасля агляду Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі — незабыўнае падарожжа па Маскве. Прыгожыя, строгія станцыі метро. Кожную хвіліну ўсё новыя і новыя ўражанні. Нарэшце, юннаты ў Крэмлі. Цар-звон, цар пушка, Аружэйная палата — раней усё гэта ўяўлялася, як казка, а зараз юннаты ўбачылі велічныя гістарычныя помнікі ўласнымі вачамі.

Прайшоў яшчэ дзень, і вось ужо рабяты на Ленінскіх горах, яны знаёмяцца з Маскоўскім універсітэтам імя Ламаносава. Хто ведае, можа год праз пяць-шэсць каму-небудзь з сённяшніх юных натуралістаў прыдзецца пераступіць парог гэтага выдатнага палаца навукі.

Многа новага, цікавага ўбачылі піянеры ў батанічным садзе Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. Хлебнае, шакаладнае, кафейнае дрэвы, магутныя пальмы. Раней пра ўсё гэта можна было толькі прачытаць.

Затым рабяты ехалі на цеплаходзе па Маскве-рацэ, наведалі планетарый, астранамічную пляцоўку, заапарк, Трацякоўскую карцінную галерэю.

Цудоўны горад Масква! І за месяц не раскажаш пра тое, што за некалькі дзён убачылі рабяты ў сталіцы нашай Радзімы.

Юныя мічурынцы Беларускай рэспубліканскай станцыі юных натуралістаў пабывалі на экскурсіі ў Мічурынску. Доўга хадзілі юннаты па садзе, вырашчаным вялікім пераўтваральнікам прыроды. Наведалі рабяты і домік, у якім доўгія гады жыў і працаваў І. В. Мічурын; пабывалі ў дачкі Івана Уладзіміравіча. Яна ахвотна расказала ім аб жыцці і працы свайго бацькі. З Мічурынска прывезлі юннаты ў падарунак роднай школе багатую калекцыю мічурынскіх гатункаў пладовых дрэў.

**В. РАМАНЕНКА.**

---

саду ўтрая, а то і ў чатыры разы дае больш прыбытку за гектар поля.

Цудоўная восень у садзе. Вунь і павуцінне ўжо снуецца на дрэвах, але дні стаяць спякотныя, як улетку. Мы ідзем надвячоркам па садзе. Косыя промні заходзячага сонца як-бы слізгаюцца па дрэвах, па крыху пажоўклай траве. Мы ідзем утраіх між дрэў. Дзяўчаты пайшлі крыху ўперадзе. А вунь пры дарозе невялічкі буданчык.

— Гэта-ж яго дачная хата, — сказаў Сямён, паказваючы на Алёшу. — Ён усё лета тут, як на дачы.

— А што ён тут робіць? — спытаў я.

— Ён не толькі ў брыгадзе працуе. Удзень ён нам дапамагае ўпраўляцца з садавінай ды з гароднінай, а ўночы вартуе.

— Каб у мяне не нага, дык хіба-б я тут улежаў. Летась павярэдзіў нагу, дык от і цяпер накульгваю, — як-бы апраўдваўся за сваю лёгкую работу Алёша Жураў. Ён развітаўся з намі і пайшоў да будана; Сямён, выяўляючы ўсю сваю шчырасць, гаварыў:

— О, гэты хлопец — сапраўдны камсамолец. У яго руках, калі ён што бярэцца рабіць, дык работа аж гарыць!..

— Дык у тваёй брыгадзе ўсё, мусіць, такія? — пытаю я.

— Пра ўсіх нічога благога не скажаш. Работу любяць. Калі дня не хапае, дык і ночы прыхватваюць.

Дружна працуе калектыў камсамольцаў у калгасным садзе. Важак яго — сакратар камсамольскай арганізацыі Сямён Новік — юнак з гарачым сэрцам, са шчырым імкненнем дамагацца новых і новых поспехаў у справе, якую ён любіць усёй душой. Нядаўна ў калгас на канікулы прыязджала з Мічурынска студэнтка — дачка старшыні калгаса Лена Казачэнка. Сямён усё распытаў у яе пра Мічурынскі сад. Яна паказала яму здымкі Мічурынскага саду. І Сямёну вельмі і вельмі хочацца пабыць там, у далёкім Мічурынску, паглядзець сваімі вачыма ўсё тое, што зрабіў вялікі вучоны. Яму самому хочацца стаць вучнем Мічурына, яго паслядоўнікам. І ён стане, бо любіць усёй юначай душой сваю справу.

**Брагінскі раён**
**Гомельскай вобласці.**



**Камсамольцы Валя Шаўчанка і Сямён Новік.**

Фото П. Пяхота.





**На Цэнтральнай станцыі юннатаў.** Уверсе: **вучаніца 49-й школы г. Мінска Міла Маршак расказвае экскурсантам з Магілёўскай вобласці аб рабоце гуртка кветкаводаў.** Унізе злева: **вучні 45-й школы г. Мінска Тамара Саўчанка, Ліля Лапцёнак і Міша Белы.** Справа: **вучаніца Ліпеньскай школы Асіповіцкага раёна Марыя Коршыкава з вучаніцай-актывісткай Цэнтральнай станцыі Маяй Кінякінай.**

Фото А. Дзітлава.



Калгас імя Беларускай Ваеннай Акругі (Любанскі раён Мінскай вобласці) шырока вядомы сваімі поспехамі ў развіцці грамадскай жывёлагадоўлі. Камсамольцы калгаса прымаюць самы актыўны ўдзел у рабоце ўсіх жывёлагадоўчых ферм. На здымку: камсамолкі свінаркі Ніна Абраменка і Ядвіга Бокан праводзяць кантрольнае ўзважванне парасят.

Фото А. Дзітлава.

# Уперадзе часу

**Аркадзь КАРАЛЁЎ**

**Нарыс**

І трэба-ж было гэтак здарыцца: амаль год вадзіў машыну без усякіх непрыемнасцей і раптам — аварыя. Легкавушку крыху пакалечыў. Якімі-ж вачыма ён цяпер будзе глядзець на начальніка дэпо?

Уладзімір Кудраўцаў спыніўся ля дзвярэй кабінета начальніка дэпо і рашуча пастукаў. «Чаму бываць, таго не мінаваць. Вядома, па галаве не пагладзіць...»

Мікалай Аляксандравіч Цыганенка ў кабінеце быў не адзін. Побач, схіліўшыся над блакнотам, сядзеў невысокі каранасты мужчына. Ён нешта пісаў. «Яшчэ не хапала гэтага тут», — са злосцю падумаў Кудраўцаў, хоць і не ведаў, што гэта быў за чалавек.

— Дазвольце далажыць! — сказаў Уладзімір. Цыганенка перапыніў яго:

— Няма чаго дакладваць — усё ўжо вядома. Вось толькі не ведаю, што з табою зрабіць: зняць з работы ці вылічыць кошт рамонту? Як ты думаеш?

Уладзімір збянтэжыўся. Ён чакаў праборкі, няхай нават самай моцнай, а тут справа прымала зусім іншы паварот.

— Мікалай Аляксандравіч! — ціха сказаў юнак. — Гэтага больш не будзе. Чэснае слова!

Відаць, размова начальніка з падначаленым зацікавіла незнаёмага. Ён зірнуў на Уладзіміра і запытаў:

— А па якой прычыне ў вас здарылася аварыя?

Кудраўцаў памаўчаў: ён не ведаў, гаварыць ці не. Аднак вырашыў, што цяпер ужо ўсёроўна...

— Ды хацеў зрабіць невялічкі эксперымент.

— Ну, і як? — дапытваўся незнаёмы.

— Не ўдаўся, — уздыхнуў Кудраўцаў.

— А што за эксперымент, калі не сакрэт?

— Які ўжо тут сакрэт? — нявесела адказаў шафёр.—Хацеў праверыць манеўранасць машыны, ну, і павярнуў з ходу на прамы вугал. А тут, як на ліха, дрэва, я крыху і зачапіўся.

— Глядзіце: крыху зачапіўся,— іранічна заўважыў Цыгачэнка. — Ледзь зусім не разбіў машыну... І гэта — крыху зачапіўся... Ты мне вось што скажы: што з табою зрабіць?

Кудраўцаў, доўга не чакаючы, папрасіў паслаць яго ў механічны цэх токарам.

— Куды, куды?.. — перапытаў Цыганенка. — Токарам? Ламаць станкі? Не, галубок, нічога не выйдзе — там нам вельмі дорага будуць каштаваць твае эксперыменты.

Так і пайшоў Кудраўцаў ад дырэктара ні з чым. Назаўтра Цыганенка зноў выклікаў яго да сябе і ўжо зусім нечакана прапанаваў яму ісці ў механічны цэх. Хлопец узрадаваўся і здзівіўся перамене думкі начальніка. Толькі крыху пазней ён даведаўся, што ў яго справе важную ролю адыграў той самы незнаёмы чалавек, які аказаўся інструктарам гаркома партыі.

Уладзімір падыйшоў да «Універсала», на якім працаваў Мікалай Кузняцоў, і спытаў, ці не возьме ён яго вучнем. Той спыніў станок, акінуў хлопца позіркам з ног да галавы і не сказаў, а прамармытаў:

— Гм... ці бачылі яго... Аўтамашыну паламаў, а цяпер да станка дабіраецца. Хто-ж цябе паслаў сюды?

— Цыганенка, — каротка адказаў Уладзімір.

— Так, так. Адмяняць рашэнне начальніка я не магу. Значыць, давядзецца ўзяць.

Кудраўцаў вельмі хутка назучыўся такарнай справе. Ён стараўся рабіць усё так, як вучыў яго Кузняцоў. Аднак ён прыглядаўся і да работы іншых токараў, у прыватнасці да Мікалая Гобрыка. Яму чамусьці падабаўся гэты малады і вельмі рухавы токар. І кожны раз, калі што было незразумелым, Уладзімір звяртаўся да Гобрыка, а той ніколі не адмаўляў у дапамозе, ахвотна дзяліўся сваім вопытам.

І вось — іспыты. Уладзімір хваляваўся ў гэты дзень, як ніколі ў жыцці. А раптам не вытрымае! Прападуць два месяцы вучобы і, галоўнае, будучая спецыяльнасць. Але як толькі ён стаў да станка, рухі яго набылі ўпэўненасць. Першае заданне выканаў хутка і добра. Члены камісіі ніякіх заган у яго рабоце не знайшлі. Дэталь была чыстая і адпавядала ўсім патрабаванням.

— Вельмі добра! — заключыла камісія. — А цяпер зрабі нам чарвячную разьбу вінта.

«Вось на чым пасадзяць, — падумаў Уладзімір. — Гэта робяць толькі вопытныя токары». Але ён не паказаў і выгляду, стараючыся ўспомніць, як яго вучыў Гобрык рабіць такую разьбу.

Пераманіўшы разец, Уладзімір націснуў на рукаятку муфты счаплення. Праз мінуту джала разца прагна ўгрызлася ў метал. Калі станок звыкла задрыжаў, вучань адчуў сябе спакойна.

Зноў у руках членаў камісіі дэталь. Яны агледзалі яе з усіх бакоў, вымяралі дакладнасць апрацоўкі.

— Добра зроблена,—даў ацэнку старшыня. — Заслугоўвае чацвёртага разраду...

— Віншуем, таварыш Кудраўцаў!..

Цяжка працаваць з людзьмі, якія не маюць пачуцця таварыскасці. Да некаторай ступені такім аказаўся былы настаўнік Уладзіміра Мікалай Кузняцоў. Уладзімір перакanаўся ў гэтым у першыя-ж дні самастойнай работы. Прыняўшы аднойчы ад Мікалая змену, ён не знайшоў у інструментальнай шафе ніводнага запраўленага разца. Сам-жа запраўляць разцы яшчэ не ўмеў. Добра, што выручылі другія хлопцы.



Уладзімір Кудраўцаў

— Навошта ты ад мяне хаваеш разцы? — запытаў ён назаўтра ў Кузняцова.

Праціраючы канцамі станіну, Мікалай буркнуў:

— Я табе не абавязаны затачваць іх... Сам вучыся.

Уладзімір прамаўчаў. Ды і што ён мог сказаць: Мікалай меў рацыю — трэба самому вучыцца. А ў каго? У Кузняцова? Наўрад ці захоча ён вучыць.

На дапамогу зноў прышоў Гобрык. Ён падрабязна расказаў і паказаў, як трэба падрыхтоўваць да работы рэжучы інструмент. Праз тыдзень малады токар сам ужо з поспехам спраўляўся з гэтай, як цяпер яму здавалася, няцяжкай справай.

Ішлі дні, тыдні, месяцы. Уладзімір Кудраўцаў працаваў на старэнькім такарна-вінтарэзным універсальным станку. Ён паставіў перад сабой задачу — дабіцца таго, каб сістэматычна перавыконваць нормы, удасканальваць майстэрства, дагнаць і перагнаць сваіх настаўнікаў. На строгі ўлік была ўзята кожная мінута рабочага часу. Падрыхтоўка рэжучага інструменту і агляд станка рабіліся да пачатку работы; перакур і ўсякія лішнія размовы — побаку: станок павінен працаваць усе 480 мінут. Адразу гэта адчулася. Выпрацоўка пайшла ўгару: 120, 150, 180 працэнтаў.

Дасягненняў маладога токара не маглі не заўважыць у дэпо. І калі ў 1950 годзе прыбыў новы такарна-вінтарэзны станок ДІП-200, новы начальнік дэпо, не доўга думаючы, даверыў яго Кудраўцаву.

— Станок будзе працаваць, як гадзіннік, — запэўніў токар.

Узрадаваны давер'ем, Уладзімір знайшоў сваіх новых напарнікаў Жоржа Науменку і Генадзія Сібілева.

— Хлопцы! — усхвалявана сказаў ён. — Мы — камсамольцы, і станок наш павінен быць камсамольскім. Папрацуем-жа на ім так, каб другія з нас прыклад маглі браць.

Жорж і Генадзі ў знак згоды паціснулі Валодзю руку.

На дапамогу комсамольцам прыйшоў галоўны інжынер дэпо т. Таўчыгрэчка. Ён параіў больш чытаць тэхнічнай літаратуры па такарнай справе. На здзіўленне жонкі, Уладзімір вечарамі сядзеў за кнігамі. Ён чытаў пра тое, як перадавікі вытворчасці смела ламалі ўстарэлыя нормы, пры дапамозе розных тэхнічных і тэхналагічных удасканальванняў падвойвалі і патройвалі выпуск прадукцыі.

Аднойчы прышоў на змену Жорж Науменка. Ён зірнуў на Кудраўцава, які апрацоўваў у гэты час валік паўзуна. Шпіндзель працаваў на вялікіх абаротах — не менш тысячы ў мінуту. Хлопец вачам сваім не паверыў.

— Што ты робіш? — спалохана спытаў ён. — Гэта-ж станок разляціцца на кавалачкі!

Уладзімір спыніў матор, усміхнуўся і, каб заспакоіць таварыша, сказаў упэўнена:

— Не разляціцца. У Паўла Быкава ён яшчэ на большых абаротах працуе і то нічога. Гэта толькі мы баімся, каб чаго не выйшла. На вось паспрабуй сам, — прапанаваў Уладзімір.

Науменка ў нерашучасці падыйшоў да станка і пачаў рабіць гэтак, як паказваў Уладзімір. Рухі яго хутка набылі ўпэўненасць і к канцу змены ён працаваў ужо на высокай хуткасці. За гэты дзень яго норма выпрацоўкі перавысіла 200 працэнтаў.

Але на другі дзень хлопца, як знарок, падпільноўвала непрыемнасць. Кудраўцаў прыняў змену ў Науменкі. Хуценька змахнуўшы стружку са станка, Жорж у момант некуды знік. Нічога не думаючы, Уладзімір уключыў матор. Станок не працуе. Ён выбег з цэха і ўжо на двары дагнаў Науменку, вярнуў яго:

— Паказвай, што нарабіў, лайдак ты гэтакі!

— Нічога асаблівага... — паціснуў плячыма Жорж. — Крыху пагнуўся ўтарычны валік рабочага ходу, дык яго-ж можна выправіць.

— А чаму-ж ты не выправіў, а мне хацеў падсунуць?

Кудраўцаў не прыняў змену і далажыў аб тым, што здарылася, брыгадзіру. Той узлаваўся і на ўвесь цэх пачаў крычаць на Уладзіміра.

— Ты аўтамашыну разбіў, а цяпер і да станка дабраўся? Гэта-ж трэба шпіндзель круціць на такіх абаротах!.. У каршэнь трэба гнаць такіх токараў!

— Чаго ты раскрычаўся? — спытаў у брыгадзіра майстар Сычкоўскі. — Мы Кудраўцаву і так нічым не дапамагаем, а ты яшчэ крычыш на яго.

А яно вось як было: Жорж, захапіўшыся працай, не заўважыў, як пад шпіндзель трапіў кавалак металу, вышаў пад валік рабочага ходу і пашкодзіў яго. За нядбайныя адносіны да абсталявання тады ўсім тром зменшчыкам — Кудраўцаву, Науменку і Сібілеву была абвешчана вымова.

Уладзіміра гэта ўразіла і ўсхвалявала, але ён не думаў гэтак лёгка адмаўляцца ад таго, што ўжо фактычна было дасягнута. У стыку змен сабраліся ўсе зменшчыкі і дамовіліся аб тым, каб лепш арганізаваць рабочае месца. Тут-жа яны вырашылі ні ў якім разе не адмаўляцца ад скораснага метаду.

І вось закончыўся першы год работы па-новаму. У бухгалтэрыі і планавым аддзеле падвялі вынікі працы. Планы былі далёка перавыкананы, сэканомлены дзесяткі тысяч рублёў дзяржаўных сродкаў. Першую сваю рабочую прэмію атрымаў і Уладзімір Кудраўцаў, які выканаў гадавы план на 295 працэнтаў.

Атрымаўшы неяк тэрміновы заказ на апрацоўку валікаў паўзуна, Уладзімір, каб хутчэй выканаць заказ, павялічыў падачу разца. Ад вялікай нагрузкі станок уздрыгнуў, цяжка загудзеў. Але не спыніўся: з-пад разца папаўзла тоўстая фіялетава-сіняга колеру стружка. Хвілін праз пяць ён спыніў станок, агледзеў рэжучую кромку лёза разца, валікі рабочага ходу, мацаванні кулачковых патронаў на планшайбе — усё ў парадку. А ну, яшчэ разок!

Зноў надрыўна загудзеў станок, папаўзла тоўстая стружка. Праходзіць гадзіна, другая — і валік гатоў. Выйгрыш у часе склаў паўтары гадзіны. Вось і рэзерв!

Пра сваё адкрыццё Уладзімір з захапленнем расказваў Генадзію і Жоржу. Тыя аднесліся да яго захаплення скептычна: маўляў, за скараснае рэзанне лаюць, а за вялікія падачы разца і наогул заклююць. Кудраўцава таксама ўзяло сумненне: можа і сапраўды пакінуць гэтую задуму? Яшчэ бяды наробіш і адказваць будзеш. Але ахвота працаваць па-новаму была настолькі вялікай, што ён, хоць употай, ды працаваў па-свойму.

— Ну, і даеш ты нейкую шалёную падачу,— заўважыў яму аднойчы намеснік сакратара камітэта комсамола Вадзім Вадэйка. — Глядзі, кіраўнікі як даведаюцца, дык будзе бяды.

Хутка і сапраўды цэхавае начальства даведалася аб незвычайным метадзе работы Кудраўцава і далажыла майстру. Той, як вецер, уляцеў у цэх — і да токара:

— Што табе станок — гэта цацка?.. Яшчэ раз захацелася паламаць яго? — і кінуўся аглядаць станок, шукаючы на ім пашкоджанняў. — Не выйдзе! Зараз-жа пакінь усялякія там штукі з націскам, інакш я паскарджуся начальніку дэпо.

Нават тэхнік Васіль Цінякоў палічыў патрэбным уставіць слоўца і ні ў якім разе не ў карысць Кудраўцава. Не знайшоўшы ні ў кога падтрымкі, токар ледзь не прызнаў сябе пераможаным. Аднак ён лічыў, што рана ці позна сілавы метад рэзання ўвойдзе ў практыку работы ўсіх токараў. І сам, калі яму трэба было тэрмінова выканаць якое заданне, працаваў па-новаму, нягледзячы на забарону.

На другі год работы токарам Кудраўцаў выканаў тры гадавыя нормы з лішкам і, такім чынам, закончыў свой пяцігадовы план. Але токара не задавальняла, што толькі ён адзін працуе гэтак. Хацелася прастору творчых пошукаў, абмену думкамі з такімі-ж шукальнікамі новага, як ён сам. Зрабіць-жа гэта ў Баранавіцкім паравозным дэпо аказалася не так лёгка — вельмі ўжо многа было руцінёраў і прыхільнікаў ціхага, спакойнага жыцця, якія станавіліся папярок дарогі наватару.

Нарэшце прышоў час, калі Уладзімір, ужо не баючыся нікога, павялічыў падачу разца да двух з лішкам міліметраў. Гэта ён зрабіў на другі дзень пасля таго, як прачытаў у газетах аб наватарскім метадзе Васіля Колесава. Цяпер ужо Кудраўцава ніхто не прабіраў і не палохаў. Адзін толькі майстар гаспадарчага цэха, убачыўшы тоўстую стружку металу, якая плаўна выходзіла з-пад разца, клаў на плячо Уладзіміра руку і прасіў:

— Браток, лягчэй трошкі. Гэта-ж машына.

Азнаёміўшыся з геаметрыяй разца Колесава і папрацаваўшы гэтым разцом месяцы са два, Кудраўцаў прышоў да вываду, што нявыгадна працаваць двума разцамі—праходным і падрэзным. Ён пачаў думаць над тым, каб знайсці такую геаметрыю разца, які з'яўляўся-б адначасова праходным і падрэзным і забяспечваў-бы сілавое рэзанне. Ён раіўся з галоўным інжынерам, з тэхнікамі і майстрамі. Яго творчыя пошукі неўзабаве прынеслі поспех. Ён сканструяваў такі разец, які аднačасова робіць чарнавую і чыставую апрацоўку металу. Уладзімір удасканаліў і тэхналогію апрацоўкі найбольш складаных дэталей, у прыватнасці, валікаў паўзуноў паравозаў. Прадукцыйнасць працы пры апрацоўцы гэтай дэталі павялічылася ў тры разы.

**г. Баранавічы.**

# БЕЛАРУСКІЯ ШАЎКАВОДЫ

**Чатыры гады назад да барбароўскіх калгаснікаў дайшла чутка, што хлебаробы з нараўлянскай вёскі Доўгляды ўзяліся за развядзенне дубовага шоўкапрада.**

**Размова на гэтую тэму, магчыма, і заціхла-б, калі-б не калгасная моладзь. Аднойчы майскім вечарам комсамольцы наважылі сур'ёзна пагаварыць аб развядзенні дубовага шоўкапрада. Розныя былі думкі і меркаванні. Нарэшце моладзь вырашыла накіраваць сваю дэлегацыю ў Доўгляды, у калгас «За Радзіму», каб увачавідкі азнаёміцца з работай энтузіястаў беларускага шоўкаводства.**

**Комсамольцы пабывалі ў Доўглядах, а праз некаторы час з Чарнобыльскага гранажнага пункта, што на Кіеўшчыне, быў дастаўлены ў Барбары кілограм грэны. Жадаючых працаваць на шоўкаводчай плантацыі знайшлося нямала. Анна Малянковіч, Марыя Жур, Маруся Савянок, Ніна Юшчанка і многія іншыя ўзяліся за гэтую новую і цікавую справу.**

**...Восенню 1952 года на абласной сельскагаспадарчай выстаўцы ў павільёне Нараўлянскага раёна наведвальнікі падоўгу затрымліваліся ля стэнда дубовага шоўкапрада. У невялікім кошыку і проста на паліцы ляжалі жоўтага колеру буйныя коканы.**

**— Беларускі шоўк! — тлумачыў экскурсавод. — Новая галіна калгаснай вытворчасці. Дзесяткі тысяч рублёў даходу, выдатная сыравіна для нашай прамысловасці.**

**...На Палессі сёлетняя вясна наступіла рана, але надвор'е было вельмі няўстойлівым.**

**З вясны на левым беразе Прыпяці барбароўскія шаўкаводы аднавілі работу. Пераплываючы на лодцы праз раку, дзевяць маладых калгасніц на чале з Аннай Малянковіч рыхтавалі дубняк: сцягвалі з-пад кустоў сухое галлё, прарэджвалі занадта густыя зараснікі, а звісаўшае галлё падымалі і падвязвалі. Насыпалі ў вёдры і пераносілі пад кусты сыпучы пясок з берага.**

**А каб не даць развесціся шкоднікам шоўкапрада, злёгку пасыпалі зямлю гексахларанам.**

**Пакуль вялася падрыхтоўка зарасніку, у доме Марусі Савянок ішла інкубацыя прывезеных з гранажнага пункта чатырох кілаграмаў грэны. На працягнутым дроце былі падвешаны спецыяльныя мяшэчкі з пергаментнай паперы. Час-ад-часу комсамолкі Анна Карабіновіч і Анна Харланчук апырсквалі мяшэчкі рэстворам марганцоўкі і каустычнай соды, падтрымліваючы ў іх вільгаць. Праз якіх-небудзь тры-чатыры дні грэна ажыла: з'явілася маленькая чорная вусень.**

**— Дзяўчаты, трэба спяшацца, хутчэй падвешваць мяшэчкі на дубняк,—сказала Анна Малянковіч.**

**На першым часе хапіла ўсяго некалькі кустоў. На іх падвесілі мноства мяшэчкаў. Абсталявалі шалаш — пастаяннае месца збору.**

**...Аднойчы з ракі пацягнула моцным холадам. У поўнач белізной інею злёгку пакрылася маладзенькая трава.**

**— Добра, што засталіся тут на ноч, — не хаваючы хвалявання, сказала Маня Жур.**

**— А што з таго, калі мы тут сядзім? — разгублена адказала Маруся Савянок. — Стараліся колькі, і вось на табе — ніводнай вусені не застанецца...**

**— Выхад толькі адзін, — рашуча загаварыла Анна Карабіновіч. Усе павярнулі галовы ў яе бок. — Трэба раскласці агонь і дым накіроўваць у бок зарасніку.**

**У трох месцах хутка былі распалены вогнішчы. Клубы шэрага дыму папаўзлі на зараснікі. Работа працягвалася ўсю ноч. Калі ўзнялося сонца, шаўкаводы кінуліся да сваіх кустоў.**

**— Жывуць!**

**Вусень была захавана.**

**С. ГАРАВЫ**



**Звяно за апрацоўкай дубовых парасляў хімікаліямі.**

Фото Л. Шэпелева.

Яўген **ВАСІЛЁНАК**

Мал. Г. Паплаўскага.



# КАНЕЦ БЕЛАЙ МАГІЛЫ

**Апавяданне**

Вы чулі пра Джабаева? Ага, пра Джамбула Джабаева. Ну, дык вось, калі хочаце ведаць, колькі шкандыбае на гэтым свеце стары Ісмамбек, зазірніце ў календар і адшукайце там лісток, дзе гаворыцца пра нашага славутага акына. Мы аднагодкі з ім, а як-жа! Якраз тады, калі з'явіўся на свет Джабаеў, пачаў адмерваць свой жыццёвы шлях і я. Уся розніца ў тым, што Джабаеў нарадзіўся ля падножжа гары Джамбул, на поўдні, а маёй радзімай была поўнач, а дакладней кажучы — Белая магіла.

Але, але, першую сотню гадоў я ўжо адмераў, пачаў мераць другую. Разлічваю і яе перашкандыбаць гэтак-жа спраўна. Мы, казахі, сябруем з беркутамі, а беркуты жывуць па трыста год.

Але-ж я збіраўся расказваць вам не аб сабе, а аб сваім праўнуку. Вы прабачце ўжо мне за маю старэчую балбатлівасць. Не, цяпер я не сыйду з тропу і раскажу вам пра Мухтара па парадку. Хто-хто, а Ісмамбек ведае, як яно здарылася, што Мухтар уліпнуў у гэтую неверагодную гісторыю.

Ды толькі, каб вам усё было зразумела, трэба сказаць яшчэ сёе-тое пра нашых продкаў. Два словы, не больш.

Майго прадзеда забіў тыгр. Ён быў смелы паляўнічы і хадзіў на звяроў амаль што з голымі рукамі. Мой дзед паляваў з беркутам, а бацька, удасканаліўшы промысел продкаў, акрамя беркута, меў ганчака. Таму не дзіўна, што яшчэ з дзяцінства я марыў толькі аб тым, каб памножыць славу свайго роду.

У спадчыну ад бацькі я атрымаў старога беркута з адным вокам, другое вока беркут страціў у паядынку з ваўком. Але ў мяне не было аргамака. А хіба можна лічыць чалавека паляўнічым, калі ў яго няма каня? Каб зарабіць на аргамака, я пайшоў да бая Даўлет-гірэя і стаў у яго за чабана.

Многа разоў выпадаў пасля таго снег, многа разоў цвіў стэпавы кавыль, а Даўлет-гірэй усё казаў, што я яшчэ не напрацаваў на каня. А тады аднаго разу здарылася так, што, ратуючы статак гаспадара, я даволі блізка пазнаёміўся з ваўком. Той воўк, відаць, быў дужа галодны, бо інакшай з якой-бы рады ён замест тлустага і смачнага баранавага курдзюка ўчапіўся ў маю худую, жылістую лытку?

Так нечакана прышоў канец маёй мары памножыць славу свайго роду новымі паляўнічымі подзвігамі.

Цяпер мне заставалася спадзявацца толькі на сына. Але, як на тое ліха, у мяне нараджаліся чамусьці адны дочкі. Чатыры з іх, старэйшыя, памерлі, нават не дасягнуўшы таго ўзросту, калі дзецям прыходзіць пара мець сваіх дзяцей. Вы павінны зразумець, у якім адчаі я быў. Бо нават і на ўнука я не мог спадзявацца...

Нарэшце, Аміна, малодшая мая дачка, вырасла здаровай і, як гэта і павінна быць, у прызначаны час вышла замуж... Ды бяда не прыходзіць адна. І ў Аміны нямаведама чаму нараджаліся дзеці, якім можна было даць толькі жаночае імя...

Абмінала наш род удача на джыгітаў. А мне на той час было ўжо за семдзесят...

І вось неўзаметку неяк здарылася так, што выгадавалася ўнучка, Зульфія. Чую — а яна ўжо і замужам. І што-б вы думалі? Першынцом у яе быў хлопчык, во як!

Цяпер, калі я вам раскажу ў двух словах радаслоўную Мухтара аж да шостага калена, вы мусіце зразумець, кім ён павінен быў стаць. Паляўнічым, во кім павінен быў стаць Мухтар! Іменна яму выпадаў лёс памножыць славу старога казахскага роду.

У той дзень, калі ён нарадзіўся, я сказаў сабе: трэба здабыць Мухтару беркута. І я здабыў яго, хоць мне прышлося спусціцца ў цясніну, дзе было гняздо, на вяроўцы, і я рызыкаваў зрабіцца кульгавым і на другую нагу. Я назваў беркута Кара-Гык, што азначае Чорнае плячо. Ён быў зусім малады, нават лётаць не ўмеў. Праз тры гады, калі беркуцёнак прывык да мяне і пачаў лётаць, я стаў прывучаць яго браць здабычу. Робіцца гэта так. Бярэцца кавалак мяса і закідваецца куды-небудзь, паступова усё далей і далей. Беркут павінен злётаць за мясам і вярнуцца да гаспадара. Тады яму дазваляецца з'есці мяса. Праз год я навучыў Кара-Гыка нападаць на лісіцу. Паляваць на ваўка павінен быў навучыць беркута сам Мухтар, бо на гэта я быў ужо няздатны.

Ведаеце, колькі зараз год Кара-Гыку? Дваццаць, во колькі! А паляваць на ваўка ён усё яшчэ не ўмее...

Не, я не кажу, што партыя і ўрад зрабілі няправільна, калі пастанавілі ўзараць Белую магілу, каб вырошчваць тут хлеб. Нашы продкі казалі: багаты народ, калі ў яго багатая зямля. Але свайго багацця мы не ведалі і не ўмелі карыстацца ім. Мы, стэпавікі, заўсёды былі бедныя. Па хлеб мы ездзілі за край свету, у блаславенны Ала-Тау. Таму я наконт гэтага і не кажу нічога. Але я кажу, што правільную пастанову няправільна зразумеў Мухтар.

Вось як яно ўсё было.

Пра тое, што ў стэп прыехалі новыя людзі, у нашым ауле стала вядома адразу. Народнае пагалоска, або, як кажуць казахі, узун кулак, што азначае «доўгае вуха», хутчэй за вецер даносіць навіны ў самыя далёкія аулы і паселішчы. Пра тое, што гэтыя людзі стварылі соўгас з прыгожай назвай «Гвардзейскі», мы таксама даведаліся ў адзін момант. Я не буду расказваць, як сустрэлі гэтыя чуткі ў ауле, бо зноў адхілюся ўбок. Скажу, як аднёсся да гэтага Мухтар.

Прыходзіць да мяне ў юрту Зульфія. Сядае на цыноўку, маўчыць спачатку, а потым гаворыць:

— Мухтар перадае вам паклон, ата.

— Джаксы, кажу. Добра, кажу. Але чаму ён прыслаў з паклонам цябе, а не прышоў сам?

— Яму дужа некалі. Ён шые новы бурдзюк.

— Навошта, — пытаюся я, — спатрэбіўся яму той бурдзюк, і што ён збіраецца туды класці?

Тут Зульфія не стрымалася і пачала галасіць. Ну, думаю, справа дрэнь, трэба ісці на выручку.

Сапраўды, гляджу — Мухтар ладзіць бурдзюк.

— Да тых людзей, — пытаюся, — надумаўся бегчы?

— Не, — адказвае Мухтар, — не бегчы, а скакаць на аргамаку, бо туды ног не хопіць.

Ён у мяне такі, за словам у кішэню не лезе.

І хоць не да твару чалавеку ў маім узросце хваляваца перад маладзёнам, але я не стрымаўся і ўскіпеў.

— Ты, — крычу, — скарпіёнава свае джала схавай, а то вырву яго ў цябе і шакалам выкіну. Дай сюды бурдзюк, ён мне ў юрце спатрэбіцца. А сам ідзі да Кара-Гыка, ён сёння яшчэ галодны. Не шкодзіла-б даць яму пакаштаваць воўчую лытку, я купіў тушу ў

Аскара, ён учора дзвюх ваўчыц прывалок са стэпу.

— З Кара-Гыкам я ўжо развітаўся, ата, — спакойна гаворыць да мяне Мухтар. — І ведаеце, ата, нешта не заўважыў я, каб ён быў вельмі засмучоны з прычыны таго, што я пакідаю яго.

Сказаў так, а сам зноў за бурдзюк узяўся. І бачу я — ну, увесь чыста ён выліты я, такі-ж самы ўпарты і непахісны. Што наважыўся, тое і зробіць.

— Не сярдуйце, ата,—гаворыць далей Мухтар. — Паляўнічае шчасце не для мяне. Я пайду руйнаваць Белую магілу.

Відаць, тут трэба расказаць вам, чаму наш край завецца Белай магілай. Я кораценька, у двух словах.

Адкуль, вы думаеце, паходзіць назва горада Акмолінска? А Акмолінскага стэпу? Ад казахскага слова Акмола, што якраз і азначае — Белая магіла.

Існуе ў нас такое паданне.

Даўно-даўно, калі яшчэ не было ў казахскіх стэпах гарадоў і наш народ быў вандроўны, у тутэйшых месцах праходзіў вярблюджы гасцінец. Па ім якраз і ішлі караваны ў той блаславенны Ала-Тау. Цяжка было прабівацца караванам праз пустыню. Летам гасцінец заносіла пяском, зімою — снегам. І вось адзін такі караван заспела ў дарозе завіруха. Караван збіўся з гасцінцу і вымушаны быў прыпыніцца. А снегу ўсё большала, і вецер усё мацнеў. Некалькі дзён змагаліся людзі з непагаддзю, але яна так расхадзілася, што ўсё было дарэмна.

Доўга чакалі казахі таго каравану, а ён усё не вяртаўся. Тады пайшлі шукаць яго. І праз некаторы час натрапілі на вялікі снежны пагорак. З яго там і сям тырчэлі галовы вярблюдаў, рукі людзей...

— Акмола!.. — шапталі ў жаху казахі. — Белая магіла!..

Шмат часу прайшло з тае пары, шмат вятроў пранеслася над казахскай зямлёй, а страшнае слова «Акмола», «Белая магіла» не выветрывалася з памяці людзей. Стэп, дзе разыгралася жудасная трагедыя, стаў называцца Акмолінскім. І, нібы апраўдваючы сваю назву, вякамі ляжаў ён змярцвелым, пазбаўленым жыцця.

Партыя і ўрад зрабілі правільна, што пастанавілі ўсё ў нашым краі перайначыць, каб не кавыль і палын, а жыта і пшаніца красавалі ў ім. І зусім правільна прыслалі яны ў стэп людзей. Тыя людзі, — сцвярджаў узун кулак, — усё ўмеюць, у іх многа розных машын, і самі яны проста батыры, проста асілкі. І зусім не патрэбен ім мой Мухтар, гэта-ж кожнаму падшывальцу зразумела.

— Не, — упарціцца Мухтар, — яны без мяне ніяк не могуць абыйсціся. Многа яны ведаюць, але не ўсё. Яны прыйшлыя, а я тутэйшы. Напрыклад, калі разліваецца Ішым— хіба вядома ім? Наўрад. Зноўжа, што рабіць, калі табе ноччу забярэцца пад кашулю скарпіён,—ведаюць яны? Эге, без Мухтара ім ніяк не абыйсціся.

І паехаў, і не ўтрымаў я яго, чарцяку, хоць напаследак паабяцаў нават, што калі яму і сапраўды забярэцца ноччу пад кашулю скарпіён, а ён спрасонку забудзецца, што трэба рабіць у такім выпадку, я не прыеду ратаваць яго ад укусу.

Гэта было летась, на прадвесні. Мінуў тыдзень, другі, і я ўсё цешыў сябе надзеяй, што Мухтару не спадабаецца там, сярод тых прыйшлых людзей, або што ён прыдзецца ім не да спадобы. Але калі да мяне аднойчы завітала Зульфія і па яе вачах я беспамылкова вызначыў, што яна атрымала пісьмо ад сына, я зразумеў, што Кара-Гык ніколі ўжо не навучыцца паляваць на ваўкоў.

Далікатнасць — найпершы закон стэпу, і я спытаў у Зульфіі, ці праўда, што Мухтар зрабіўся дужа вялікім начальнікам.

— О, чыстая праўда! — і вокам не маргнуўшы, сказала Зульфія. — Ён там самы вялікі начальнік. Пад яго ўладаю ходзіць столькі джыгітаў, столькі... о, дужа многа джыгітаў, я нават не магу перадаць вам, колькі іх многа. Можа нават сорак, ці нават пяцьдзесят. Сам Верашчака і яшчэ Маладзічын падначальваюцца Мухтару.

— Ну, калі ўжо сам Верашчака... — прамовіў я такім тонам, быццам мне вельмі добра было вядома, якая гэта значная птушка — Верашчака.

Зульфія пайшла да суседак расказваць пра Мухтара, а я накіраваўся да настаўніка. Ён у нас вельмі разумны чалавек, ён усё чыста ведае, і нават тое, ці быў пачатак свету і ці будзе яму канец. Пра гэта ён нам аднойчы тры гадзіны расказваў, і мы цяпер таксама ведаем, што, дзякуючы алаху, нічога не было і нічога не будзе.



— Верашчака? Маладзічын? — перапытаў настаўнік. — Гэта мы ў адзін момант высветлім. — І ён пачаў корпацца ў кнігах. Іх у яго мо' цэлы пуд, а можа і два пуды. Корпаўся ён доўга, а тады кажа: — Ёсць! Верашчака — гэта страва такая, нацыянальная беларуская страва. Ну, напрыклад, як у казахаў — бешбармак, а ў узбекаў — плоў. Можа толькі не такая тлустая. Зразумела? А наконт Маладзічына... тут справа больш складаная. Панцце гэта вельмі неакрэсленае, я нават сказаў-бы — туманнае. Ні тлумачальны слоўнік, ні слоўнік замежных і нават лацінскіх выразаў нічога пэўнага нам не даюць. Але я здагадваюся, што гэта слова не простае, а складанае, яно складаецца з двух слоў. Першае слова — мала. Што яно азначае, зразумела і без слоўніка замежных выразаў. Мала! А другое слова — дзічына. Яго таксама можна тлумачыць толькі ў адным напрамку. Падыйшоўшы да вырашэння справы з гэтага боку, мы можам вельмі проста расшыфраваць гэтае туманнае на першы погляд панцце. Яно азначае: мала дзічыны! Вы зразумелі, ата? Вы задаволены?

Я сказаў, што ўсё зразумеў і вельмі задаволены, бо далікатнасць — найпершы закон стэпу. А сам сабе падумаў: «Дрэнныя твае справы, Мухтар. Дзічыны табе там зусім не даюць, а прымушаюць жлукціць нейкую нятлустую верашчаку».

І яшчэ я падумаў: «Мусіць, Кара-Гыка выпускаць на волю не варта. Ён яшчэ навучыцца паляваць на ваўкоў».

Месяцы праз два зноў завітала да мяне Зульфія. Вочы ў яе, бачу, сумныя, але словы яна гаворыць вясёлыя:

— Мухтар? О, джаксы! Добра! Усе сто джыгітаў, якія ходзяць пад яго ўладаю...

Я не стаў слухаць, што робяць сто джыгітаў, якія ходзяць пад уладаю Мухтара, і ў двух словах расказаў Зульфіі пра поспехі Кара-Гыка, які беспамылкова пачаў ужо адрозніваць ваўчынае мяса ад лісінага: аддаючы перавагу іменна ваўчынаму.

Мінула вясна, прайшло і лета. Зульфія да мяне больш не прыходзіла, і я сам падаўся да яе.

— Якія навіны, Зульфія? — пытаюся.

— О, джаксы, бік джаксы! Вельмі добра! Усе дзвесце джыгітаў Мухтара шлюць вам прывітанне.

«Усё зразумела, — сказаў я тады сабе. — Наш магутны род даў слабасільных патомкаў. Але хіба самі патомкі вінаватыя ў гэтым? Не прападаць-жа Мухтару ні за панюшку табакі...»

«Дзён якіх праз тры я быў ужо ў дарозе. Мой ішак панура плёўся па стэпу, час-ад-часу агалошваючы наваколле немым іржаннем, на плячы ў мяне сядзеў Кара-Гык, сумнымі вачыма пазіраючы наўкола, а я спяваў. Мы, казахі, любім спяваць у дарозе. Мы спяваем пра ўсё, што трапляе нам на вока. Так хутчэй бяжыць час. Чатыры разы ўзыходзіла сонца, пакуль я не ўбачыў возера Інды-Куль. Недзе тут, згодна з узун кулакам, павінен быў быць Мухтар.

Знайшоў я яго позна вечарам у невялічкім доміку на самым беразе возера. Там з ім было яшчэ некалькі джыгітаў, я не ведаю дакладна колькі, але дзвесце іх не было, не было і пяцьдзесят, гэта я магу сказаць пэўна. Свой домік яны называлі вагончыкам. Раніцой я разгледзеў, што ён і сапраўды быў на калёсах. Тут у іх быў палявы стан, як яны растлумачылі мне.

Я не скажу, што Мухтар не ўзрадаваўся майму прыезду. Сказаць так было-б несправядліва. Але я заўважыў, што радасць сустрэчы праўнука з прадзедам была чымсьці нібы азмрочана.

Яны ўжо кладліся спаць. Відаць, павячэралі перад маім прыходам, таму я не бачыў тую дзіўную страву, якой кармілі тут Мухтара.

— Ну як, паддаецца Акмола? — з намёкам спытаў я ў Мухтара, помсцячы яму за яго напышлівасць напярэдадні ад'езду з аула. — Мабыць, ад яе нічога ўжо і не засталося, усю зруйнаваў.

---

### *У сельскіх фізкультурнікаў*

**Добрай славай карыстаецца фізкультурны калектыў калгаса імя Мікаяна Гомельскага раёна. У валейбольнай, футбольнай, веласіпеднай секцыях, у секцыі лёгкай і цяжкай атлетыкі ўдзельнічае 170 маладых калгаснікаў.**

**Сельскія фізкультурнікі на чале са сваім ініцыятыўным, энергічным кіраўніком Уладзімірам Калікавым рэгулярна праводзяць трэніроўкі, спаборніцтвы. Неаднаразова яны прымалі ўдзел у раённых і абласных першынствах і заваявалі не адну спартыўную перамогу.**

**На раённай калгаснай спартакіядзе цяжкаатлет Леанід Гарбачоў выканаў норму трэцеразрадніка ўсесаюзнай класіфікацыі, а Барыс Лахрын, які выступіў у паўлёгкай вазе, — норму трэцяга спартыўнага разраду. У абласных спаборніцтвах юнацкая каманда калгаса заняла другое месца па гарадках.**

**У вострых, гарачых сутычках праходзяць частыя таварыскія сустрэчы футбольных каманд. Калгасныя футбалісты рэгулярна, тры-чатыры разы на тыдні, праводзяць трэніровачныя гульні, навучаюцца майстэрству перамагаць на зялёным полі.**

**А. ГРАМЫКА.**



— Не, засталося яшчэ многа, — адказаў Мухтар. — Але мы яе ўсё-ж дакончым.

Тады я сказаў:

— Я ўсё разумею, Мухтар. Ты ўпарты, як і ўсе ў нашым родзе. Тваіх пісем я не бачыў, але Зульфія мне сёе-тое гаварыла, і я ўсё разумею. Я абяцаў, што не прыеду ратаваць цябе, але гэта датычылася толькі скарпіёнаў. Мы можам паехаць заўтра на досвітку, я ніколькі не стаміўся, хоць дарога была нялёгкая. Кара-Гык ведае ўжо, што такое ваўчынае мяса.

— Заўтра я хачу паспрабаваць апярэдзіць Сямёна Бандарэнку, — адказаў задуменна Мухтар.

— На чым? — не зразумеў я.

— На трактары. Мы заключылі з ім умову на спаборніцтва.

У ахвотку папіваючы халодны кумыс, які я прывёз з сабою, Мухтар паведаміў мне, што гэтыя поўгода ён тут не сядзеў склаўшы рукі, а ліквідаваў сваю, як ён сказаў, тэхнічную адсталасць. Аказалася, што ён цяпер не чабан, а трактарыст, і што яго мэта — даць сто пяцьдзесят працэнтаў.

Прызнацца сабе ў тым, што я не надта разумею Мухтара, было тое самае, што адрачыся ад самога сябе, таму я сказаў:

— Добра, мы заўтра не паедзем. Я пагляджу, як джыгітуюць трактарысты.

Ну, не буду вам расказваць пра тыя цуды, якія я ўбачыў назаўтра, бо тады я адхіліся ў бок ад галоўнага. Заўважу толькі, што, назіраючы за Мухтарам і яго сталёвым аргамакам, я сказаў сабе: калі Мухтар тут і не вельмі вялікі начальнік, ён усёроўна вельмі вялікі ўмека. За якіх дзве гадзіны ён узараў столькі, што майму ішаку трэба было-б цэлы дзень трушком бегчы, каб усё аб'ехаць. Я не маню, дальбог!

Пад поўдня я так стаміўся, ходзячы па раллі, што і ног не чуў. Прысеў сабе проста на зямлю, а тады раптам бачу, што да мухтаравага трактара набліжаецца нейкая жанчына. Вочы ў мяне яшчэ добра відушчыя, і я адразу ўглядзеў, што яна зусім яшчэ маладзенькая, проста дзяўчынка. Я нават усміхнуўся сабе, бо надта ўжо незвычайнай для нашага суровага стэпу выглядала яе танюткая постаць і гэтыя яе гарадскія чаравікі, даволі ўжо стаптаныя. Валасы ў дзяўчыны выцвілі, твар загарэў, аж чорны стаў, а нос аблупіўся. Проста смешна было глядзець на яе.

Дзяўчына накіроўвалася да Мухтара. І раптам мне здалося, што яны пачалі спрачацца. Я аж дыхаць перастаў. Дзе гэта бачна было, каб дзяўчо джыгіту пярэчыла?! Няма такога закону ў казахскіх стэпах!

Мне не было чуваць, пра што яны там гаварылі, але калі я ўсхапіўся і паклыпаў да Мухтара, дзяўчына змоўкла і, змераўшы мяне цікаўным позіркам, хутка пайшла прэч.

— Хто гэта? — з абурэннем пытаюся я ў Мухтара.

— Таварыш Верашчака, — адказвае Мухтар, а сам — гляджу — робіцца чырвоны-чырвоны, як самы спелы алмаацінскі апорт.

«Вось табе і страва...» — сказаў я сабе і дадаў у адрас настаўніка нешта такое, ад чаго яму абавязкова павінна было ікнуцца.

— Адкуль яна такая ўзялася?

— З Маладзечна, — гаворыць Мухтар. — Ёсць такі горад у Беларусі.

Тут, відаць, нашаму настаўніку зноў ікнулася, не інакш. І дзе толькі ён набраў тых недарэчных кніг?..

— І што ёй ад цябе трэба?

— Сто шэсцьдзесят працэнтаў. Яна працуе ўчотчыкам. Учора я даў сто сорак.

— Народная прыказка, — заўважыў я Мухтару, — гаворыць: «Аб'язджай балота як найдалей, хавайся ад благога чалавека як найглыбей». Табе трэба было мецъ гэта на ўвазе. Але калі ўжо ты ўліпнуў у гэту гісторыю, дык чаму-б табе не даць ёй тыя сто шэсцьдзесят працэнтаў?

Мухтар рухаўся на сваім аргамаку хутчэй за мяне, і я пачаў адставаць. Я толькі пачуў, як ён з сумам сказаў:

— Трактар — гэта ёсць машына. Жаданні чалавека і магчымасці машыны не супадаюць.

Цяпер я ведаў, што мне трэба было рабіць. Я абавязкова павінен быў адшукаць таварыша Верашчаку.

Удалечыні быў відзён яшчэ адзін трактар, і я пайшоў напярэймы яму. На ім араў высокі чорнабровы юнак.

— Яна толькі што была тут, — сказаў юнак. — Зараз яна пайшла да Івана Сініцына.

— З табою яна таксама спрачалася? — пацікавіўся я.

— Не, мы пагутарылі з ёю вельмі прыемна. Мы-ж землякі. Мяне завуць Сямён Бандарэнка.

Я знайшоў яе толькі каля трэцяга трактара. Трактар стаяў, а яна сядзела ў яго цяньку з нейкім рыжым чалавекам і апетытна распраўлялася з гусінаю ножкаю.

Далікатнасць — перш за ўсё, і я сказаў:

— Добры дзень, о, найпрыгажэйшая з кабецін у гэтым стэпу! Я прышоў да цябе наконт трактара.

— Вельмі добра, ата, — адказала таварыш Верашчака. — Калі хочаце пазнаёміцца з трактарам — вось ён, калі са мною — вось я.

І яна засмяялася, і ў яе смеху чамусьці зусім не было злосці. Але я працягваў сваё.

— Трактар, — сказаў я, — гэта ёсць машына. Жаданні чалавека і магчымасці машыны не супадаюць. Навошта ты лаеш Мухтара, о, найцудоўнейшая з ружаў, якія цвілі калі-небудзь на свеце?

— Ружы заўсёды бываюць з калючкамі, ата, — зноў засмяялася таварыш Верашчака.— Вы не жадаеце паабедаць з намі? Гусяціна яшчэ не астыла, яе толькі што прывезлі са сталовай. І, акрамя таго, у маім тэрмасе засталася яшчэ шклянка кампоту, ён усю ноч стаяў у крынічнай вадзе.

«Цікава, — гледзячы на яе, думаў я, — колькі працэнтаў яна патрабуе ад гэтага маўклівага джыгіта, які за час нашай далікатнай гутаркі не прамовіў ні аднаго слова?»

Вечарам, калі мы з Мухтарам дапівалі мой кумыс, ён задуменна сказаў:

— Ведаеш, ата, трактар — надзвычай разумная штука.

— Ты даў сто шэсцьдзесят працэнтаў? — здагадаўся я.

— Сто шэсцьдзесят пяць.

— Цяпер таварыш Верашчака пакіне цябе, — заявіў я. — Яна больш не будзе крычаць!

— Будзе, — уздыхнуў Мухтар. — Сямён Бандарэнка даў сто семдзесят. А Іван Сініцын... ведаеш, рыжы такі?.. ажно сто восемдзесят.

— То ты павінен даць заўтра дзвесце! — узлаваўся я на Мухтара. — І няхай таварыш Верашчака сасніць сёння дзвесце самых рыжых гусакоў і два разы па дзвесце паламаных трактароў, і яшчэ вавілонскае стоўпатварэнне. А я пакуль што пайду ў суседні вагончык, і там бачыў аднаго слаўнага хлапчука. Ці не падараваць яму Кара-Гыка?

Было, відаць, дужа позна ўжо, калі мне захацелася прайсціся па стэпу. Сцежка, што цягнулася ад возера проста на ўсход, вяла мяне ўсё далей і далей. Па абодвух баках сцежкі ляжалі скібы тлустай, нібы бараноў курдзюк, ворнай зямлі. Я ішоў і ішоў, а гэтым скібам усё не было канца і краю... А заўтра іх будзе яшчэ болей, а паслязаўтра яшчэ. А потым закрасуе тут збажына — рослая, дужая, самім золатам налітая...

Край неба на ўсходзе пачаў ружавець. Я прысеў адпачыць. Стэп быў маўклівы і задуменны. Толькі чуліся зрэдку сумныя крыкі птушак, што адляталі на поўдзень...

І раптам я ўбачыў, што па сцежцы нехта ідзе. Іх было двое. Я бачыў іх, а яны мяне не. Я мог-бы хоць на што пайсці ў заклад, што адзін з гэтых начных бадзяг — таварыш Верашчака. Другога я не пазнаваў, але здагадваўся хто ён. «Сто восемдзесят працэнтаў ёй, бясспрэчна, мала», — сказаў я сабе, і падняўся, каб пайсці назад. І тады нечакана я пачуў:

— Вы любіце начныя прагулкі, мой шаноўны прадзед? А ці не шкодныя яны вам пры вашых гадах?

— Нораў майго каня ведаю я сам! — адказаў я Мухтару. І дадаў, звяртаючыся да таварыша Верашчакі:—А ведаеце што? Я заўсёды быў той думкі, што колькі-б ні было ў ружы калючак, яна вельмі цудоўная і пяшчотная





Андрэй Камчыц (трэці злева) у выхадны дзень сярод моладзі.
Фота А. Пераходы.
(Фотахроніка БЕЛТА.)

# НЯХОДЖАНЫМІ СЦЕЖКАМІ

**С. КУХАРАЎ**

**Нарыс**

Сонечным вераснёўскім днём Андрэй Камчыц, дзевятнаццацігадовы юнак з шырокім загарэлым тварам і густымі кучаравымі валасамі над высокім ілбом, не спяшаючыся выйшаў з райкома камсамола. У кішэні яго пінжака, побач з комсамольскім білетам, ляжыць толькі што атрыманае пасведчанне: «Прад'яўнік гэтага А. С. Камчыц з'яўляецца інструктарам Ваўкавыскага райкома ЛКСМБ па зоне Рэпляўскай МТС...» Андрэй прыгадаў развітальныя словы, якія сказаў яму сакратар райкома Леанід Маханёк, выдаючы яму першую камандзіроўку.

— Што-ж тут цяжкага? — пытаў ён сам у сябе і, не задумваючыся, адказваў: — Нічога. Прыедзеш у калгас, знойдзеш комсорга і правядзеш сход. Прапагандыста мы вылучылі, застаецца толькі размеркаваць комсамольцаў: каго ў палітгурток, а каго ў палітшколу... Заадно пацікаўся, як там з улікам. У іх, здаецца, ёсць «мёртвыя душы».

Сказаўшы гэта, сакратар нахмурыўся, зморшчыў лоб, успамінаючы, якое-б яшчэ даручэнне даць хлопцу. Нічога не надумаўшы, ён махнуў рукою і пажадаў свайму маладому работніку ўдачы. Потым ужо наўздагон кінуў:

— А з усёй зонай пазнаёмім цябе як-небудзь потым...

«Што-ж тут цяжкага?» — іранічна паўтарыў Андрэй сказаныя сакратаром словы. «Усякая справа лёгкая для таго, хто яе добра ведае. А я-ж навічок... Але нічога, папрацуем, таварыш сакратар»...

Думкі аб новай, самастойнай працы, нібы на крыллях, падхапілі і панеслі Андрэя насустрач невядомым, радасным далечам. Хутчэй туды, у сваю вялікую і незнаёмую зону!

На шырокай вуліцы ў калгасе «Совет міру» новага інструктара сустрэў сакратар комсамольскай арганізацыі. Ветлівы, увішны хлопец адразу запрасіў Андрэя да сябе, дапамог атрэсціся ад пылу, памыцца, пасадзіў за стол. Частуючы госця, лісліва зазіраў у вочы, спагадліва пытаўся:

— Можа адпачнеце з дарогі, таварыш начальнік?

— Я не змарыўся, — адказаў Андрэй і насцярожана паглядзеў на комсорга. — Трэба падрыхтаваць комсамольскі сход, таварыш Клакоцкі.

А той, падставіўшы бліжэй госцю смажаніну, зноў асцярожна пацікавіўся:

— Па якому-ж пытанню будзе той сход?

— Трэба з палітвучобай разабрацца.

— А што там разбірацца! — ухмыльнуўся комсорг. — З-за такой дробязі збіраць сход? Мы тут гэта за поўгадзіны правернем. Спіс складзем — і парадак. У мяне тут дысцыпліна! — І Эдуард Клакоцкі ўзняў уверх вялікі палец.

— Усё-ж пойдзем, збярэм сход, — суха сказаў Андрэй і ўстаў. Хацелася яшчэ сказаць Эдуарду: «Ну, і падхалім з цябе, брат, вырасце», але чамусьці стрымаўся.

Між тым сход сабралі хутка, бо комсамольцаў было нямнога. Настрой у Андрэя было ўзняўся, але нейкая прыкрасць запала ў душу, падумалася, што, відаць, не лёгкай будзе яго гэтая новая пасада. Не, мабыць, не зусім быў праў сакратар райкома Маханёк, сказаўшы, што для Андрэя будзе ўсё зразумела і лёгка.

Комсамольцы не пярэчылі, калі зачыталі, што ім належыць наведваць палітшколу, але і не праявілі асаблівай актыўнасці. Усе сядзелі моўчкі. Андрэй прапаноўваў то аднаму, то другому выступіць, але ўсе адмаўляліся: «Няхай выступіць Эдзік, мы з ім згодныя».

...Вяртаўся з той камандзіроўкі інструктар незадаволены, сумны. Штосьці не давала спакою. З аднаго боку, заданне, здаецца, было выканана: праведзены сход, уладкавана ўсё з палітвучобай, праверены ўлік комсамольцаў; з другога боку—грызла сумленне. Андрэй адчуваў, што пасля яго візіту ў комсамольскай арганізацыі калгаса «Совет міру» мала што змяніцца да лепшага. Гэты Эдзік умее прыгожа гаварыць, а за справу не бярэцца. Яму абы адчытацца гладка, начальству дагадзіць.

Трэба будзе параіцца ў райкоме. Толькі прыехаў Андрэй, прывітаўся з сакратаром, як той замахаў рукамі:

— Некалі, браток. Цяпер няма часу. Едзь у калгас «Чырвоны Кастрычнік», пачынай справаздачна-выбарчую кампанію. Сакратара там змяніць трэба. Разбярыся сам на месцы.

Лёгка сказаць: замяні, разбярыся. А кім замяніць? Паспрабуй разабрацца, калі нікога там не ведаеш. Хацелася запытаць, за што спачатку брацца, якія пытанні паставіць на сходзе, але сакратар заспяшаўся.

— Братка, няма часу. Нас абком са свету зжыве, калі не ўкладземся ў графік. Пагаворым як-небудзь іншым разам. Я сам еду...

І паездка ў калгас «Чырвоны Кастрычнік» не прынесла асаблівай радасці Андрэю. Наадварот, апанавала нейкае расчараванне. Комсамольская арганізацыя і тут была маналікая, не аказвала належнага ўплыву на гаспадарчыя справы калгаса.

— Колькі ні раблю, нічога не выходзіць, — скардзіўся сакратар калгаснай комсамольскай арганізацыі.

Андрэй-жа адчуваў, што той проста хлусіць. Як гэта ён там рабіў, калі за некалькі месяцаў не правёў ні аднаго сходу, нават узносы не збіраў у комсамольцаў.

Каб склікаць комсамольцаў на сход, патрацілі дзён са тры. Зайшлі да адной комсамолкі, пачалі размаўляць з ёю, а тая — ні блізка. Папрасілі яе комсамольскі білет, дзяўчына доўга порпалася ў шуфлядзе, пакуль адшукала яго. За поўгода не заплачаны членскія ўзносы! Запыталі, чаму так здарылася, а яна спакойна адказала:

— Маці на сходы не дазваляе хадзіць...

Аказваецца, многія дзяўчаты не ўступаюць у комсамол па гэтай-жа прычыне. У вёсцы няма ніякіх забаў. Сумуе моладзь вечарамі ў пошуках адпачынку. Пахадзіўшы па вуліцы, хлопцы забяруцца да каго-небудзь у хату ды «рэжуцца» ў карты, а дзяўчаты выказваюць свой сум у песнях. Тым часам у райкоме здзіўляюцца, чаму гэта ў тых Агрызках ці Новасадах дзяўчаты ў касцёл заглядаюць!

Новы інструктар адчуваў сябе ў становішчы чалавека, якога абяцалі навучыць плаваць, а потым кінулі ў ваду і сказалі: «Ну, плыві!» Што было рабіць? Андрэй разгубіўся, але не надоўга. Не з такіх ён, каб спалохацца бурлівых хваляў! Просты і шчыры, ён хутка здружыўся з моладдзю. Па-сяброўску пагутарыў з комсамольцамі і павесялеў: ім толькі добрага важака выбраць, даць разгарненне!

Сакратаром выбралі таго, каго пажадалі самі комсамольцы, — Леаніда Шурына. Хлопец толькі што закончыў дзесяцігодку і застаўся працаваць у родным калгасе, умеў сябраваць і карыстаўся ў моладзі павагай. Нававыбранаму камітэту далі наказ: стварыць харавы гурток, пасляць на жывёлагадоўчыя фермы лепшых комсамольцаў, часцей праводзіць вечары моладзі.

На гэты раз комсамольскі сход закончыўся пасля трэціх пеўняў. Комсамольцы назіралі, як-жа будзе паводзіць сябе інструктар на вечарынцы. А той адразу падхапіў адну з мясцовых прыгажунь і пайшоў гуляць «польку», ды так, што аж зайздрасць узяла некаторых хлопцаў. Дзяўчаты войкалі:

— Ірына не збаялася нават, што ўгневае пана-езуса: яна-ж у касцёл заглядае.

Танцуючы, Андрэй разгаварыўся з дзяўчынай. Ірына, як і Андрэй, толькі што скончыла дзесяцігодку. Бацька яе працуе звеннявым і

з'яўляецца ўдзельнікам выстаўкі ў Маскве. Яна цвёрда вырашыла нікуды не ехаць са сваёй вёскі, працадзён зарабіла аж дзвесце.

— Чаму-ж ты, Іра, у комсамол не ўступаеш? — запытаў Андрэй.

Дзяўчына прамаўчала, сарамліва апусціўшы прыгожыя вочы.

Андрэй хацеў сказаць дзяўчыне, каб неадкладна падавала ў камітэт заяву, але тая зваблів адкінула з ілба кудзеркі, лёгка прытупнула абцасікамі і панесла хлопца ў завіруху танца.

Аднойчы Андрэй, пераязджаючы з адной вёскі ў другую, сустрэўся з сакратаром райкома партыі па зоне МТС Петуховым.

— Як справы, комсамольскі інструктар? — запыніўшыся з хлопцам, загаварыў сакратар. — Сядай, пакурым...

Петухоў прысеў на прызбу, побач з ім прымасціўся і Андрэй. Задыміўшы цыгаркамі, загаварылі.

— Дык што, намотваеш кілометры? — паказаўшы на андрэеў веласіпед, сказаў Петухоў. — І як адчуваеш сябе на новай пасадзе?

Андрэй пацiснуў плячыма.

— Няма чым хваліцца, таварыш сакратар. Вось толькі што прыехаў з «Іскры». Марыя Маршалак, сакратар іхні, толькі што лічыцца сакратаром, а работы ніякай. Арганізацыя не расце, комсамольскай ініцыятывы не чуваць... Потым быў у калгасах «Чырвоны Кастрычнік», імя Калініна, імя Варашылава...

— О, дык табе, чалавеча, хутка і калгасаў не хопіць, — працягнуў Петухоў і спахмурнеў, задумаўся: — Ну, і што-ж ты там зрабіў?

Андрэй расказаў, што правёў у двух арганізацыях сходы, дапамог новым сакратарам аформіць пратаколы...

— Так-так, — гаварыў Аўдакім Лявонавіч. — Інструктар па зоне — гэта пасада новая, адказная. З яго дапамогай райком павінен цяпер больш, чым калі-небудзь раней, трымаць сувязь з арганізацыямі, уплываць на кожную з іх.

— І я так думаю, — узрушана ўставіў Андрэй і адчуў, як агнём загарэліся яго шчокі.

— Не гарачыся, браце,—сакратар паклаў на андрэева плячо руку. — Не старайся брацца адразу за ўсё. Па-першае, адмоўся ад кароткіх, бязмэтных паездак па калгасах; па-другое, уважліва і старанна рыхтуйся да кожнай паездкі. І яшчэ. Вазьмі сабе за правіла: не выязджаць з арганізацыі, пакуль не ўпэўнішся, што справы там пайшлі на лад.

Аўдакім Лявонавіч змоўк, задумаўся аб нечым сваім. Маўчаў і Андрэй. У яго душы расло нешта новае, хвалюючае, чаму ён не мог даць назвы. Так яны і сядзелі нейкі час моўчкі, галава к галаве, нібы бацька з сынам пры шчаслівай сустрэчы. Нарэшце, Андрэй устрапянуўся, хвалюючыся, прагаварыў:

— Дзякую вам, таварыш...

— Аўдакімам Лявонавічам мяне клічуць, — ціха адказаў Петухоў і прыпаліў новую папяросу. — А вось, што ты дагэтуль да мяне не зайшоў, — дрэнна. Думаю, мы цяпер часцей сустракацца будзем. Якія ў цябе планы на наступны тыдзень?

Абрадаваны, Андрэй выклаў усё, што думаў зрабіць. Ён гаварыў і аб спартыўнай рабоце, і аб адпачынку моладзі, аб прыёме ў комсамол такіх маладых калгасніц, як Ірына Макавецкая і многія іншыя.

— Усё гэта варта ўвагі, — сказаў Петухоў. — Але аднаму з усім не справіцца. Часцей звяртайся за дапамогай да комсамольскага актыву, да інструктараў райкома партыі. І, галоўнае, дамагайся, каб комсамольцы не здавалі сваёй авангарднай ролі. Добра было-б, каб інструктар дапамог узняць комсамольцаў на торф. Урадждай заваёўваецца з восені.

Уважліва слухаючы сакратара райкома, Андрэй узрушана паўтараў:

— Будзе зроблена, Аўдакім Лявонавіч. Абавязкова!

У зоне, дзе жыве і працуе Андрэй Камчыц, семнаццаць калгасаў, у кожным ёсць комсамольская арганізацыя. Паспець адразу ўсюды не здолееш, а ведаць, чым жывуць сёння комсамольцы, на што яны скардзяцца, — трэба. Райком комсамола, між іншым, так і не сабраўся пазнаёміць свайго інструктара з пярвічнымі арганізацыямі. Добра, што той папрасіўся да Аўдакіма Лявонавіча ў «газік» і праехаўся па ўсіх калгасах.

З цягам часу інструктар пазнаёміўся з аграномамі, настаўнікамі, пачаў, як кажуць, абрастаць актывам. Уважліва вывучаючы на месцы жыццё, інструктар многае пачынаў разумець па-новаму, рабіць для сябе карысныя вывады. Скажам, прыедзеш у адну арганізацыю і пачынаеш знаёміцца са справамі. На першы погляд усё як-б нядрэнна: сходы праводзяцца, старанна афармляюцца пратаколы, намячаюцца слушныя мерапрыемствы, а зруху ў рабоце не відаць. У чым справа? Пачынаеш прыглядацца больш уважліва, уваходзіць у дробязі і высвятляецца: сакратар тут умее добра пусціць пыл у вочы, а за справу ў яго галава не баліць.

Бывае-ж і так, што сакратар комсамольскай арганізацыі, калі гутарыш з ім, здаецца, усё добра разумее, многае наабяцае, нават возьмецца за што-небудзь горача і заўзята, а паедзеш з калгаса — усё заглохне. Ёсць такі чалавек у зоне — сакратар камітэта комсамола Рэпляўскай МТС Усевалад Данільчык. Колькі ўжо разоў ён абяцаў заняцца спаборніцтвам маладых механізатараў, а сам за ўсё лета ніяк не сабраўся зрабіць пераходныя сцяжкі. Ды што сцяжкі! Усевалад цэлымі месяцамі насіў у кішэні заявы трактарыстаў аб уступленні ў комсамол.

Усё гэта не дробязі, а комсамольскія будні. Блізкае, асабістае знаёмства з актывам, з комсамольцамі на месцы — гэта і ёсць ключ да душы чалавека. З тым-жа Эдзікам Клакоцкім давялося правесці не адну гутарку, а калі і гэтага аказалася мала, то даць яму добрую праборку перад комсамольцамі. Глядзіш, і чалавек стаў на месца, пажвавеў. Упэўніўшыся, што той-жа Усевалад Данільчык — гультай і балбатун, Камчыц дамогся, каб Данільчыка заслухалі на бюро райкома.

Андрэй пачаў займацца больш практычнай, чарнавой работай. Прыехаўшы ў калгас, імкнуўся менш даваць агульных указанняў, а самому заўсёды што-небудзь зрабіць, арганізаваць. Там са звяном гутарку правядзе, газету пачытае, а тут «баявы лісток» выпусціць, дапаможа комсамольскаму актывісту напісаць заметку ў насценную газету. Інструктар дамогся, што ў брыгадах і на жывёлагадоўчых фермах пачалі працаваць комсамольскія групы; ён займаецца таксама падборам і выхаваннем групоргаў.

Там, дзе папрацаваў інструктар бачны змены. На жывёлагадоўчай ферме калгаса імя Суворава пачаў дзейнічаць пост комсамольскага кантролю, моладзь саўгаса «Ваўкавыскі» ўзялася дапамагчы суседнім калгасам радыёфікаваць вёскі, механізатары сталі на стаханаўскую вахту ў гонар XX з'езду КПСС.

Комсамольцы, як да блізкага сябра, звяртаюцца да Андрэя за дапамогай, за парадай. Загадчык хаты-чытальні ў вёсцы Плябанаўцы Марыя Поўх скардзіцца: Пуцімцаў, загадчык раённага аддзела культуры, адхіляе яе ад работы толькі таму, што яна не мае сярэдняй адукацыі. Марыя Поўх з'яўляецца сакратаром комсамольскай арганізацыі калгаса імя Варашылава, членам райкома і нядрэнна спраўляецца са сваімі абавязкамі.

Інструктар занатоўвае сабе ў блакнот, абяцае параіцца з сакратарамі райкома, пагаварыць з Пуцімцавым.

— Што з ім гаварыць, — махнула рукою дзяўчына. — У Пуцімцава адна мерка: хто лепш падмажа, таго і паважае...

— Не гарачыся, таварыш Поўх. Галоўнае, каб справы ў цябе ўгору ішлі. А наконт іншага не турбуйся: райком сваіх комсамольцаў у бяздзе не пакіне.

І праўда, гэты Пуцімцаў зусім разваліў работу культурна-асветных устаноў. Дзе ні паглядзі, хата-чытальня на замку. Кіноперасоўкі працуюць, як мокрае гарыць. Колькі ўжо Андрэй ваяваў з кіномеханікамі: і дакладваў у аддзел культуры, і пісаў у раённую газету, а Пуцімцаў і ў вус не дзьме.

Адразу-ж, як толькі інструктар прыедзе ў раён, ён даб'ецца, каб пытанне аб рабоце культурна-асветных устаноў было абмеркавана на бюро райкома.

... Яшчэ шмат ухабаў на няходжаных інструктарскіх сцежках. Яшчэ і цяпер даводзіцца дакучаць званкамі райкому, бо не хапае часам рашучасці, баішся памыліцца, перагнуць. Але характэрна іншае — малады інструктар усё глыбей імкнецца ўвайсці ў дэталі комсамольскага жыцця, стараецца самастойна прыняць правільнае рашэнне на месцы, праявіць сваю ініцыятыву.

Відаць, Андрэй Камчыц палюбіў сваю новую, неспакойную працу.

**Гродзенская вобласць.**



## НА КУКУРУЗНЫХ ГОНЯХ

**Як і ўсё новае, кукуруза дзе-ні-дзе сустракалася недаверліва. Але, нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, да сярэдзіны лета яна ўвабралася ў сілу, зашумела маладым лесам на калгасных палетках. І там, дзе за ёй быў установлены добры догляд, кукуруза вырасла на славу, на зіму калгасны статак атрымае высокакаларыйны корм.**

**Дагэтуль калгасы вырошчвалі кукурузу на невялікіх плошчах. Гэта не патрабавала складанай арганізацыі працы ў брыгадах. Цяпер, калі кукуруза займае сотні гектараў, настаў час па-новаму арганізаваць працу на ўборцы кукурузы. Каб распаўсюдзіць перадавыя метады ўборкі і сіласавання кукурузы ў калгасах рэспублікі, ЦК КП Беларусі ў верасні правёў у калгасе «Рассвет» Кіраўскага раёна рэспубліканскі семінар, прысвечаны вывучэнню вопыту ўборкі і сіласавання кукурузы. Партыйныя, савецкія работнікі спецыялісты сельскай гаспадаркі на кукурузных гонях уважліва вывучалі работу рознастайных агрэгатаў, метады сіласавання, арганізацыю працы.**

**У калгасе «Рассвет» сёлета было засеяна 500 гектараў кукурузы. Калгаснікі ў сярэднім сабралі па 300—350 цэнтнераў зялёнай масы і па 30—40 цэнтнераў кукурузных пачаткаў. Гэта дало магчымасць падрыхтаваць на кожную карову па 10 тон сіласу. Падлічана, што такая колькасць сіласу дасць калгасу магчымасць атрымаць 3 200 000 кілограмаў малака.**

На здымку: **уборка кукурузы ў калгасе «Рассвет». Агрэгат вядзе трактарыст Ф. Скудны і камбайнер А. Масюкевіч.**

Фото В. Лупейкі.
(Фотахроніка БЕЛТА.)

# ЯК НАВУКА ТЛУМАЧЫЦЬ НЯБЕСНЫЯ З'ЯВЫ

**В. ШЫШАКОЎ,**
**кандыдат педагагічных навук**

У адной старажытнай рэлігійнай кнізе гаворыцца:

«Калі зорка падае, — гэта анёл па душу памёршага паляцеў. Калі паспееш, пакуль зорка не згасне, пажадаць што-небудзь сабе, то ўсё споўніцца, таму што анёлы на гэтым пералёце нікому ні ў чым не адмаўляюць...»

З даўніх часоў існавала павер'е, што ў кожнага чалавека ёсць свая зорка: нараджаецца чалавек — запальваецца ў небе яго зорка, памірае — зорка яго падае, гасне. Гэта павер'е было надзвычай пашырана.

Хрысціянскія рэлігійныя паданні сцвярджаюць, што пры нараджэнні Ісуса Хрыста, які, вядома, сапраўды ніколі не існаваў, запалала «зорка на ўсходзе». Зорка гэтая была быццам-бы вельмі яркая і, гледзячы на яе, нейкія «вешчуны» сцвердзілі, што нарадзіўся цар!

Мусульманскія рэлігійныя паданні ў сваю чаргу сцвярджаюць, што нараджэнне прарока Мухамеда таксама было адзначана вельмі яркай зоркай. Верылі людзі ў свой час і таму, што яркія зоркі з'яўляліся пры нараджэнні Пятра I, Напалеона Банапарта і другіх гістарычных асоб.

Шмат было таксама фантазій наконт «дажджоў падаючых зорак», якія часам назіраюцца. Тлумачылі гэта як сімвал «канца свету» або вялікіх соцыяльных няшчасцяў.

Навука даказала, што ніякія зоркі ніколі і нікуды не падалі і падаць не могуць. Зоркі — гэта велізарныя нябесныя свяцілы, падобныя да нашага Сонца. Маленькімі-ж іскрынкамі святла яны здаюцца таму, што знаходзяцца ад нас на такіх вялікіх адлегласцях, якія нават цяжка ўявіць. З'ява «падаючых зорак» ніякіх адносін да сапраўдных зорак не мае. Тлумачыцца яна наступным чынам.

Велізарная колькасць метэорных часцінак (памерам не больш пясчынкі і вагой у долі грама) рухаецца вакол Сонца ў розных напрамках. Урэзваючыся ў зямную атмасферу са скорасцямі ў дзесяткі кіламетраў у секунду, яны хутка награваюцца ад супраціўлення паветра і пакідаюць след свайго руху ў паветры ў выглядзе стрэлападобнага светлага промня. Пры сустрэчы Зямлі з вялікай колькасцю метэорных часцінак адбываецца тое, што прынята называць «зоркавым дажджом». Часцінкі гэтыя не дасягаюць паверхні зямлі, аператвараюцца ў распалены газ.

Калі ў зямную атмасферу пры велізарнай скорасці пранікае больш буйная метэорная часцінка (ў некаторых выпадках памерам з кулак і больш, а вагой ужо ў дзесяткі і сотні грамаў), тады мы будзем назіраць, як ляціць па небе вогненны шар. «Вогненны змій-Гарыныч праляцеў», — гаварылася ў народных казках. «Д'ябал імкнуўся забрацца на неба, але яго адтуль скінулі анёлы», — вучылі рэлігійныя паданні.

У навуцы гэтая з'ява носіць назву баліда. Старажытнарускі летапісец пісаў аб тым, што ўлетку 1091 года «з неба ўпаў змій правялікі; усе людзі жахнуліся. У гэты-ж час зямля грукнула і гэта многія чулі».

Бясспрэчна, што гэта быў апісаны выпадак падзення метэарыта.

Метэарытамі ў навуцы называюць камяні, якія ўпалі з неба. Вывучэнне будовы і хімічнага саставу метэарытаў выразна сцвярджае правільнасць асноўнага палажэння дыялектычнага матэрыялізма аб тым, што ўвесь свет адзіны, што адзінства свету — у яго матэрыяльнасці, што няма той розніцы паміж зямным і нябесным, якую прапагандуюць рэлігійныя вучэнні.

Прыведзеныя прыклады паказваюць, што навука, па меры ўзбагачэння фактычнымі данымі аб нябесных з'явах, крок за крокам абвяргала антынавуковыя рэлігійныя фантазіі.

Яшчэ ў глыбокай старажытнасці людзі, якія ў час падарожжаў для знаходжання правільнага напрамку або для вызначэння часу сутак арыентаваліся па Сонцу і зорках, прыкмецілі на небе пяць асобных свяцілаў. Гэтыя свяцілы мелі выгляд яркіх зорак. Тры з іх часам вызначаліся сваім вялікім бляскам. Асабліва было дзіўна, што свяцілы гэтыя мяняюць свае месцы адносна астатніх зорак, у той час як усе астатнія зоркі захоўваюць сваё месца адна адносна другой. Гэтыя пяць зорак вандруюць па небе, больш ці менш прыкметна перамяшчаючыся на працягу многіх дзён з захаду на ўсход, а часам і з усходу на захад.

Старажытныя грэкі гэтыя свяцілы назвалі «планетамі», гэта значыць «блукаючымі». У адпаведнасці з рэлігійнымі вучэннямі аб тым, што неба населена звышнатуральнымі істотамі, ад якіх усё ва ўсім свеце залежыць, склаліся ўяўленні і аб тым, што загадкавыя блуканні планет якімсьці чынам выражаюць «боскую волю». Планеты атрымалі імёны багоў. Пад гэтымі назвамі старажытнарымскіх багоў яны вядомы і зараз: Меркуры, Венера, Марс, Юпітэр і Сатурн.

Планетам пачалі прыпісваць уплыў на зямныя справы. Лічылі, напрыклад, што Венера і Юпітэр робяць станоўчы ўплыў, а Марс — нараджае нядобрыя справы.

У адной з даўніх кніг гаварылася аб Марсе: «Тыя, хто нараджаюцца пад знакам Марса, бываюць злосныя, звадлівыя, дзёрзкія, грубыя. Яны звычайна шмат ядуць, дужыя, моцныя, з рыжымі валасамі».

Як бачым, і характар, і паводзіны, і знешнасць людзей прыпісваліся ўплыву планет. Па месцу знаходжання планет на небе ў той ці іншы момант махляры і спрытныя людзі, якія называлі сябе астролагамі, браліся прадказваць будучае. Калі іх прадказанні не спраўджваліся, яны не вельмі адказвалі за гэта, і іх няўдачы хутка забываліся. Тыя-ж прадказанні, якія выпадкова супадалі з сапраўднасцю (выпадковыя супадзенні заўсёды могуць быць), яшчэ больш узмацнялі веру ў чараўнічую сілу астролагаў.

І зараз у капіталістычных і каланіяльных краінах розныя прайдзісветы выкарыстоўваюць даверлівасць несвядомых людзей і нажываюцца на людскім невуцтве. Нават у нас, у нашай краіне, часам сустракаюцца людзі, якія вераць бязглуздым гаданням варажбітак, знахарак і іншых жулікаў і махляроў.

Навука даўно ўжо ведае, што планеты — гэта такія-ж нябесныя целы, як і наша Зямля. Яны таксама маюць шарападобную форму, рухаюцца вакол Сонца, і верцяцца вакол сваіх восей. На некаторых з іх нават магчыма жыццё, таму што жыццё — гэта правамерная з'ява матэрыяльнага свету, яно ўзнікае і развіваецца ў тых выпадках, калі для гэтага складваюцца неабходныя ўмовы.

Жах і паніку выклікалі ў забабонных людзей зацьменні Сонца і Месяца. Зацьменне Сонца гаварыла ім аб магчымасці «канца свету». Расказвалася, напрыклад, што, калі паміраў Хрыстос, «сонца памеркла і была цемрадзь па ўсёй Зямлі». Веруючым хрысціянам, мусульманам і іудзеям унушаецца, што пры «канцы свету» «Сонца памеркне і Месяц не дасць святла свайго».

Усе рэлігіі грунтаваліся на невуцтве і фантазіі людзей далёкага мінулага, якія нічога не ведалі аб сапраўднай прыродзе нябесных свяцілаў і з'яў.

Навука абвергла і гэтыя памылковыя думкі. Зацьменні — зусім натуральныя з'явы, якія дакладна тлумачацца на аснове навуковых дадзеных. Зацьменні Месяца могуць быць і бываюць толькі ў поўналунні, г. зн. калі Месяц знаходзіцца ў баку, процілеглым Сонцу. Толькі ў гэтым выпадку Зямля можа стаць паміж Сонцам і Месяцам, і Месяц памеркне.

Зацьменні-ж Сонца могуць быць толькі ў навалунні, г. зн. тады, калі Месяц знаходзіцца ў тым баку, што і Сонца. У гэтым становішчы ён можа засланіць сабою Сонца цалкам або часткова ад некаторых месц зямной паверхні.

Дакладнае веданне адлегласці да Месяца і Сонца, памераў гэтых свяцілаў і Зямлі, напрамкаў, скорасцей і заканамернасцей іх руху, дае магчымасць астраномам вылічыць, калі якое зацьменне адбудзецца, дзе і як яно можа назірацца. Бездакорная дакладнасць усіх такіх вылічэнняў, і прытым адносна кожнага зацьмення, гаворыць аб непераможнай магутнасці навукі, а тым самым і аб нікчэмнасці рэлігійных вучэнняў.

Напрыклад, за шмат год наперад было вызначана, што 30 чэрвеня 1954 года павінна адбыцца зацьменне Сонца. Яно павінна было быць поўным для многіх пунктаў БССР. Так і было. У Навагрудку, Лідзе, Баранавічах, Слуцку, Мазыры поўная фаза зацьмення працягвалася больш двух мінут. У Мінску яно было амаль поўным. Усе абставіны гэтага зацьмення былі дакладна вызначаны раней і апублікаваны для агульнага ведама.

Ці магло быць інакш? Ці маглі якія-б там ні было звышнатуральныя сілы хоць на імгненне змяніць вылічаныя моманты зацьмення? Ні ў якім разе. І зараз гэта разумеюць нават рэлігійныя людзі.

Зацьменне 1954 года дало шмат каштоўных матэрыялаў. Зараз матэрыялы, атрыманыя ад шматлікіх навуковых экспедыцый, старанна апрацоўваюцца. Яны папоўняць новымі навуковымі дадзенымі нашы веды.

У другой палове гэтага года адбудуцца два зацьменні: Месяца — 29 лістапада і сонечнае — 14 снежня. Зацьменне Месяца будзе амаль непрыкметным, таму што найбольшая яго фаза — 0,124, гэта значыць, што Месяц апусціцца ў зямны цень крыху болей, чым на адну дзесятую дыяметра свайго дыска. Зацьменне гэтае будзе ў межах ад 19 гадзін 21 мінуты да 20 гадзін 37 мінут па маскоўскаму часу.

Зацьменне Сонца 14 снежня будзе відно амаль па ўсім СССР, у тым ліку і ў Беларусі.

У Мінску, напрыклад, Сонца будзе загароджана ў ніжняй частцы прыблізна на 0,2 дыяметра сонечнага дыска, але яно ўсё-ж узыйдзе пасля невялікай фазы зацьмення. У 9 гадзін 50 мінут зацьменне ўжо скончыцца.

Марксісцка-ленінская матэрыялістычная навука даказала, што ў свеце няма і не можа быць нічога звышнатуральнага, нічога такога, што немагчыма было-б вытлумачыць прыроднымі заканамернымі прычынамі. Гэтыя прычыны заўсёды магчыма высветліць, таму што ў свеце няма нічога непазнавальнага, а ёсць і можа быць толькі пакуль што яшчэ непазнанае, што, бясспрэчна, будзе пазнана ў далейшым па меры развіцця навукі.



Кандыдат біялагічных навук, старэйшы выкладчык БДУ М. М. Драка са студэнтамі Марыяй Пекач, якая прыехала з Польшчы вучыцца ў Беларускі дзяржаўны універсітэт, і Любай Дашкоўскай за вывучэннем беспазваночных жывёл возера Нарач.

Фото М. Ананьіна.

# НАТАЛЛЯ ФАМІНА

Фаміной цяпер дваццаць пяць год, але яе «музычная біяграфія» ўжо даволі вялікая. Нарадзілася яна ў сям'і валтарніста-самавучкі, артыста аркестра Беларускага тэатра оперы і балету. Прыродны талент, бездакорны слых і музычнасць дзяўчынкі былі заўважаны бацькамі вельмі рана. З шасці год яна ўжо стала вучаніцай Мінскай музычнай школы-сямігодкі. У школе яна была залічана ў групу найбольш таленавітых дзяцей, якой кіраваў кампазітар А. Клумаў.

Першым уважлівым крытыкам дзяўчынкі была прафесар Маскоўскага музычна-педагагічнага інстытута імя Гнесіных — Е. Ф. Гнесіна, якая ўвесну 1938 года знаёмілася з навучэнцамі Мінскай школы. Сямігадовая піяністка і кампазітар (у той час дзяўчынка стварала невялікія п'ескі для раяля, якія сама і выконвала) атрымала выдатную ацэнку вядомага музычнага дзеяча.

У 1938 годзе Фаміна — удзельнік паказальнага канцэрта таленавітых дзяцей у Маскоўскай кансерваторыі. Шчыра, з вялікім пачуццём выканала яна «Фантазію» Моцарта.

Пасля акрыляючага выступлення ў Маскве шмат радасных падзей адбылося ў жыцці юнай піяністкі. Яна ўдзельнічала ў 1940 годзе ў дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве, у сталічнай кансерваторыі выканала варыяцыі «Восень» А. Клумава (на беларускія тэмы), а ў заключным канцэрце дэкады разам з хорам і аркестрам — «Ронда» М. Аладава.

Пачаліся суровыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Сям'я Фаміных выехала на Урал. У Ніжнім Тагіле, у дзіцячай музычнай школе пры Свярдлоўскай кансерваторыі прадаўжала сваю адукацыю Наталля Фаміна. Яшчэ не скончылася жорсткая барацьба з фашысцкай навалай, а Фаміна ўжо была прынята ў Цэнтральную музычную школу-дзесяцігодку пры Маскоўскай кансерваторыі. Пад кіраўніцтвам выдатных педагогаў-выканаўцаў фартэпіяннай музыкі ўдасканальваецца яе мастацкі густ, пашыраецца культура.

Назаўсёды застанецца ў памяці піяністкі канцэрт, прысвечаны васьмідзесяцігоддзю Маскоўскай кансерваторыі. Выхаванка класа педагога А. С. Сумбацян, Фаміна з уздымам іграла на канцэрце эцюды-карціны Рахманінава.

У кожнага савецкага юнака і дзяўчыны ёсць свая запаветная мара, здзяйсненню якой яны аддаюць увесь запал свайго сэрца. Запаветнай марай Наталлі Фаміной было стаць студэнткай кансерваторыі, якая носіць імя геніяльнага рускага кампазітара П. І. Чайкоўскага, набыць веды ў гэтай акадэміі музычнай культуры.

Дзень прыёму ў кансерваторыю быў самым шчаслівым ў жыцці дзяўчыны. На працягу пяці год Фаміна выхоўвалася пад наглядам выдатнага піяніста прафесара Г. Нейгауза. Яго бацькоўская чуласць і строгая патрабавальнасць спрыялі фармаванню цікавай творчай індывідуальнасці і своеасаблівага выканаўчага стылю маладога музыканта.

Сталінская стыпендыятка Наталля Фаміна атрымала ў чэрвені 1953 года дыплом аб сканчэнні вышэйшай навучальнай установы з адзнакай, з годнасцю піяніста-саліста, педагога і канцэртмайстра.

З гэтага часу пачалося самастойнае творчае жыццё Фаміной — артысткі Казанскай філармоніі, а з 1954—1955 навучальнага года — педагога класа фартэпіяна Мінскай музычнай школы імя Л. П. Александроўскай, той самай школы, дзе ўпершыню калісьці села за раяль маленькая Наташа.

З выключным поспехам правяла піяністка сёлета свой першы адкрыты канцэрт у Мінску па творах Бетховена. Усе, хто прысутнічаў на творчай справаздачы Фаміной, адзначылі багацце яе эмацыянальнай палітры, значную тэхніку, гукавое майстэрства, зграбнасць фразіроўкі, імкненне, як можна паўней выкарыстаць магчымасці інструмента. Бетховен акрыляе юную піяністку, натхняе яе талент. І таму не дзіўна, што з выканання яго санат і канцэртаў пачала Фаміна свае выступленні на эстрадзе.

Цудоўныя мары і шырокія творчыя планы ў піяністкі. Яна нястомна ўзбагачае свой мастацкі кругагляд, густ, веды, культуру. Ёсць у яе і канкрэтнае жаданне на бліжэйшы час: калісьці школьніцай Фаміна з натхненнем іграла «Ронда» Аладава і варыяцыі на беларускія тэмы Клумава, цяпер — артыстка спадзяецца разам з сімфанічным аркестрам сыграць фартэпіянныя канцэрты кампазітараў Я. Цікоцкага і Д. Камінскага.

М. МІХАЙЛАЎ.

*Галасы маладых*



## Вершы М. Смагаровіча

Малады беларускі паэт Марк Смагаровіч нарадзіўся ў 1927 годзе на Бабруйшчыне ў сям'і селяніна. У час Вялікай Айчыннай вайны бацькі яго загінулі ў фашысцкім канцлагеры.

У 1942 годзе М. Смагаровіч пайшоў у партызанскі атрад імя Чапаева. Выконваючы баявое заданне, ён быў цяжка паранены, пасля чаго застаўся інвалідам першай групы.

Вершы пачаў пісаць у пасляваенны час. З 1950 года творы паэта з'яўляюцца на старонках рэспубліканскага друку.

У гэтым годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выходзіць першы зборнік вершаў М. Смагаровіча.

Ніжэй мы друкуем новыя творы паэта.

### Залатая восень

Ужо да каліва сабраны
З палёў калгасных ураджай.
І стыне на стале засланым,
Як сонца ў небе, каравай.
Папрацавалі мы нямала.
Зямля нам аддала дары.
І вось цяпер за вёскай дбала
Аруць іржышча трактары.
Лісток з бярозы адлятае
І, як медаль, лёг на раллю,
Нібыта восень залатая
Узнагародзіла зямлю.

### Прарастайце зярняты

Прарастайце, зярняты, пагожай вясною,
Піце вільгаць удосталь з зямлі,
Каб сцяблінкі ўзняліся высокай сцяною
І звінець так, як струны, маглі.
А як ліпеньскі вечар, рассыпаўшы зоры,
Ледзь задрэмле пад полагам дрэў,
Выйду я, ўсхваляваны, тады на прасторы
Свайго краю паслухаць напеў.

### Праклянуце вайне

У час баёў і наступлення
Салдат гвардзейскага палка
Сярод пажарышч і каменняў
Знайшоў малога хлапчука.
Відаць быў перажытай мукі
На тварыку дзіцячым след.
Салдат малога ўзяў на рукі
І шле вайне праклянцце ў свет.
Прыўзняўся ён на п'едэстале,
Каб людзі бачыць век маглі,
Як мы ў баях насмерць стаялі
За мір і шчасце на зямлі.

### У вагоне

Наўпрост, набраўшы поўны ход,
Цягнік на Мінск імчыцца.
Хто едзе ў горад на завод,
Хто — паступаць вучыцца.
Сябры падалі мне баян.
Яго я, узяўшы ў рукі,
Расцёг, нібы пад барабан,
Пад колаў перастукі.
І ўжо, сабраўшыся ў купэ,
Мы песню заспявалі.
На ўвесь вагон гучаў напеў
Магутным звонам сталі.
У пералівах галасоў
Чуцён быў гул матораў
І шум даспелых каласоў
На сонечных прасторах.
І мне здалося: не цягнік
Вязе нас напрадвесні,
А што ляцім мы ў родны Мінск
На крыллях звонкай песні.

### Ручаёк

Паміж карчамі прабіваўся смела,
Наперад рваўся звонкі ручаёк.
Яму чаротам багна прашумела:
— Куды імкнешся? Лепш-бы тут замоўк.
Але ў адказ няслося булькатанне,
Нібыта смех каціўся па трысці:
— Не згодзен я, — прагаварыў ён багне, —
Стаяць як ты на месцы і гнісці.
Праб'ю дарогу да рачных глыбіняў
І паплыву, не знаючы мяжы,
Магутнай плынню пракручу турбіны,
Святлу аддам увесь запал душы!

### Апраўданне

Не ўзнімайце, дзяўчаты, шуміху,
Што лісты да каханай пішу.
Проста, я паважаю ткачыху
За адзенне, якое нашу.
Тчэ тканіну яна, малайчына,
Я ару пад пасевы зямлю.
Адзяе мяне гэта дзяўчына,
Ну, а я яе — хлебам кармлю.

### Букеты

Нанач сонца заворваў араты.
Па чаромху хадзілі дзяўчаты.
На сяле бачны маю прыкметы:
Дзе ні глянеш — букеты, букеты.
А цяпер зашумелі палеткі,
Адцвілі ўжо духмяныя кветкі.
Наш араты, прыходзячы з працы,
Як зайграе на новай трохрадцы,
Дык выходзяць на кліч галасісты
З хат дзяўчаты ў суконках квяцістых,
У каторых яны вечарамі
На букеты падобныя самі.
І здаецца: вясны ўзор багаты
Між сабой падзялілі дзяўчаты.



# Усмешка сябра



**Мартын ЛЮДВІНАЎ**

**Апавяданне**

Мал. Ф. Бараноўскага.

Мой субяседнік па купэ — шырокаплечы сярэдніх год мужчына, апрануты ў цёмнасіні касцюм, памешваючы лыжачкай чай, які прынёс праваднік ціха прамовіў:

— У маім жыцці таксама быў, калі не цікавы, дык, здаецца, дзіўны выпадак. Адбылося гэта на вялікіх міжнародных спаборніцтвах па боксу ў адной з краін за мяжой.

Баі праводзіліся ў вялізнай, падобнай на авіяцыйны ангар, зале. Ад самых падмосткаў, на якіх быў устаноўлены рынг, адыходзілі ў розныя бакі рады для гледачоў. Увечары, калі рады запаўняліся гледачамі, а вялізную пустату ахінаў мяккі поўзмрок — зала здавалася ўтульнай.

У дзень адкрыцця спаборніцтваў, калі баксёры розных краін выстраіліся для параду, я звярнуў увагу на каманду адной з капіталістычных краін. Гэта былі негры. Дзесяць чорных абаранялі сцяг белых.

Я акінуў позіркам іх моцныя постаці. Твар аднаго негра здаўся мне знаёмым. Шырокі, з глыбокімі маршчынамі лоб, тонкі нос і тонкія губы, так нехарактэрныя для яго нацыі. Выразу вачэй я не здолеў разгледзець: яркае верхняе святло кідала на іх глыбокі цень. «Дзе я мог бачыць гэтага чалавека?» — успамінаў я, але не знаходзіў адказу.

Ён стаяў не варушачыся, прыгожы, стройны, як антычная фігура бога, адлітая з бронзы і апранутая ў спартыўную форму.

Я так і не ўспомніў тады нічога аб гэтым чалавеку. І, напэўна, калі-б не выпадак, таямніца загадкавага незнаёмца засталася-б нераскрытай.

... Ішоў другі дзень спаборніцтваў. У цяжкай для мяне схватцы я дамогся перамогі над венгерскім баксёрам. Пасля бою я не пакінуў залы, а застаўся каля рынга, каб паглядзець выступленні баксёраў маёй вагі. З пераможцам гэтага паядынку я павінен быў сустрэцца на наступны дзень. Апрануўшы халат, я прысеў на лаву, дзе сядзелі нашы спартсмены, і пачаў чакаць з'яўлення баксёраў.

Першым на ярка залітыя святлом падмосткі рынга падняўся шырокаплечы англічанін. Ён пераскочыў цераз канаты і, пазіруючы перад публікай, пачаў наносіць удары ў падстаўленыя ўхмыляючымся тлустым секундантам далоні. Праз некалькі секунд у супроцьлеглым кутку з'явіўся негр. У ім я пазнаў майго незнаёмца!..

Сваімі паводзінамі на рынгу ён адразу звярнуў увагу ўсіх нашых баксёраў. Негр не ўсміхаўся завучана для рэпарцёраў, не выкідваў для публікі рознастайных эфектных трукаў, — ён баксіраваў разумна, энергічна, адцiскаючы свайго разгубленага праціўніка да канатаў рынга. У сярэдзіне другога раунда негр нанёс дакладны ўдар англічаніну — той мякка апусціўся на светлы брызент, страсянуў пару разоў галавой, няўпэўнена ўзняўся і накіраваўся ў свой куток.

Савецкі суддзя, які назіраў за баксёрамі на рынгу, узняў руку негра.

— Накаут Джон Корбіт! — пачуў я словы дыктара скрозь свіст і апладысменты публікі. Я ўважліва глядзеў на Джона, імкнучыся заўважыць на яго твары штосьці такое, па чымбы я здолеў пазнаць незнаёмца. І чым больш я глядзеў на яго, тым больш я верыў у тое, што з гэтым чалавекам я дзесьці сустракаўся. Я сачыў, як ён нахіліўся да нашага суддзі, штосьці сказаў яму і, паціскаючы яго руку, усміхнуўся. У гэты момант яго прыемны, добры твар асвяціла ўспышка фоталямпы аднаго з фотакарэспандэнтаў, і я адразу-ж успомніў, дзе мы сустракаліся з гэтым чалавекам.



... Гэта здарылася ў апошнія дні вайны. Наш полк бамбіў фашысцкія войскі па суседству з перадавымі часцямі саюзнікаў. Мы сумеснымі намаганнямі дабівалі варожую групіроўку на поўдзень ад Берліна. Якраз у гэтыя апошнія дні вайны мне не пашанцавала — у адзін з вылетаў нашу машыну падбілі. Выбухам параніла стралка-радыста. Машына загарэлася, але слухалася кіравання, і я вырашыў пасадзіць яе, каб выратаваць жыццё таварыша...

Са страшэннай хуткасцю набліжалася зямля. Я бачыў салдат, якія беглі, і грузавую машыну, што імчалася цераз поле (самалёт падаў у размяшчэнні саюзнікаў). Паступова мне ўдалося выраўняць палёт і пасадзіць машыну на бруха. Ад страшэннага штуршка я не ўтрымаў у руках штурвала, моцна стукнуўся тварам і страціў прытомнасць.

Калі апрытомнеў, дык адчуў, што нехта падтрымлівае маю галаву і ўлівае ў рот з флягі ваду. З цяжкасцю расплюшчыў вейкі і ўбачыў твар чалавека. Ён быў чорны, бялкі блішчэлі — я зразумеў, што перада мною негр. Заклапочанасць з яго твару пачала знікаць, і ён усміхнуўся мне добра, пяшчотна... У той момант зусім блізка ўзарваўся наш самалёт — яркая ўспышка асвяціла ўсмешку негра, а я зноў страціў прытомнасць.

Апрытомнеў ужо ў шпіталі. Там мне сказалі, што калі наш самалёт упаў, да яго баяліся набліжацца, асцерагаючыся выбуху. Але адзін салдат-шафёр выцягнуў мяне і радыста з палаючай машыны. Ледзь ён паспеў аднесці нас на некалькі дзесяткаў метраў, як самалёт узарваўся. Больш аб гэтым чалавеку, які выратаваў нам, савецкім лётчыкам, жыццё, я нічога не даведаўся. На ўспамін аб гэтай незвычайнай сустрэчы ён пакінуў мне толькі сваю ўсмешку.

...Пасля бою Корбіта з англічанінам я разам з перакладчыкам выклікаў негра з раздзявальні. Ён выйшаў у шаўковым ярказялёным халаце, выціраючы ручніком мокрыя курчавыя валасы. Мы пазнаёміліся. Як толькі Джон даведаўся, што мы — рускія, ён даволі ніштавата загаварыў з намі на нашай мове. Выявілася, што ён навучыўся размаўляць па-руску, калі працаваў шафёрам у экспартнай камісіі.

Я нагадаў яму пра вайну... пра выпадак... Ён усміхнуўся збянтэжана і радасна, паўтараючы:

— Зусім помню лётчык... два рускі лётчык.

Мы гутарылі з ім у той вечар некалькі гадзін.

Джон распытваў у мяне аб жыцці ў Савецкім Саюзе, здзіўляўся, увесь час здзіўляўся і, здаецца, не ўсяму верыў. Потым ён загаварыў пра сваё жыццё, пра беспрацоўе, заняткі боксам, спачатку прафесійныя, а пасля, калі ўдалося знайсці працу, — аматарскія.

Калі мы развітваліся, ён пашкадаваў, што нам давядзецца заўтра біцца на рынгу. Словы аб гэтым вярнулі мяне да сапраўднасці, і я пайшоў ад яго разгублены.

Доўга я не мог заснуць у той вечар, розныя думкі хвалявалі мяне. То мне здавалася, што патрэбна аддаць заўтра ўсе сілы для пе-

рамогі, а пасля назнарок прапусціць удар і прайграць Джону, то я пераконваў сябе ў адваротным — я не магу прайграць гэтага паядынку ў чужой краіне, знаходзячыся пад сцягам сваёй Радзімы. Але адразу-ж перад маімі вачыма мільгалі карціны... Са страшэннай хуткасцю імчыць насустрач мне параненая вайною зямля, пасля ўдар, туманам зацягваецца свядомасць, і калі апрытомнеў... спатнелы добры твар Джона, сур'ёзныя, а потым вясёлыя вочы... Потым сумныя, па-дзіцячаму сур'ёзныя вочы Джона, калі ён успомніў, што заўтра мы сустрэнемся на рынгу...

Я стараўся не думаць пра тое, што будзе заўтра, але доўга не мог гэта зрабіць. Нарэшце, я заснуў. Але як толькі расплюшчыў раніцой вочы, ранейшыя думкі зноў апанавалі мяне.

Не ведаў я, як трымаць сябе на рынгу. А ў боксе-ж шмат значыць, калі спартсмен спакойны і ўпэўнены ў сваіх сілах.

Трэнер заўважыў маю разгубленасць, але я не прызнаўся яму, чым я занепакоены.

У раздзявальні, памятаю, нікога не было. Я абуў баксёрскія чаравікі, спартыўную форму і пачаў разагравацца. Але рухі мае былі вялыя, як у хворага чалавека. Так, я сапраўды быў тады хворы — не было волі да перамогі. Я ўжо апрануў халат, калі па мяне ў раздзявальню прышоў трэнер. Ён сказаў мне тады, каб, выходзячы на рынг, я памятаў, што ад маёй перамогі залежыць перамога ўсяго нашага калектыву. Прабіраючыся сярод гаманлівай публікі, я думаў аб словах трэнера, як раптам нечакана звярнуў увагу на чужы сцяг, які ўздымаўся па мачце. І тады мне адразу стала зразумела, што я павінен рабіць.

Джон ужо быў на рынгу. Ён глядзеў, як я падымаюся па прыступках падмосткаў, як пералажу цераз канаты рынга. Мне хацелася ведаць у той момант, што думае гэты чалавек: адчувае ён ва мне сябра ці ворага? І я зірнуў яму ў вочы, але нічога, акрамя спакою, не прачытаў у іх...

Калі суддзя на рынгу ўзняў маю руку ў знак перамогі, а на ярка асветленай мачце ўзняўся чырвоны сцяг, мне здалося, што я страціў таварыша. Перамагаючы нейкі незразумелы страх, я зірнуў на Джона.

Ён быццам прачытаў у той момант усе мае сумненні і адказаў на іх сваёй надзвычайнай, мілай усмешкай, і я зразумеў — усмешкай сябра.



# НЕЎМІРУЧЫ ГАРНІЗОН

Б. АНТОНАЎ

Брэсцкая крэпасць...

Пра вялікую ратную славу, пра бяспрыкладную доблесць яе герайчнага гарнізона ведае ўся краіна. Тут кожная пядзь зямлі абмыта свяшчэннай крывёй нашых воінаў, якія ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны мужна сустрэлі вераломны ўдар ворага.

...У гэтыя дні крэпасць на Бугу жыве кіпучым і некалькі незвычайным жыццём. Здаецца, мы зноў бачым тут грозныя падзеі чатырнаццацігадовай даўніны. То тут, то там чуваць ружэйна-кулямётная страляніна, дружнае чырвонаармейскае «ура». Гараць поўразбураныя казармы і бастыёны. Густы чорны дым вырываецца з байніц і вокан будынкаў, сцелецца па берагах Мухаўца. Гатовыя па першаму сігналу ўступіць у бой, нязграбнымі аграмадзінамі ўзвышаюцца на крэпасным пляцы нямецкія танкі, самаходныя гарматы. Людзі, апранутыя ў форму салдат і афіцэраў гітлераўскага вермахта, сядзяць і ляжаць на траве, не выпускаючы з рук зброі. А вунь там, на вузкім казарменным дворыку, узнялася ў атаку жменька чырвонаармейцаў, на чале з баявым старшыной Кухарковым. Ён бяжыць наперадзе, з наганам у руцэ, босы, па баявой трывозе нават не паспеў абуць боты...

Творчы калектыў кіностудыі «Мосфільм» закончыў у Брэсцкай крэпасці апошнія натурныя здымкі новага фільма «Неўміручы гарнізон» па аднайменнаму сцэнарыю К. Сіманава.

У стварэнні кінаповесці аб неўміручым подзвігу абаронцаў старой цытадэлі прымалі ўдзел многія добра вядомыя савецкаму гледачу акцёры, у тым ліку В. Серова, Л. Сухарэўская, Н. Кручкоў, В. Макараў і іншыя.

Аб тым, як клапатліва, доўга і цярпліва ствараецца кожны кадр фільма, можна меркаваць па наступных прыкладах.

...На двор казармы ўрываюцца раз'юшаныя няўдачамі гітлераўцы. З крыкам «ура» іх контратакуюць нашы воіны. Многія з іх параненыя, амаль бяззбройныя, смяротна стомленыя ад голаду, смагі і бяссоніцы. Завязваецца кароткі і жорсткі бой. Чуваць удары зброі. Як падкошаныя, падаюць на зямлю забітыя. Здаецца, сцэна рукапашнай схваткі выглядае даволі пераканаўча.

Але аператар і гукааператар незадаволены. Кіно не церпіць фальшы, непраўдападобнасці. А ў схватцы на казарменным двары нехапае сапраўднай жорсткасці. Хтосьці, падаючы пад ударам ворага, усміхаецца. Нейчыя рухі замаруджаны. І сцэна, якая ў фільме зойме ўсяго некалькі дзесяткаў метраў плёнкі і прамільгне перад гледачом на працягу якой-небудзь хвіліны, рэпетыруецца зноў і зноў.

Вось другі эпізод.

Руіны касцёла. Ноч. Апошні не ўзяты немцамі куток. Старшы палітрук Рудзенка, сержант Мірзаян і радавы Бугарок ля кулямёта, выстаўленага ў акне для абстрэла крэпаснога пляца.

— Не астывае, — кажа Бугарок, дакрануўшыся да кулямёта і адхапіўшы руку.

— Зараз зноў пойдуць, — гаворыць Рудзенка. — Мірзаян, дапамажы гімнасцёрку скінуць.

Мірзаян асцярожна скідае з камісара гімнасцёрку. Рудзенка сціснуў зубы, каб не застагнаць ад болю.

— Апранай гімнасцёрку, — загадвае ён Мірзаяну.

Той не разумее: навошта? Ён-жа сержант, а не старшы палітрук. Рудзенка строга паўтарае загад, глядзіць, як пераапранаецца Мірзаян.

— Зараз апусцішся на вяроўцы, — кажа яму Рудзенка, — дабярэшся да Батурына, з'явішся і далажыш, што камісар палка Рудзенка прызначыў цябе, комсорга Мірзаяна, старшым палітруком. Мы тут з Бугарком і без цябе перад смерцю яшчэ некалькі фашыстаў уложым, а там Батурыну камісар патрэбен. Ідзі!..

Неахвотна пакідае Мірзаян сваіх баявых таварышаў, разумеючы, што расстаецца з імі назаўсёды. Але ісці трэба. Аблажанай крэпасці патрэбны камісар.

Артысты А. Чамадураў, які здымаецца ў ролі Рудзенкі, В. Манахаў, які выконвае ролю Мірзаяна і С. Міхайлаў (Бугарок) настойліва, цярпліва адпрацоўваюць гэтую хвалюючую сцэну, перш чым знаходзяць правільныя жэсты, інтанацыі, мізансцэны. І калі ўжо здымка эпізода закончана, гукааператары прапаноўваюць паўтарыць усё спачатку. Супаставіўшы мадуляцыю голаса Рудзенкі з папярэднімі запісамі, яны знаходзяць, што яна некалькі няроўная, і артысты «перажываюць» сцэну развітання зноў. (Фото ўверсе.)



Побач з вядомымі артыстамі В. Серовай, якая выконвае ролю Марыі Нікалаеўны, Л. Сухарэўскай (Аляксандра Пятроўна), Н. Кручковым (старшына Кухаркоў), В. Макаравым (Батурын), у фільме здымаюцца многія маладыя таленавітыя акцёры. Так, ролю Рудзенкі выконвае артыст Маскоўскага тэатра кінаакцёра А. Чамадураў, знаёмы гледачу па фільмах «Маладая гвардыя», «Кавалер Залатой Звязды», «Жукоўскі», «Зварот Васілія Бортнікава». Акцёр упарта шукае ў кожнай сцэне, у кожным жэсце праўдзівыя і яркія рысы стварэмага ім вобраза.

Выкарыстоўваючы сонечныя дні, калектыў спяшаўся закончыць натурныя здымкі ў Брэсце. Экспедыцыі прадстаяла яшчэ паездка ў Одэсу і Бендэры, вялікая праца ў павільёнах «Мосфільма». Таму літаральна кожная хвіліна на строгім уліку. Нават абедалі артысты тут-жа, на крэпасным пляцы, пакуль пастаноўшчыкі рыхтавалі чарговы аб'ект здымкі. І тады побач з камісарам Рудзенкам можна было ўбачыць «гітлераўца», які мірна чытаў таварышу свежую газету. (Фото ўнізе.)

Вечарамі пастаноўшчыкі і вядучыя артысты фільма выступалі перад моладдзю Брэста, савецкімі воінамі, расказваючы аб новым фільме, аб сваёй прафесіі.



# ДРУЖБА ПАТРАБУЕ...

І. ЖУРАЎ

**Нарыс**

Паўлу Касцюку было вельмі няёмка ў той свой прыход да выкладчыцы французскай мовы. Ён прышоў здаваць першыя дзесяць тысяч знакаў тэкста, зусім нязначную частку таго, што трэба будзе яшчэ здаць наперадзе. На пераклад невялікага ўрыўка з рамана Віктара Гюго пайшло цэлых тры тыдні. Перакладаў Павел прачытаную ім яшчэ ў школе гісторыю пра адважнага і вясёлага хлопчыка Гаўроша. Здавалася, што гэтую гісторыю ён ведае. Але, калі, увайшоўшы ў аўдыторыю, Павел сеў перад сталом Анны Іванаўны, пажылой выкладчыцы з прыгожымі рысамі твару і добрымі сінімі вачамі, і пачаў чытаць, прапала і адвага і ўпэўненасць. У роце адразу перасохла, язык заплятаўся, а словы, якія ён вымаўляў, былі зусім не французскімі, гэта была нейкая брыдкая мешаніна.

— Перакладайце, — ціха сказала Анна Іванаўна.

Хлопец сударгава чапляўся за кожнае знаёмае слова, але такіх слоў было мала, яны былі рэдкімі астраўкамі сярод мора невядомых слоў. Усё зблыталася ў галаве ў нейкі бязладны клубок, у якім было проста немагчыма знайсці канец.

Анна Іванаўна пазірала на Паўла сваімі добрымі вачамі і маўчала.

— Вы чыталі ўрывак з рамана «Адвержаныя», — нарэшце прамовіла яна. — А скажыце, як гэты раман называецца па-французску.

— «Лес Мізераблес», — паспешліва адказаў Павел.

— Вы два разы сказалі «лес», а ў жывым гучанні гэтага слова ніякіх лясоў няма, малады чалавек, — сумна сказала Анна Іванаўна. — І артыкль, і канчатак вымаўляеце вы няправільна. Ды і наогул вымаўленне ў вас страшэннае...

Анна Іванаўна перакатвала ў сваіх тонкіх пальцах папяровы камячок і нешта думала.

— Малевіч, — зайдзіце, — паклікала яна, падыйшоўшы да дзвярэй і злёгку іх прыадчыніўшы.

У аўдыторыю пружыністай паходкай зайшоў невысокі, добра складзены юнак з кучаравымі завіткамі русявых валос. Павел складваў кніжкі і збіраўся выходзіць.

— Пачакайце, — сказала яму Анна Іванаўна. — Пасядзіце крыху...

— Якая ў вас кніжка? «Кандыд» Вальтэра, — звярнулася выкладчыца ўжо да Малевіча. — Ну, добра, чытайце...

Малевіч чытаў лёгка, плаўна, цудоўна вымаўляючы незнаёмыя Паўлу словы. І нават было неяк дзіўна, што гэты студэнт толькі што гаварыў на сваёй роднай мове...

— Гэта вашы апошнія тысячы, здаецца, так, Малевіч? — Анна Іванаўна глядзела ў паўлаў бок.— Але ў мяне да вас просьба — дапамажыце таварышу Касцюку. Яму цяжка...

— Я не супраць, калі ласка...

Павел выйшаў з аўдыторыі разам з Малевічам.

— Прыходзь да мяне заўтра. — Малевіч сказаў Паўлу свой адрас.

Са сваім перакладам з завочнага аддзялення на стацыянар Павел звязваў шмат надзей. Хацелася па-сапраўднаму павучыцца, пасядзець над кнігамі. Да гэтага часу такой мажлівасці не было. Перад вайной Павел закончыў сямігодку і на гэтым, бадай, і абарвалася яго сталая вучоба. Быў у партызанах, пасля стаптаў нямала армейскіх чаравікаў і з'еў, як кажуць, не адзін пуд грэцкай кашы. Адным словам, калі пасля ўсіх гэтых спраў хлопец вярнуўся дадому, то ў восьмым класе сядзелі тыя, што ў часе паўлавай вучобы, мабыць, скакалі на бярозавых кійках і не раскрывалі яшчэ буквара.

Працуючы літработнікам у раённай газеце, Павел закончыў вячэрнюю дзесяцігодку і два гады вучыўся завочна ў інстытуце.

Хлопец даўно марыў аб стацыянарнай вучобе. І толькі сёлета яго мара спраўдзілася: закончыла інстытут паўлава малодшая сястра, якой ён увесь час дапамагаў, а рэдактар нарэшце-такі згадзіўся вызваліць хлопца ад работы.

Хлопцу было горка ўсведамляць, што ён самы старэйшы са студэнтаў на сваім трэцім курсе, і, выходзіць, самы слабейшы, бо з французскай мовай справа зусім не ладзілася. За месяц-два яе не адолееш, а прымушаць Анну Іванаўну крывіць сваім сумленнем ён не хоча...

Назаўтра пасля лекцый Павел пайшоў да Малевіча. Віктар Малевіч жыў на ўскраіне горада ў ціхім завулку. Паўла вельмі ветліва сустрэла віктарава маці. Ёй, відаць, падабалася, што дружбы яе сына шукае такі сталы, старэйшы за Віктара чалавек. З гэтага дня Павел амаль кожны вечар прыходзіў у віктараў дом.

Віктар аказаўся наогул неблагім настаўнікам, і Павел бачыў, што яму вельмі падабаецца гэтая яго роля.

— Ля баль, ля табль, ля плюм, — у дзесяты раз дэкламаваў Павел, а Віктар хадзіў па пакою і папраўляў, як ён казаў, помесь «палескага з французскім». Сваю эрудыцыю, веды Віктар падкрэсліваў пры кожным зручным выпадку, і гэта Паўлу не падабалася ў ім. «Малады ён яшчэ, пройдзе гэта», — думаў Павел.

Аднойчы ў нядзелю Павел прышоў да Віктара і не застаў яго дома. Ён сеў на канапу і пачаў перагортваць камплект даваеннага «Огонька».

— Вы пойдзеце заўтра снег чысціць? — віктарава маці была нечым заклапочана. — Навошта гэта? Студэнты павінны вучыцца. Няўжо без іх не могуць абыйсціся?

— Дык чысціць-жа будзем універсітэцкі двор.

— Віктар скардзіцца на недамаганне, у яго галава баліць. Проста не ведаю, як ён пойдзе...

У другі раз, калі Віктара зноў не было дома, маці завяла размову пра выкладчыкаў. Яна сказала штосьці абразлівае пра дацэнта Аўтуховіча, які выкладаў палітэканомію. Павел не згадзіўся, дацэнт вёў свой курс цікава.

— Не абараняйце вы гэтага Аўтуховіча. Вы-ж ведаеце, колькі Віктар працаваў над семінарскім дакладам. А ён сказаў, што мой сын не выкарыстаў усіх крыніц. Чый-жа даклад быў тады лепшы?

Паўлу падабаўся віктараў даклад, ён памятаў, што добра ацаніў яго і Аўтуховіч, зрабіўшы некалькі слушных заўваг. Крыўдзіцца за гэта было не варта.

Прайшло ўжо месяцаў тры, як Павел займаўся французскай мовай разам з Віктарам. За гэты час справа прыкметна рушыла наперад. Павел больш-менш авалодаў вымаўленнем, і хоць у тэксце ўсё яшчэ незнаёмых слоў траплялася куды больш, чым знаёмых, гэта яго ўжо не палохала, як раней. Віктара ён лічыў добрым хлопцам і шчыра зайздросціў яму. Віктар на курсе быў у ліку першых студэнтаў. Ён, здаецца, на хаду лавіў самае цяжкае.

Пад новы год ладзіўся гарадскі студэнцкі бал-маскарад. Трэцяму курсу выдзелілі восем білетаў. Іх размяркоўвала групорг Каця Патапейка.

— Камітэт нас папярэдзіў, каб білеты выдавалі тым, хто мінулы раз не быў на бале-маскарадзе,— сказала Каця, падыйшоўшы да стала, дзе Павел сядзеў з Віктарам. — Табе, Малевіч, білета не будзе, бо ты ўжо два разы быў. А вам (яна называла Паўла на «вы») пастанавілі выдзеліць білет.

Малевіч нібы і не чуў гэтых слоў, ён з глыбокадумным выразам твару глядзеў у акно. Праз хвіліну Каця зноў падыйшла да Малевіча.

— Калі ты крыўдзішся, Віктар, то я магу аддаць табе свой білет, хоць я павінна прысутнічаць на вечары, як член бюро...

— Не трэба мне тваіх падачак, — Віктар падскочыў і, як метэор, вылецеў з аўдыторыі.

Хутка адбылося вось што.

Паўла, як газетчыка-практыка, назначылі ў рэдкалегію факультэцкай насценгазеты. Членам рэдкалегіі быў таксама і Малевіч, і іх абодвух папрасілі напісаць заметку ў новагодні нумар.

— У мяне няма часу пісаць!— амаль што крыкнуў Віктар рэдактару газеты Клаве Махнач з пятага курса.

Віктар не прышоў і на пасяджэнне рэдкалегіі, дзе рыхтавалі святочны нумар. Клава прапанавала змясціць карыкатуру на Малевіча. Карыкатура атрымалася едкай: Віктар хоча працiснуцца ў файе тэатра, дзе ідзе навагодні бал-маскарад, а яго мятлой гоніць адтуль дзед-Мароз.

Пасля карыкатуры Малевіч зусім перастаў прыходзіць на рэдкалегію, і з гэтым неяк непрыкметна прымірыліся. На кватэры ў Віктара Павел цяпер не бываў. Пачалася экзаменацыйная сесія, і ён амаль не выходзіў з бібліятэкі.

Малевіч на вачах адасабляўся ад групы. Ён адмовіўся ўдзельнічаць у лыжным агітпаходзе ў падшэфны калгас, перастаў наведваць шахматную секцыю, прапусціў комсамольскі сход. Усё гэта сыходзіла яму з рук.

На канікулах, прыехаўшы з дому на два дні раней, Павел наважыў прайсціся па гораду. Вечар быў на дзіва прыгожым, у белым адзенні стаялі на бульвары дрэвы, бляск электрычных ліхтароў нібы зліваўся з гэтай суцэльнай снежнай белізной. На бульвары Павел сустрэў Малевіча, той ішоў няпэўнай паходкай, злёгку хістаючыся. Убачыўшы Паўла, ён узрадаваўся.

— Ты што, дадому не ездзіў, акадэмік? Грызеш граніт навукі? Кінь, плюнь — філасофскі камень усёроўна не здабудзеш, да кораня ўсяго не дабярэшся. Жыццё, брат, рэч непазнавальная...

Малевіч ухапіў Паўла пад руку і ледзь не павіс на ёй, цяжка перастаўляючы ногі.

— Хочаш, я адкрыю табе сакрэт, — мармытаў ён п'яным голасам. — Я, брат, трапіў у цікавую кампанію. Вострыя людзі і аўтарытэтаў ніякіх не прызнаюць.





Прымаюць жыццё, як яно ёсць. Ідзем туды, акадэмік...

— Пойдзем дадому, Віктар, табе трэба праспацца...

— Не хачу дадому!..

Віктар кінуў Паула і, хістаючыся, пашыбаваў па вуліцы. Павел дагнаў яго і пайшоў поруч, ён баяўся, што з Віктарам можа здарыцца што-небудзь непрыемнае. Дадому ісці Віктар не хацеў нізавошта. Так, пятляючы па завулках, яны падыйшлі да дома на незнаёмай Паўлу вуліцы.

— Тут, — сказаў Віктар і цяжка ўзабраўся на ганак.

У пакоі сядзела трое. Кіра Байцова і Ала Вяршкова вучыліся на тым-жа трэцім курсе, нават сядзелі разам на задняй лаўцы. Пра хлапца з доўгай шыяй і ў штанах у клетку, які сядзеў разваліўшыся на тахце, Павел таксама чуў. Гэтага хлопца — прозвішча яго, здаецца, было Гаркуша, — летась выключылі з універсітэта за непаспяховасць і розныя дрэнныя ўчынкі. Кіру Байцову таксама выключылі з комсамола за грубасць таварышам, і цягнулася яна ледзь-ледзь, на тройкі.

Павел адразу спахмурнеў, у яго не было ніякай ахвоты заставацца ў такой кампаніі. Яго апанавала злосць на Віктара. На якое ліха яму гэтыя людзі, што карыснае ён можа тут знайсці?

Між тым без стуку адчыніліся дзверы і ў пакой зайшлі яшчэ дзяўчына і два хлопцы. Яны, нібы згаварыўшыся насілі такія-ж штаны ў клетку і кепкі, насунутыя на самыя вочы. Кіра — яна была гаспадыняй дома — завяла радыёлу, і пакой напоўніўся гукамі джаза. Мяняліся пласцінкі, але не мяняўся джаз. Ляскалі талеркі, мяўкалі каты, а ўсе прысутныя дрыгалі нагамі і на іх твары было напісана задавальненне. Пасля выпівалі і зноў заводзілі пласцінкі. Віктар, як і ўсе, таксама дрыгаў у такт музыцы нагамі, а потым яго пачало хіліць на сон — шмат выпіў.

Павел, які ўжо ледзь стрымліваў злосць, без асаблівых цырымоній узяў таварыша пад руку і вывеў на двор. Яны прайшлі моўчкі ладны кавалак дарогі, і свежае марознае паветра крыху ацвярозіла Віктара.

— Слухай, — Павел стараўся гаварыць спакойна. — Скажы, хто такая гэтая Кіра?

— Кіра? Як табе сказаць. Для яе сэнс жыцця ў вострых і абавязкова новых уражаннях.

— Віктар, браток, ды кінь ты к д'яблу гэтае глупства. — Павел хваляваўся. — Гэта выпадковае ў цябе, так? Навошта табе гэтая кампанія, гэтыя джазы? Ну, скажы...

Віктар маўчаў колькі хвілін, нешта абдумваючы.

— Галава проста развальваецца, трэба кінуць піць, — нарэшце прамовіў ён. — Ты кажаш, выпадковая кампанія. Магчыма. Ні да кога з іх я асаблівых пачуццяў не маю. Але затое ў іх цікава, забываешся на ўсё. Што-ж яшчэ рабіць? Абрыдзела, брат, спавядацца кожны дзень маме, сядзець на нудных сходах...

Павел развітаўся з Віктарам з цяжкім прыгнятаючым пачуццем. Ён адчуваў, што з яго нядаўнім настаўнікам робіцца нешта вельмі дрэннае. Але што рабіць? Хлопец думаў пра гэта, лежачы ў інтэрнаце на ложку, амаль цэлую ноч і не прыходзіў ні да якога пэўнага вываду. Пад раніцу ўжо ўзнікла думка, што ў Віктара ўсё гэта выпадковае, мімалётнае. На гэтай думцы ён і супакоіўся.

Павел вырашыў не напамінаць Віктару аб нядаўняй размове. Сустракаліся яны, як і раней, размаўлялі больш аб пабочных рэчах. Разы два Павел наведаў Віктара дома. Там, здавалася, панавала ранейшая атмасфера цеплыні і шчырасці.

Прайшоў месяц, і ўсё ішло ціха. Аднойчы, не сказаўшы ні слова, Віктар узяў партфель і выйшаў з аўдыторыі, хоць наперадзе былі яшчэ дзве лекцыі. Адсутнічалі на лекцыях Кіра Байцова і Ала Вяршкова. Гэтак стала паўтарацца амаль кожны дзень.

— Ты бачыш, што ў нас робіцца? — звярнуўся Павел да Каці Патапейкі. — Бачыш, што з Віктарам, з Кірай Байцовай...

— Я ўжо дакладвала на бюро. Кіра — не комсамолка, і яе можна пакараць толькі па лініі дырэкцыі. А пытанне аб Малевічу пастаўім на комсамольскім сходзе...

Комсамольскі сход ішоў вяла, казённа. Каця Патапейка доўга гаварыла пра абавязак комсамольцаў быць прыкладнымі ў вучобе і дысцыпліне, прыводзіла лічбы пропускаў. Дарэчы, пропускі лекцый былі нават у сяго-таго з групавога актыву, таму тая-кія актывісты і не вельмі падымалі голас супраць Малевіча. З трыумфам пераможцы Віктар выступіў на сходзе.

— Я, здаецца, у адстаючых не быў. Даганяць мне нікога не трэба. Сесія пакажа, хто сапраўды адстаючы, а хто да навукі падыходзіць творча...

І тут Павел не вытрымаў. Яго прамова была блытанай, але гарачай. Ён расказаў усё, што ведаў пра джаз, пра выпіўкі, пра віктараў настрой, пра тое, што чалавек з такім настроем не можа стаць педагогам, выхавацелям моладзі.

— Я сябрую з Віктарам, — закончыў сваё выступленне Павел.— Але дружба патрабуе быць сумленным, умець прызнаваць свае памылкі.

Сход насцярожана прыціх.

— Я прапаную стварыць камісію і праверыць факты, — рэзюміравала Каця Патапейка. — Ёсць прапанова — з трох чалавек.

Малевічу і Але Вяршковай за пропускі лекцый вынеслі папярэджанне.

— Дык вось якая твая ўдзячнасць! — сцяўшы зубы, кінуў Віктар проста ў твар Паўлу, калі яны выходзілі з аўдыторыі. — Эх ты, «лесмізераблес»...

Павел бачыў, што сход не даў нічога. Віктар ідзе сваёй дарогай, як і ішоў, ён нічога пакуль што не зразумеў. А для Каці Патапейкі хопіць пратаколу.

Прайшло яшчэ некалькі тыдняў. На лекцыі Малевіч хадзіў, але было відаць, што яго сувязі з Кірай і яе сябрамі не аслаблі. Цяпер Павел ведаў ужо, што ў Кіры — уласны дом, які дастаўся ёй пасля смерці бацькоў, яна трымае кватарантаў, а стыпендыя ёй не патрэбна.

Набліжалася летняя сесія. Павел сядзеў цяпер над кнігамі дзень і ноч. Ён пачарнеў, схуднеў, хадзіў з вялізнымі сінякамі пад вачамі.

Увесь вольны час хлопец удзяляў французскай мове. Пасля майскіх свят знаёмыя студэнты з політэхнічнага інстытута расказалі Паўлу такую гісторыю. У іх быў святочны вечар. На гэты вечар прыйшоў са сваімі сябрамі Малевіч. Яго прапусцілі, а яго паплечнікаў у рабых штанах папрасілі выйсці. Малевіч палез спрачацца, тады іх усіх разам, папросту кажучы, не зусім ласкава выставілі за дзверы. Кампанія, добра падпіўшы пасля гэтага, наладзіла пад вокнамі інстытута дзікі канцэрт.

Увесь той вечар Павел пісаў матэрыял для сваёй факультэцкай газеты. Пісаў едка, з запалам, з сэрцам. Гэта быў памфлет, які называўся «Прыхільнікі Бахуса і джаза». Павел расказаў у ім не толькі пра Віктара і яго кампанію, а і пра Кацю Патапейку, і пра тых актывістаў, што жылі па прынцыпу «абы ціха» і не шкодзілі пладзіцца такім, як Малевіч.

Праз два дні памфлет паявіўся ў газеце, і каля яе натоўпам сталі студэнты. Вечарам газета знікла. Сумненняў не было — яе сарваў Малевіч.

Рэдкалегія сядзела ўсю ноч, а назаўтра газета вісела зноў. Вечарам пачаўся комсамольскі сход. Ён быў бурным і многалюдным. Такога сходу ніколі яшчэ не было на трэцім курсе. Каця Патапейка і шмат хто з актывістаў баранілі цяпер чэсць мундзіра. Яны сталі фактычна на бок Малевіча, бо вінавацілі яго толькі за тое, што ён сарваў газету. Пра п'янкі і джазы стараліся маўчаць, як пра недаказаныя факты. На сходзе сядзела маці Малевіча, бацька Алы Вяршковай — відны работнік з Міністэрства. Маці не вытрымала, яна істэрычна закрычала, што яе сына загубіла Кіра Байцова, што Кіру трэба прагнаць, і тады сын яе вылечыцца ад усіх хвароб.

Малевічу вынеслі суровую вымову.

Справа на гэтым не скончылася.

— Размову працягнем пасля сесіі на камітэце комсамола. Пагаварыць будзе пра што, раз вы столькі маўчалі, — сказаў сакратар партбюро. — Сёння вынесена вымова не аднаму Малевічу, а ўсёй арганізацыі.

Насталі экзамены. Экзамен па французскай мове быў па парадку другім.

Першым адказваў Малевіч. Гаварыў бойка, з дыкцыяй, як артыст.

— Якая гэта форма? — спытала выкладчыца, прачытаўшы сказ. Малевіч задумаўся. Адказ яго быў няправільны. Павел чуў далей: Малевіч не ведаў шмат якіх рэчаў, якія патрэбна было абавязкова ведаць на экзамене.

— Вы не толькі не выраслі, а разгубілі і свой былы багаж, Малевіч, — сказала Анна Іванаўна. — Толькі ўлічваючы вашы мінулыя заслугі, стаўлю вам тры... Пасядзіце крыху.

Павел чытаў па тэксту рамана «Адвержаныя» В. Гюго.

— Скажыце, вы прачыталі кнігу на французскай мове? — спытала Анна Іванаўна.

— Прачытаў, Анна Іванаўна. Другі раз чытаў без слоўніка.

Анна Іванаўна ўсміхнулася.

— Што-ж, бывае, — і вучань перарастае настаўніка. Ці не так, Малевіч?



Якаў Патупец і Віктар Хадаровіч па шляху ў калгас.

# ПЕРШЫ СЕАНС

Я. ТАРАСАЎ

Ад густых жытнёвых палёў пахне спелым зернем. Старэнькі шэры конік паціху клыпае па прасёлачнай дарозе, узнімаючы капытамі клубы пылу.

— Вось дык далі арлоўскага рысака! На ім толькі нябожчыкаў вазіць, — бурчыць матарыст Якаў Патупец.

— Спачуваю, Яша. Ты-б цяпер, як на крыллях, ляцеў. Чакае-ж, мусіць? — падкрэслена ўздыхае кіномеханік Віктар Хадаровіч.

— Хто чакае? — нібы запалка, успыхвае Яша.

Пярэдняе кола раптам трапляе ў глыбокую яміну, конік спыняецца, набіраючы сіл, потым робіць рывок — і на калёсах жаласна дзынькаюць металічныя скрыні.

— Тп-р-р-у, Лысы! — крычыць Віктар. — Яша, збегай да стажка і наскубі сена.

Матарыст подбегам спускаецца ў лагчыну і хутка вяртаецца з бярэмцам сена. Абодва, механік і матарыст, старанна раскладваюць сена паміж скрынямі.

— Яша, сёння папрацуеш за апаратам, а я за рухавіком пагляджу, — звяртаецца механік да матарыста.

— Праўда? І ўвесь сеанс?

— Канешне, нехай яна палюбуецца, які з цябе добры кіномеханік расце. Мо' мацней пакахае.

— Ізноў ты за свае жарты! — гаворыць Яша, але ў яго голасе ўжо не чуваць крыўды.

— А я вось з-за кахання ды «Кубанскіх казакаў» і стаў кіномеханікам, — задуменна гаворыць Віктар.

Яшыны вочы запальваюцца цікаўнасцю.

— Дык ты раскажы.

— Раскажу як-небудзь.

Калёсы ўзнімаюцца на курганок і адгэтуль, як на далоні, відаць рэчка Лахва. Яна срабрыстай змейкай уецца паміж хмызнякоў.

— Прыпынак на поўгадзіны, — абвяшчае Віктар. — Напоім і накормім Лысага, самі пакупаемся...

Лысы са смакам шчыпле сакавітую прыбярэжную траву. Хлопцы кідаюцца ў рэчку. Яна ласкава прымае іх у свае халаднаватыя абдымкі.

Пасля купання яны грэюцца на сонцы. Лахва ціха плешчыцца ля іх ног. Пад аднатоннае цурчэнне рачных струменяў Яша пачынае драмаць.

— Вось рачулка на выгляд здаецца спакойнай, разважлівай, а характар мае круты, — гаворыць Віктар, кідаючы ў рэчку адпаліраваны вадой каменьчык. — Колькі турбот з-за яе бывае.

Яша імгненна расплюшчвае вочы.

— Ты гэта пра каго, Віктар? — сонна пытае ён. — Пра дзяўчыну?

— Табе ўсё дзяўчына ў галаве. Я пра Лахву кажу. Памятаеш, як вясной пераправуляй праз яе «Свінарку і пастуха»?

Яша добра памятае гэты выпадак. Ехалі яны па гразі, пад халодным дожджом, прамоклі да апошняй ніткі. Толькі і марылі як-небудзь даклыпаць да вёскі, адагрэцца на печы, прасушыць адзенне. Пад'ехалі да маста, а яго як і не было: знесла паводкай, толькі адны палі засталіся. Што рабіць? Назад вяртацца сорамна, ніколі яшчэ сеанс не зрывалі. На вёсцы і афішы расклееныя. Збяруцца людзі ў клуб, дарэмна будуць чакаць. «Мо', перанясем апаратуру і фільм па палях», — прапанаваў Віктар. Яша кінуў позірк на рэчку. Вада шалёна кruціла каля паляў бярвенні, шматкі саломы, трэскі, стараючыся ўцягнуць усё гэта ў глыбокі вір. Па целу Яшы папаўзлі калючыя мурашкі. Але ён перамог сябе і сказаў: «Перанясем».

Бралі кожны па цяжкай скрыні на плячо і асцярожна пераступалі на слізкіх палях, стараючыся не глядзець на раз'юшаную ваду. Так зрабілі некалькі рэйсаў. На апошнім Яша паслізнуўся і плюхнуўся ў ваду. Добра, што гэта было ля самага берага. У вёсцы Віктар адпаіў Яшу гарачым малаком, і ўвечары ён паважна стаяў ля пыхкаючага рухавіка і цыкаў на дапытлівых хлапчукоў, якім абавязкова хацелася дакрануцца да дынама або пераскочыць праз туга нацягнуты провад...

— Пад'ём, Яша. Поўгадзіны прайшло, — сказаў Віктар, зірнуўшы на гадзіннік.

Яны запрэглі Лысага. Заправіўшыся сакавітай травой, ён бадзёра адбіваў крокі па новаму бярвенчатаму масту. За мастом ізноў пайшлі залатыя жытнёвыя палі. Уводдалі стракатаў камбайн.

— Вось і я калісьці марыў стаць камбайнерам, — прамовіў Віктар.

— А трапіў у кіномеханікі. З гэтага, напэўна, і пачынаецца гісторыя пра каханне і пра «Кубанскіх казакаў»?

— З гэтага, Яша... Працаваў я тады памочнікам у кіномеханіка Віктара Данілавіча Хліманкова. Чысціў апаратуру, пераматваў кіностужкі. А пад добры настрой даваў ён мне самастойна пракруціць частку або дзве. І асабліва добры настрой бываў у яго, калі мы траплялі ў вёску Сенькава. А траплялі мы ў яе часцяком. Для гэтага ў Віктара Данілавіча кожны раз знаходзілася асаблівая прычына. Справа ў тым, што жыла ў гэтай вёсцы, ну, не схлусіць табе, адна сапраўдная прыгажуня. Ну, ды і сам Віктар Данілавіч быў хлапчына хоць куды. Расцягне свой баян перад сеансам, пачне перабіраць лады — самае халоднае сэрца агнём запаліцца. З усяго навакольля збіраліся людзі паслухаць яго музыку. Ну, і, зразумела, на сеансе заўсёды паўнютка народу. Зайздросціў я яго таленту. Калі стаў самастойным механікам, купіў за свае грошы патэфон, самыя найлепшыя пласцінкі, і прапускаў іх праз узмацніцель на дынамік. Але дзе там гэтай музыцы да баяна Віктара Данілавіча!

Калёсы збочылі на прыдарожную мураву. Насустрач ішоў абоз з хлебам.

— Здаровы былі, кіномеханікі! — прывітаўся пажылы калгаснік, які крочыў побач з пярэднім возам. — Кіно, значыць, будзе?

— Будзе!

— Толькі пачакайце крыху, пакуль мы з пункта «Заготзбожжа» вернемся.

Доўгай чарадой прайшлі падводы і зніклі за густымі слупамі пылу. Віктар працягваў свой расказ.

— Дабіліся мы аднойчы на базе кінапракату фільма «Кубанскія казакі». Тады гэты фільм яшчэ ў навіну быў, і за яго механікі гатовы былі адзін другому чубы павыдзіраць. Пачалі круціць гэтую карціну па графіку. Але потым усё-ж не вытрымаў Віктар Данілавіч і звярнуў з маршруту на Сенькава. Хоць і афішы спазніліся вывесіць, народу сабралася шмат. Толькі бачу, не асаблівa радуецца гэтаму Віктар Данілавіч, за свой баян не бярэцца, усё па баках паглядае, хмурыцца. Ужо трэба карціну пачынаць, а ён мне гаворыць: «Паглядзі тут за апаратурай, а я на некалькі хвілін адвярнуся, трэба з аграномам наконт сельскагаспадарчых фільмаў дамовіцца». «Мы-ж сустрэлі агранома на шляху. Ён у горад ехаў», — кажу я. «Не твая справа, дзе аграном», — ускіпеў Віктар Данілавіч і выбег з памяшкання. Поўгадзіны прайшло, гадзіна, а яго ўсё няма. Людзі хвалююцца, нагамі тупаюць: «Пускай карціну без механіка». Лёгка сказаць — пускай. Калі ля мяне Віктар Данілавіч, то ўсё, быццам, нядрэнна атрымліваецца, а як толькі куды адыйдзе, тады абавязкова бяда за бядой: то гук знікне, то карціна не ў рамцы: ногі на экране ўверсе, а галовы ўнізе. І вось я стаю, пакутую ў нерашучасці. Падыйшла тады да мяне нейкая дзяўчына і смяецца: «Мы думалі, што і ты мастак кіно пускаць. А ты пры апараце толькі для мэблі». Тут я ўжо не вытрымаў. Хоць рукі дрыжэлі ад хвалявання, а заправіў фільм у апарат, запусціў матор... Адчуваю, што ўсё цела напружылася, нервы ў камяк сціснуліся. Тут неяк і ўпэўненасць з'явілася. То на экран пагляджу, то на апарат: усё ладам ідзе. На палатне кубанскі хор песняй заліваецца, а ў мяне ў самога ад радасці сэрца спявае. Так і не заўважыў, як мільгануў надпіс: «Конец фильма». А тут падыходзіць Віктар Данілавіч. «Ну, — думаю, — дастанецца мне за самавольства на арэхі». А ён паціскае мне руку і кажа: «Дзякую, браток, выручыў ты мяне. Цяпер бачу, што з цябе кіномеханік добры будзе. Я-ж палавіну сеанса тут стаяў і назіраў за тваёй работай».

Калёсы задрынчэлі па шырокай, абсаджанай ліпамі вясковай вуліцы. З усіх бакоў, нібы вераб'і, пазляталася гаманлівая дзетвара.

— Кіно прыехала! Кіно прыехала!

Дзетвара шчыльна абступіла кіномеханіка, які раскладаў свае скрыні.

Вячэрняя імгла праглынула далёкі лес, падступала ўсё бліжэй і бліжэй. Але так і застаўся ў вёсцы светлы астравок — вялікі будынак школы, над уваходам у які гарэла яркая электрычная лямпа, а з дынаміка, устаноўленага на самым даху, ліліся гукі музыкі. Пачаўся першы самастойны сеанс матарыста Якава Патупца.

**Магілёўскі раён.**

# ПАРАДЫ ПАЧЫНАЮЧАМУ РАДЫЁКАНСТРУКТАРУ

**Е. КЕРНАЖЫЦКІ,**
**майстар-радыёканструктар.**

З гэтага нумару часопіс «Маладосць» уводзіць аддзел «Вучыся рабіць сам». У аддзеле будуць друкавацца парады юным тэхнікам, фотааматарам, удзельнікам гурткоў мастацкай самадзейнасці, пачынаючым шыць і вышываць, юннатам, юным падарожнікам і г. д.

Часопіс просіць сваіх чытачоў напісаць у рэдакцыю, якія парады, кансультацыі, чарцяжы, схемы яны жадалі-б убачыць у аддзеле «Вучыся рабіць сам».

Пачаўся новы навучальны год, і зноў аднавілі сваю работу радыёгурткі, дзе школьнікі вывучаюць адну з складаных і ў той-жа час захапляючых галін ведаў — радыётэхніку, вучацца канструяваць розныя радыёпрыборы. Кожны радыёаматар марыць навучыцца самастойна складаць схемы, канструяваць складаныя прыёмнікі, радыёлы, магнітафоны, тэлевізары і інш. Мары гэтыя рэальныя. Многія з тых, чые імёны зараз вядомы ўсёй нашай краіне, хто стаў вялікім вучоным, таленавітым канструктарам, вопытным радыстам, пачыналі свой шлях у гуртках радыёаматараў.

Даводзіцца часта сустракаць пачынаючых радыёаматараў, якія, не маючы ні патрэбных тэарэтычных ведаў, ні практычных навыкаў, адразу выбіраюць складаныя схемы і па іх пачынаюць збіраць прыёмнік або ўзмацняльнік. У часе работы ў такіх рабят узнікае шмат пытанняў, якія яны самастойна не здольны вырашыць. Таму іх канструкцыі часта так і застаюцца незакончанымі. Толькі дасканала ведаючы прынцыпы работы радыёпрыбора, прызначэнне ўсіх яго дэталей, а таксама навучыўшыся добра слясарнічаць, майстраваць, можна пачынаць канструяванне. Чым больш складаны прыбор, тым большыя патрэбна мець веды і навыкі, каб яго сканструяваць. Вось чаму пачынаючаму радыёканструктару трэба пачынаць з простых прыбораў і паступова пераходзіць да больш складаных.

З першай, самай простай канструкцыі радыёаматар павінен вучыцца акуратнасці. Ніколі не трэба рабіць «абы-як», толькі «для спробы», а потым пераробляць.

Як-жа вывучыць радыётэхніку?

З чаго пачынаць канструяванне?

На першых занятках неабходна вывучыць асноўныя паняцці аб радыё, каб ведаць, як адбываецца радыёперадача і радыёпрыём, што такое радыёхваля, якія бываюць радыёхвалі. Трэба вывучыць таксама работу кандэнсатараў, катушак, дэтэктара, тэлефона, іх схематычныя абазначэнні, схему дэтэктарнага прыёмніка, будову антэны і зазямлення.

Потым можна прыступіць да работы над дэтэктарным прыёмнікам. Гэтым нескладаным прыёмнікам пры добрай антэне і зазямленні можна прынімаць блізкую магутную станцыю. Трэба сказаць, што работа над дэтэктарным прыёмнікам, які з'яўляецца звычайна першай радыёканструкцыяй аматара, адыгрывае важную ролю. Ад таго, як зроблены прыёмнік і як ён працуе, вельмі часта залежыць далейшая зацікаўленасць радыёаматара сваёю справай.

Паглядзім, як лепш зрабіць гэты прыёмнік. Вось адзін з варыянтаў яго схемы (мал. № 1). Каб зрабіць яго, трэба не многа дэталей: чатыры пастаянныя кандэнсатары, катушка з адводамі, дэтэктар, тэлефон, тры парныя гнязды для ўключэння антэны і зямлі, дэтэктара і тэлефона, два простыя пераключальнікі. Перш чым прыступіць да зборкі, неабходна прызапасіць гэтыя дэталі. Тады можна будзе іх больш зручна і прыгожа размясціць, вызначыць памер скрынкі. Правіла аб тым, што нельга пачынаць рабіць канструкцыю, не маючы ўсіх неабходных дэталей і матэрыялаў, варта строга выконваць заўсёды. Асабліва гэта важна, калі бяруцца за работу над складанай канструкцыяй. Інакш яе давядзецца пераробляць некалькі разоў, падганяць тую ці іншую дэталь, і ў выніку канструкцыя атрымаецца нехайнай, з мноствам непатрэбных адтулін, драпін і г. д.

Размяшчаць дэталі трэба так, каб правады, якія іх злучаюць, былі як мага карацейшымі, што дасягаецца прыкладна такім-жа размяшчэннем іх на панелі, як на прынцыповай схеме. Варта заўважыць, што такая вялікая дэталь, як катушка, павінна размяшчацца на сярэдзіне панелі, дзе вядзецца мантаж. Астатнія дэталі пажадана размяшчаць сіметрычна. У выніку панель з дэталямі будзе мець выгляд згодна малюнка № 2 (выгляд знутры) і малюнка № 3 (выгляд звонку).

Мантыраваць дэтэктарны прыёмнік можна ў фанернай скрынцы і на фанернай панелі. Трэба, каб скрынка была зроблена акуратна, пакрыта лакам, а яшчэ лепш—адпаліравана; пажадана надаць ёй які-небудзь цёмны колер, каб яна не забруджвалася. Усе сценкі яе трэба рабіць па вугольніку і дакладна выраўноўваць. Важна, каб першая канструкцыя была зроблена з любоўю, прыгожа.

Калі дэтэктарны прыёмнік асвоены, устаноўлена антэна, зроблена зазямленне і громапераключальнік, можна прыступіць да вывучэння лямпавых прыёмнікаў. Спачатку трэба вывучыць радыёлямпы, іх будову, работу, канструкцыю, а потым — схемы лямпавых прыёмнікаў, іх асаблівасці, работу асобных каскадаў, спосабы жыўлення, асаблівасці канструявання. Калі будзе зразумета прызначэнне кожнай дэталі згодна схемы, можна пачынаць канструяваць лямпавы прыёмнік. Не абавязкова, канешне, майстраваць аднаямпавы, а потым двух-і трохлямпавы. Можна адразу ўзяцца, скажам, за трохлямпавы прыёмнік, але зноў-такі трэба рабіць яго абдумана, акуратна, калі набыты ўжо ўсе дэталі.

Прыборы, якія працуюць на радыёлямпах, лепш за ўсё мантыраваць на металічным шасі. Усе дэталі, якія адносяцца да адной лямпы, размяшчаюцца каля яе, а правады, што злучаюць іх, павінны быць па магчымасці кароткія. Але тут гэта выклікаецца не толькі акуратнасцю, але і неабходнасцю! Доўгія правады, якія размешчаны блізка адзін ля другога і адносяцца да розных лямпаў (каскадаў), могуць прывесці да шкодных сувязей паміж каскадамі, і прыбор у такім выпадку нельга будзе настроіць. Настройванне патрабуе кожны радыёпрыбор, і чым лепш ён зроблены, тым лягчэй яго настроіць.

Размяшчэнне дэталей па шасі ў значнай ступені вызначае і знешні выгляд прыбора. Як размясціць восі органаў кіравання, блок пераменных кандэнсатараў, шкалу, дынамік і іншыя дэталі? Усе гэтыя пытанні трэба вырашаць загадзя, з улікам вонкавага выгляду канструкцыі. Трэба імкнуцца да сіметрычнага размяшчэння органаў кіравання, шкалы, дынаміка. Не варта захапляцца занадта малымі памерамі фільтра (скрынкі), бо пры гэтым ускладняецца мантаж, пагаршаецца гучанне, якое ў значнай меры залежыць ад памеру скрынкі і яе канструкцыі.

Першую канструкцыю лямпавага прыёмніка раім рабіць па гатоваму апісанню з тэхнічнай літаратуры. Вядома, у аматара магчыма і не будзе такіх дэталей, якія паказаны ў той канструкцыі, і таму давядзецца ўносіць элемент сваёй творчасці. Чым больш аматар будзе рабіць розных канструкцый, тым лепш будзе развівацца яго канструктарская думка. Аднак кожную пачатую працу патрэбна даводзіць да канца.

Радыёаматар-канструктар, працуючы над прыёмнікам, абавязкова павінен мець рад прыбораў. Так усе злучэнні правадоў і дэталей у радыёапаратуры робяцца з дапамогай паяння. Для паяння лепш прымяняць электрычныя паяльнікі, якія можна купіць або зрабіць самому. Абмотка на самаробным паяльніку звычайна робіцца з кавалку спіралі ад электрапліткі даўжынёй 0,5—0,8 метра. Такі паяльнік уключаецца пасядоўна з плíткай ці чайнікам у электрасетку або цераз паніжаючы трансфарматар. На яго патрэбна напружанне 12—18 вольт.

Для настройвання, праверкі радыёапаратуры патрэбны таксама вымяральныя прыборы. Прасцейшыя з іх можна зрабіць самому. Для праверкі спраўнасці ланцугоў можна, напрыклад, сабраць прасцейшыя пробнікі, а для вымярэння напружання — прасцейшыя вольтметры.

Пры канструяванні сучаснай радыёапаратуры патрэбны, зразумела, не толькі гэтыя прасцейшыя прыборы, але многа іншых. Але зрабіць іх пад сілу толькі вопытным радыёаматарам. Гэта — генератары стандартных сігналаў, гукавыя генератары, асцілографы, лямпавыя вольтметры і г. д. Гэтыя прыборы ёсць у радыёклубах, і аматары могуць імі карыстацца.

Варта заўважыць, што кожная радыёканструкцыя павінна быць закончанай, гэта значыць, настроенай у электрычнай сетцы і мець добры знешні выгляд. Металічныя дэталі—шасі, розныя скобкі лепш фарбаваць алюмініевым парашком, разведзеным на нітралаку. Фарбаваць трэба пульверызатарам пасля таго, як гатовы ўсе асноўныя адтуліны. Металічныя футляры афарбоўваюцца эмалевай ці нітраэмалевай фарбай. Драўляныя скрынкі для прыёмнікаў звычайна фанеруюцца каштоўным дрэвам—арэхам, карэльскай бярозай, дубам — і паліруюцца. Шкалу прыёмніка можна зрабіць фатаграфічным спосабам, намаляваўшы яе ў павялічаным выглядзе на аркушы паперы з усімі надпісамі, а затым сфатаграфаваць на пласцінку патрэбнага памеру. Атрыманы негатыў і будзе служыць шкалой з цёмным фонам і светлымі надпісамі.




Мал. 1.




Мал. 2.




Мал. 3.

# Гумар і сатыра

Мал. А. Волкава

вершы А. Вольскага.




Ідзе ў райкоме эстафета:
адзін ледзь дачытаў даклад,
другі
даклад хапае гэты,
каб к часу трапіць акурат.
А там —
няцяжка нам прыкмеціць —
на «старце» ўжо чакае трэці...
хто яны —
дакладчыкі ці проста бегуны?



— «Вось незвычайная прыгода!
ў тэатры не злічыць народу.
А я-ж учора
п'есу ўшчэнт разнёс...»
У крытыка такога —
цяжкі лёс.




Вось гэты крытык —
справядлівы дужа,
і добрым ён бывае
і суровым.
Вядомым
ён заўжды падносіць ружы,
а маладым —
мятла ў яго гатова.




А гэты крытык —
вадалей,
салодкі, прыкры,
як ялей.



бо на карціне,
што хваліў без меры,
зусім адзін сядзеў ён у партэры.

НА МІНСКІМ ЧЫГУНАЧНЫМ ВУЗЛЕ ДРЭННА УКАРАНЯЮЦЦА ПРАПАНОВЫ РАЦЫЯНАЛІЗАТАРАУ.

(Па сігналах моладзі)






